Ніл Гілевіч

# Як дрэва карэннем

*Вершы і паэмы*

Мінск
Юнацтва
1986

# Люблю цябе, жыццё,
# любоўую кроўнай.

* * *

Люблю цябе, жыццё, любоўю кроўнай.
Я не нахлебнік твой. Я на зямлю
Не для таго прыйшоў, каб жменяй поўнай
Уцехі браць. Я — аддаваць люблю.

Тым, што зрабіў, любоў я вымяраю.
І калі мой апошні час праб’е,
Павінен ведаць я, што паміраю,
Аддаўшы ўсё да кропелькі — табе.

## ЛАСТАЎКА

Ластаўка, птушка мая!
Помню, малы яшчэ быў —
Слухаў, прачнуўшыся, я
Твой мілагучны шчэбет.

Сонца лілося з двара.
Промень шукаў мой ложак
«Гэй, уставаць пара!»
Ах, як было прыгожа!

Вечар настаў затым.
Ляскалі стрэлы недзе.
Страшны агонь і дым
Доўга клубіўся ў небе.

Ластаўка, птушка мая,
Як рассталіся тады мы —
Дзе, у якіх ты краях
Сніла блакіт радзімы?

Збеглі гады жуды.
Сном мне вайна здаецца.
З новага коміна дым
Зноў над страхой віецца.

Зноў, як калісьці, я
Шчэбет знаёмы чую:
— Ластаўка, птушка мая,
З мірам цябе віншую!

Можаш рабіць сабе дом
Ці над акном, ці вышай…
Ластаўка мне крылом
Штосьці ў паветры піша.

* * *

Высока ў небе воблачка плыве,
Плыве бялюткае, адно ў блакіце.
Яму ці сонцу ў чыстай сіняве
Жняярка крыллямі махае ў жыце?

Яму ці сонцу з берага ракі
Смяюцца дзеці — рэха тоне ў далях?
Яго ці сонца ловяць хлапчукі
Рукамі загарэлымі на хвалях?

Яму ці сонцу весела пяюць
Жанкі ў палях, забыўшыся на стому?
Яно ці сонца? — хочацца зірнуць
У вочы любай хлопцу маладому.

Жыццё і радасць, праца і любоў —
На ўсё тут сэрца песняй адгукнецца!
Не воблачка — чародка галубоў
Над уваскрэслаю зямлёй віецца.

* * *

Па рэспубліцы восень ідзе.
Кажуць, рысы старыя захоўвае.
Гэтаксама стаіць на вадзе
Пачарнелае лісце альховае.

Векавыя каштаны ў двары
Асыпаюць плады рудабокія...
Толькі ёсць і другія дары,
Што кранаюць пачуцці глыбокія.

Восень зроду такой не была:
Залатая, пахучая, цёплая,
У засекі пудамі прыйшла,
Узнялася стагамі на поплаве;

Засвяцілася рунню ў палях —
Морам шчодрай і ласкавай зелені.
А яшчэ — маладая ў гадах —
Наша восень багата вяселлямі.

Сёння ў роднай маёй Слабадзе
Бачу я не журбу вераснёвую:
Не павук павуціну вядзе
Пад страху чарапічную новую —

Гэта провад абвіў на сцяне
Ізалятараў белыя кубкі...
Вось чым сёння хвалюе мяне
Лістапад на дарогах рэспублікі.

* * *

*Н.*

Я ні з кім да цябе так не гутарыў шчыра,
І акрылены гэткі не быў я ні з кім.
Будзе песня нялёгкай і труднай, магчыма,
А яна пачыналася проста зусім.

Мы вярталіся з працы. Суботнік быў дружны:
Парк садзілі над Свіслаччу з гуртам сяброў.
І чамусьці назад шлях абралі акружны,
І чамусьці адкрыліся сэрцы для слоў.

Мы адчулі тады: нас яднае адданасць
Нашай роднай зямлі — шматпакутнай, святой.
Тыя хвілі ніколі не сыдуць у даўнасць,
У жыцці не забыцца мне радасці той.

Мы ішлі па шырокім праспекце сталіцы,
Дзе ў карунках прысадаў — палацы-дамы.
Мы ішлі, а калі нашы рукі спляліся
У гарачы замок — не заўважылі мы.

Горад, сонцам заліты, стаяў прад вачыма,
Як ніколі прыгожы ў абліччы сваім…
Будзе песня нялёгкай і труднай, магчыма,
А яна пачыналася проста зусім.

## З ГАДОЎ МАЛЕНСТВА

“Кіно прыехала! Кіно прывезлі!» —
Мы першыя пачулі з дружбаком,
І беглі вуліцай, і колькі ўлезе
Крычалі з радасцю каля акон.

Перавярнуўся ўвесь дзіцячы свет наш!
На м цэлы дзень не да яды было.
І пастушкі раней — яшчэ засветла —
Прыгналі з пашы статак у сяло.

Быў новы клуб запоўнены дарэшты.
І быў такі парадак: дзетвара
Сядзела ўперадзе, ля ног старэйшых,
Каб аж рукою даставаць экран.

Пастрой прыўзняты, гоман, нецярпенне.
І вось «дынамка» ўрэшце загула,
І прасціна вялізная на сцэне
Пад яркім промнем раптам ажыла.

Не ўсё, напэўна, ўцямілі мы, дзеці,
Хто што рабіў і хто што гаварыў,
Але калі ўзвялі белагвардзейцы
Атрад кранштатцаў на круты абрыў

І хвалі мора прынялі герояў,
Па ўлонні чорным скрыўшы іх навек,—
Мне горкі ком здавіў дыханне ў горле
І слёзы высыпалі з-пад павек.

Гадам ніколі ўжо тых слёз не сцерці,
І, верны даўняй мары хлапчука,
Я аб адным прашу: спяшайся, сэрца!
І вастрэй, мой зрок! Цвярдзей, мая рука!

## МАТРОС З ЭСМІНЦА

Малады матрос з эсмінца
На пабыўку прыязджаў.
Інтэрнат жаданы ў Мінску
Хлопец лёгка адшукаў.
На сустрэчу меў ён права.
Дык дзяўчатам — як-ніяк —
Паглядзець усё ж цікава:
Што ў сяброўкі за марак?

У пакоі акуратным
Хлопец гутарку вядзе.
Добра з любаю. І раптам —
Стук у дзверы: хтось ідзе!
— Выбачайце, калі ласка,
Я не знала, што тут госць.
Можа ёсць у вас жалязка,
Дык пазычце, калі ёсць…

Праз хвіліны дзве, не болей,
Зноў у дзверы хтось глядзіць
- Ці няма ў вас часам солі?
Дайце кашу пасаліць.
А затым прыйшлі па кніжкі
(Хоць у іх свае былі),
Потым кружкі, міскі, лыжкі
Да суседзяў паплылі.

Дзіва проста! Ці не хопіць?
Колькі можна пазычаць!
Разгадаў, нарэшце, хлопец
Гэту тактыку дзяўчат.

Усміхнуўся хітравата
Да сяброўкі дарагой:
— Як відаць, у вас дзяўчаты
Разбяруць увесь пакой.
Узняла сяброўка вочы,
Вочы яснай пекнаты,
І сказаў пагляд дзявочы:
«Ох, застаўся б толькі ты!»

## ВЯСНА

Аж глушыць
Птушы грай прылётны!
Па жаўруковаму званку
Вясна кужэльныя палотны
Скачала ў трубы —
І ў раку.

Дыміцца, томячыся, поле.
Свіціцца зелень першых траў.
Ізноў вачам уцехі болей,
Рукам і сэрцу —
Болей спраў!

## ПЕРШЫ СНЕГ

Раптам нейк, без залётных сняжын-вестуноў,
Паваліў, нібы хтось яго кідаў ахапкі;
Не ўтрымаўся і выпаў з абдымкаў кляноў,
Пераняў на праспекце студэнта без шапкі…

Першы снег!
Першы снег!..
Быццам школьнік, бягу
Падзяліцца з табой гэтай радасцю светлай,
Бо я з ёю адзін саўладаць не магу,
Мабыць, звычка такая прыйшла непрыкметна…

Вось і дом на рагу.
У знаёмым акне
Калыхнулася крылле карункавых штораў.
А мо гэта здалося, шчасліваму, мне?
Мо мільгнулі сняжынкі дзівосных узораў?

Першы снег!
Першы снег!
Дык хадзем жа хутчэй
З гэтых надта утульных сягоння пакояў
На прастор для душы,
На святло для вачэй!
Любаваннем з акна не заменіш такое.

## ПЕСНЮ БЯРЫЦЕ З САБОЮ

Калі не жадаеце знацца ў жыцці
З назойлівай скрухай-журбою,—
Куды б ні прыйшлося паехаць, пайсці,—
Песню бярыце з сабою!

Ці клікне вас мора туманная даль
Нямоўкнучым гулам прыбою,—
Пакіньце на беразе смутак і жаль!
Песню бярыце з сабою!

Ці, можа, дарога лягла праз тайгу,
Нязведанай нетрай глухою,—
Выкіньце з ранцаў і сэрцаў тугу!
Песню бярыце з сабою!

Калі вы друг другу руку падалі,
Каб крочыць дарогай адною,—
Забудзьце, што гнездзіцца сум на зямлі,—
Песню бярыце з сабою!

Калі ж над Радзімай прамчацца вятры —
Прадвеснікі блізкага бою,—
З вінтоўкай, з гранатаю разам, сябры,
Песню бярыце з сабою!

* * *

Моўчкі ўскінула вочы,
І замёр я на міг.
Сумны позірк дзявочы
У душу мне пранік.
І не сніў, і не думаў,
Што спаткаю калі
Столькі светлага суму
На вясновай зямлі!

Як завуць і адкуль ты,
Дзе твой родны парог,—
Нерашучасцю скуты,
Я спытацца не змог.
Сэрца покліч гарачы
Не прарваў нематы.
Абярнуўся і ўбачыў:
Аглянулася ты!..

Выпадковыя стрэчы,
Без паклону, без слоў,
Адыходзяць у вечнасць
Мілай казкаю-сном.
Я ж у сэрцы нязменна
І дагэтуль нясу
Сініх воч задуменных
Неразгаданы сум.

Можа, раніца тая
Проста ў зман завяла?
А быць можа — хто знае!
Гэта ты і была,
Ты, адзіная ў свеце,
Лёс мой, зорка мая,
Аб якой аж да смерці
Шкадаваць буду я.

* * *

Зноў над роднай зямлёй
Вее водарам хмельным, вясновым.
І расце неспакой
З кожным днём,
З кожным лісцікам новым.
Коле ў сэрца вясна
Кожнай новай травінкаю-кветкаю:
Як ты ладзіш адна,
Без мяне, з чараўніцаю гэткаю?

Там, напэўна, гаі,
І ўсю ноч, ап’янеўшы ад маю,
Там пяюць салаўі.
Ах, я знаю іх песні, я знаю!
І не сплюшчыць мне воч,
І трывога мая не рассеецца:
Хіба жарты — ўсю ноч,
Усю ноч салаўі за аселіцай!

У той край, да цябе,
Мае думкі лятуць, мае песні.
Там, напэўна, цяпер
Зацвітае чаромха на ўзлессі.
Як жа буду я спаць,
Калі квецень духмяную, белую,
На букеты ламаць
Хлопцам тамашнім можна насмелую!..

**МАЦІ**

Я ўзыходжу на двор,
Я кажу ёй: «Са святам!»
І цалую знаёмыя родныя вусны,
І бяру пад руку,
І іду з ёй у хату,
Дзе ад прыпечка б’е
Дух гарачы капусны.

Я гляджу ў яе вочы,
Што свецяцца шчасцем,
Гладжу рукі сухія,
Прапахлыя зеллем,
І хілюся да сэрца…
А трэба б упасці
Перад ёю — нядужай, сівой —
На калені…

Вочы маці!
У доўгія зімнія ночы
Вы над намі
Вясёлымі зоркамі ззялі,
Вы ў нясцерпнай дрымоце
Зліпаліся, вочы,
І ўсё ж усміхаліся нам,
Забаўлялі…

Рукі маці!
Вы ў працы не зналі прынукі,
Вы насілі штогод
Мазалі, як бабіны,
Вы аж нылі увечары,
Мілыя рукі,
Спавіваючы нас
Перад сном галубіным.

Сэрца маці!
Наш боль быў тваім,
Не іначай,
Сорам наш
Ты насіла вялізарным горам,
Кропля ж кожная
Радасці светлай дзіцячай

Напаўняла цябе,
Разлівалася морам…

А цяпер ёй —
Адно б на сынка наглядзецца…
Жаль, і горыч, і боль
Мне душу працінае:
Як жа позна,
Як позна — любімыя дзеці —
Мы няўдзячнасць сваю
Разумець пачынаем…

**МАЁВАЕ**

Адзвінеўшы ледзянымі крыгамі,
Улягліся рэчкі ў берагі.
Прывітаны радаснымі крыкамі,
Бусел робіць першыя кругі.

Даль, абмытая дажджамі шпаркімі,
Ясным вырысам чаруе зрок.
Поплаў краскамі прыбраўся яркімі,
Кліча ў госці да сябе здалёк.

Ты ідзеш абсохлаю абочынай
Пакланіцца руням маладым.
Над палямі — жаўранкі нязмоўчныя,
Над дубровамі — зялёны дым.

А ў душы — прасторна, лёгка, весела:
Май ідзе праз нівы і бары!
І на ўсіх прасцягах краю весняга
Чуюць крок яго тваё сябры.

І таксама радуюцца зелені,
Сонцу яснаму над галавой,
Небу сіняму, палям засеяным,
Шэпту ліўняў з лісцем і травой!

І з усіх грымот — у мірным клопаце —
Толькі той жадаюць слухаць гром,
Што пупышцы памагае лопацца,
Каб хутчэй раскрылася лістком!

## ДОЖДЖ ПРАЙШОЎ

1
Дождж прайшоў,
І на траве, на лісці
Зіхацяць, гарацць
Брыльянты-росы...
Як любіў я ў гэты час
Калісьці
Па вясёлых лужах
Бегаць босым!..

Дождж прайшоў —
І водарам п’янлівым
Пацягнула з маладога бору,
І сцяблінка кожная на ніве
Пераможна пазірае ўгору.

Дождж прайшоў —
І з сэрцам зладзіць цяжка:
Птушкай рвецца ў чыстае раздолле!
І на грудзі поўныя, ўзацяжку,
Не надыхацца ніяк уволю.

Дождж жыцця,
Зялёных долаў свята,
Радасць сейбітаў
У дзень вясновы!
Слаўлю спеў твой,
Ціхі і заўзяты,
І адвечны і заўсёды новы!

2
...Недзе дождж прайшоў —
Па схілах горных,
Па садах, дзе белыя налівы,
Ды не той —
Гаючы, жыватворны,
А — атрутны, смертаносны лівень!

Дождж прайшоў —
І ў пенным сырадоі,
У вадзе з чысцейшае крыніцы,
У даспелым яблыку мядовым —

Смерць бязлітасная ўжо таіцца…

Дождж пакут…
З чыёй маўклівай згоды
Ён стаіць у небе чорнай хмарай —
Над буянай радасцю усходаў,
Над вялікаснай людскою марай?!

Я крычу да ўсіх маўклівых:
— Людзі!
Страшны дождж прайшоў!
Сягоння — дзесьці.
Ну, а заўтра —
Дзе ён заўтра будзе?
…Ці ж у вас не падрастаюць дзеці?

* * *

І бурныя хвалі, і вецер, і хмары,
І я ля штурвала не зводжу павек…
О светлыя мары, далёкія мары,
Я ж думаў, вы ў сэрцы заснулі навек!

А зараз стаю на ўзбярэжжы пад ветрам,
І сум нарастае ў душы, як прыліў,—
Па нечым вялікім, прыгожым і светлым,
Што страчана мною — не знаю калі.

Кідаць жа, на шчасце, не ўсцешана сэрца
Трывогамі дробных будзённых згрызот,
Калі так узрушана б'ецца і рвецца
Туды, дзе, здаецца, кіпіць гарызонт.

## СІННЯ ПУШЧА

Значыць, гэта не жарты,
Маці праўду сказала:
«Позна ўспомніў, на жаль, ты,
Сіняй пушчы не стала...»

Сіняй пушчы не стала!
Хіба гэта магчыма?..
Сумна-шэрае гала
Ледзь акінеш вачыма.

Тут іграла калісьці
Неба шумна-вясёла.
А цяпер — абеліскі,
Пні-пянёчкі наўкола...

Толькі воддаль на ветры
Дзве яліны крывыя,
Быццам могільнік гэты
Сцерагуць вартавыя.

Дзе ж ты дзелася, пушча?
У палац твой зялёны
І спякотай і сцюжай
Я прыносіў паклоны.

Летам выбежаш рана,
Схопіш кошык лазовы
І ляціш расхлістаны
Пад знаёмыя сховы.

Тут усё нерухома.
Дакранешся да лапак —
І пакоціцца холад
За каўнер між лапатак.

Ды і коляцца ж лапкі!
Толькі ты іх не чуеш:
Чарнамызыя бабкі
Асцярожна карчуеш.

Як жа ў засень ад сонца
Пахаваюцца росы,

Будзеш слухаць бясконцы
Гоман-спеў стогалосы.

Колькі іх тут, бывала,
Шумаў-гукаў лілося!
Колькі казак не стала!
Колькі песень звялося!

Колькі песень няспетых
Тут навек пахавана!
Колькі срэбрана-светлых
Ручаёў абарвана!..

У якія ж турботы
Я, зямляча, паверу?
Ці падумаў, на што ты
Апускаў тут сякеру?

Дзед твой спадчыну бацькі
Дзецям цэлай пакінуў.
Як жа мог ты пазбавіць
Гэтай спадчыны сына?

Ганарыўся па праву
Продак пушчаю Сіняй.
Як жа мог ты пазбавіць
Гэтай гордасці сына?

А напэўна ж захочаш
Ты патомкам далёкім
Смела глянуць у вочы
З сэрцам чыстым і лёгкім?

Гэта права займееш,
Калі ў працы кіпучай
Кожны пень ты заменіш
Новай Сіняю пушчай.

* * *

Цуд тварыўся — я праспаў:
Снег дасвеццем перапаў
Рана-рана.

І ляжыць ён на дварах,
На парканах, на дравах —
Чысты-чысты.

Для гасцей абрус у нас
Сцеляць гэтакі якраз
Белы-белы.

Счараваў вяскоўцаў снег:
Хоць бы слова, крык ці смех,
Ціха-ціха.

Моўчкі й я стаю ў цішы,
І так лёгка на душы,
Светла-светла...

* * *

Лёгкая, як воблачка,
Як прыпеўка ў песеньцы,
У бліскучых лодачках
Збегла ўніз па лесвіцы.

Стала на пагорачку,
Глянула навокала,
«Ой, як сёння хораша!» —
Ад здзіўлення войкнула.

Дзе ж яно, прызнайцеся,
Шчасце ў сэрцы змесціцца,
Калі да шаснаццаці
Не хапае месяца!

Я ўсміхнуўся ветліва —
Проста так, па шчырасці.
Паглядзела здзекліва:
«Ой, які маршчыністы!

Як яму не сорамна
Быць такім няўклюдаю!»
І пайшла, вясёлая,
Вуліцаю люднаю.

Лёгкая, як воблачка,
Як прыпеўка ў песеньцы,
У бліскучых лодачках —
Не мая равесніца.

**ЛЕСАМ ПЕСНЯ ІШЛА...**

Сосен зябкія плечы
Цішыня спавіла.
Мне насустрач здалечы
Лесам песня ішла.

Вечаровай часінай
Зазвінела ў глушы
Нерастрачанай сілай
Чыстай юнай душы.

І было зразумела:
Тут не сорамна ёй
Нечаканай, нясмелай
Першай тайны сваёй.

Тут баяцца не трэба,
Што пачуюць цябе.
Тут ёй кожнае дрэва
Спагадае цяпер.

Я стаю за ядлоўцам —
Хай спакойна міне...
І вянок на галоўцы,
І каса на спіне.

А ў руках — басаножкі:
Назнарок іх зняла,
Каб адчуць, як патрошкі
Сцежка стыць пачала.

Крочыць просекай-сценкай,
Як тунелем, адна.
Маладой-маладзенькай
Мне здалася яна.

І — на подступах ночы —
Добра бачна было,
Што спяшацца не хоча
Гэта песня ў сяло.

## НЕ ПЫТАЙСЯ, МАЦІ

Не пытайся, маці,
Не шукай прычыны,
Вечарамі ў хаце
Не трымай дзяўчыны.

Ёй нялёгка, мабыць,
Расказаць пра тое,
Што так моцна вабіць
Сэрца маладое:

Ці таполяў стромкіх
Таямнічы шолах?
Ці зарніц далёкіх
Пераміг вясёлы?

Ці мядункі ў лузе
Водар вечаровы?
Ці вачэй і вуснаў
Змовы-перамовы?..

Не пытайся ж, маці,
Не пярэч ты выйсці:
І цябе ў семнаццаць
Сон не браў калісьці.

Не пытайся ўвечар,
Не сварыся ўранку:
Маладым не вечна
Сустракаць заранку.

* * *

Не пакідай мяне, мой светлы сум,
З табой мне хораша на адвячорку
Хадзіць і слухаць лесу ціхі шум,
Пакуль суцемак не запаліць зорку.

У небе хмаркі, як абрыўкі дум,
Плывуць туды, дзе сонца сядзе хутка.
Гусцеюць цені у лясных закутках...
Не пакідай мяне, мой светлы сум.

* * *

Мой сіні бор, мой родны бор зялёны!..
Ён ёсць у кожнага — свой бор, што вабіць,
Свой мілы кут, свае бярозы й клёны,
І ёсць свая лясная тайна, мабыць...

Дык будзь жа ты навек благаслаўлёны!
Адзін ты знаеш, дружа мой маўклівы,
Які быў я ў цябе ў гасцях шчаслівы,
Мой сіні бор, мой родны бор зялёны!..

* * *

У тым сяле, дзе я не быў ніколі
І нават дзе яго шукаць — не знаю,
Ёсць хата ў яблынях, парог якое
Я толькі ў сне парой пераступаю.

І зноў і зноў там —
                        ледзь сцямнее ў полі —
Хаджу, як прывід, блукаю да ранку —
Усё запаветную шукаю брамку
У тым сяле, дзе я не быў ніколі.

* * *

Цішы спакотнай не веру.
Знаю, што тоіцца ў ёй:
Можа з малога павеву
Бура ўзляцець над зямлёй.

Грымне — начыста зламлюся,
Рухну — як дрэва на дол.
Думаеш: буры баюся?
Цішы, напятай вакол.

## ВЫ ШУМІЦЕ, БЯРОЗЫ

Вы шуміце, шуміце
Нада мною, бярозы,
Калышыце, люляйце
Свой напеў векавы.
А я лягу-прылягу
Край гасцінца старога
На духмяным пракосе
Недаспелай травы.

А я лягу-прылягу
Край гасцінца старога,
Галавой на пагорак,
На высокі курган,
А стамлёныя рукі
Вольна ўшыркі раскіну,
А нагамі ў даліну —
Хай накрые туман...

Вы шуміце, шуміце
Нада мною, бярозы,
Асыпайце, мілуйце
Ціхай ласкай зямлю.
А я лягу-прылягу
Край гасцінца старога:
Я здарожыўся трохі.
Я хвілінку пасплю.

* * *

Як ты грымела, як бабахала,
Мая рабінавая ноч!
Стокрылы вецер дол аблахаваў
І вобзем кідаўся наўзбоч.

Як быццам тоўшч нябёс валілася —
Трашчала так над галавой.
Т толькі сэрца весялілася,
Здранцвення скінуўшы павой.

Маланкі бліскалі, мігцеліся,
Як стрэлы, жыхалі здалёк.
І не згадаць, куды ён цэліўся,
Сляпы, разгневаны стралок.

То залатымі дратаванкамі
Крамсалі неба ўшыр і ўдоўж,
Т, як прышпораны маланкамі,
Ляцеў лавінай гулкай дождж.

Нібы дзяцюк, якога здалечы
Да мілай сцежкі прывялі,
Ён упіваўся, прыпадаючы,
У вусны смяглыя зямлі.

Калі б ты знала, ноч грымотная,
Як дыхаць стала мне вальней,
Якой задухі вяззе моцнае
Расшкуматала ты ўва мне!

Прыйдзі ж расстайнаю гадзінаю,
Як дазіхцяць маланкі воч,
Т грымні песняй лебядзінаю,
Мая рабінавая ноч!

* * *

Манатонна, жаласна і сумна
Птушка свішча ў гушчары альховым.
З гарадскога вырваўшыся тлуму,
Я ляжу ў траве пад ціхім сховам.

Ад таго, што сумна й мне чамусьці,
Так прыпаў да сэрца неадчэпна
Гэты свіст самотнай птушкі ў кусце,
Што ляжаў бы тут і слухаў вечна!..

Раптам бачу: між кустоў дзяўчынка.
З ярка-сінім факелам шалфею,
Крочыць ціха вохкаю сцяжынкай,
Як маленькая лясная фея.

Я знячэўку падхапіўся нават:
Можа, гэта проста прыдалося?
— Ты не фея? — запытаў ласкава.
— Не,— крутнула галавой,— я — Зося!

І пайшла... А песню перабіла.
Сціхла птушка. Зноў ляжу ў траве я.
Ах ты, фея! Што ж ты нарабіла!
Ты спалохала мне казку, фея!

Я гляджу на сцішанае неба.
Дзесьці побач — конікавы строкат.
Як жа часам чалавеку трэба
Апынуцца ў казцы ненарокам!

* * *

Ноч.
Цішыня.
На вуліцы — ні душы.
Стаю і слухаю, як у цішы
Зрываецца з галінкі спелы яблык.
Ударыўшыся аб здранцвелы сук,
Ён глуха, мякка жвякне ў баразну.
На сенавал пайду, крыху азяблы,
І доўга-доўга, аж пакуль засну,
Наліваў белых буду слухаць стук.

А раніцой
Смяшлівая дзяўчынка —
Уся ў вяснушках,
З бантам,
Са шчарбінкай,
Яшчэ заспаная — іх пазбірае ў кошык,
І возьме самы буйны і прыгожы,
Крамяны, выкупаны у расе,
Патрэ рукамі (яблык, як навошчаны,
Аж заскрыпіць) і, соладка храбошчучы,
Дадому жнівень спелы панясе.
Маё бяссонне ў хату панясе.

* * *

Як хачу я вярнуцца ў той вечар ліпнёвы на Віцебшчыне,
У той водсвет маланак, пад гулкі захлёбісты лівень,
У той водар садоў, да лісцінкі абмытых і вычашчаных,
У абдымкі тых рук, і даверлівых і палахлівых!

Не, не сціхлі ў душы навальніцы далёкай грымоты,
І не звянула ўсё, што з такімі пакутамі выпешчанае.
О, каб ведала ты, як хвілінаю горкай самоты
Зноў хачу я вярнуцца ў той вечар ліпнёвы на Віцебшчыне!

* * *

Не гаманіце, вербы, не будзіце,
Не грайце, ветры, у зялёным вецці:
Яна ўсю ноч пракаратала з дзіцем
І задрамала толькі на дасвецці.

Няхай прысніцца ёй лясная казка:
Палянка ў пушчы, ціхі гуд чмяліны,
Бяжыць хлапчук, а ў кулачках — маліны...
Не гаманіце ж, вербы, калі ласка.

**АБ РЫФМАХ І ХЛЕБЕ НАДЗЁННЫМ**
*(Ліст маладому калегу)*

Разышоўся ты, хлопча,—
Ну, проста бяда:
І бацькі і дзяды —
Скора будуць усе ў пляўках.
І песні іх шчырыя бэсціш —
Нават тых не шкада,
Што складзены ў мінскім астрозе,
Што спеты ў Ляўках.
Натрасаючы пафасна ўласнымі вершамі
(Хаця вершы замешаны рэдзенькай,
Выхваляешся рыфмай —
Нібыта навейшаю,
Якой не было ў папярэднікаў.
Мілы мой!
Калі справа ўся ў рыфмах —
Магу пацягацца:
Будзь упэўнен, што я цябе выматаю!
Я такую, брат, рыфму выдумаю —
Непрычэсаную і нявымытую,
На якую дадуць тваіх дваццаць!
Толькі... знаеш:
Сама па сабе гэта рыфма —
Каму яна трэба?
Ёю ў сэрцах людскіх
Не заменіш надзённага хлеба.
Тым, хто поле плугамі варочае,
Хто пры домне сочыць за плаўкай,—
Толькі праўда патрэбна —
Святая, прарочая,
І ідуць яны — толькі за праўдай.
І складаную рыфму прымаюць і простую —
Толькі б песня ўталяла ім
Даўкую смагу,
Як з крынічнай вадою
Карэц бяроставы —
Каб ажно крактануць ад смаку!
Толькі б песня была
Неспадманна-сапраўдная,
Як зямля,
На якой мы сваё адтэпаем,
Як пасля навальніцы —

Ліпнёвая раніца,
Як пшанічнае мора ў бязмежжы стэпавым.
Хай жа гэткай прыходзіць яна й да цябе.
І не трэба,
Прыбраўшыся моднай адзежынай,
Глядзець на сяброў па вялікай сяўбе
Толькі з плёвага пункту гледжання.

* * *

Белыя сыплюцца долу крышталікі,
Белыя крышацца хмаркі ўгары.
Сосны захутаны ў белыя шалікі.
Белая мітусь у белым бары.
Белая мяккая ціша няхрусткая,
Белай дрымотай спавіты кусты.
Белая казка... Зіма беларуская...
Што ж мне не дорыш снягурачку ты?..

## ПРА ДЗЯДОЎ І ЗЯМЛЮ

У лясной старане,
Дзе адвеку не мераць на грошы
Ні закуску, ні чарку,
Ні шклянку халоднай вады,
Начаваў я калісьці,
У час той — ні лепшы, ні горшы,
Калі ўдарнаю сілай
Лічыліся ў вёсцы
Дзяды.

...Дзеркачом абабіўшы валёнкі
(На працы быў дзесьці),
Ён прысеў каля грубкі.
Ільдзінкі плывуць з барады.
— Цяжкавата зімою?
— Памог бы!..
— А дзе вашы дзеці?
— Дзеці? Там, дзе і ты, брат...
Па шчасце пайшлі ў гарады.

— Ну, чаго так глядзіш? —
Пераняў мой збянтэжаны позірк.
— Я адсюль не сыду ўжо,
Калі не сышоў малады.
Ад зямлі уцякаем.
А хлеб сюды з горада возім...
Чым далей ад зямлі мы збяжым,
Тым бліжэй да бяды.
Самакрутку скруціў,
Прыпаліў з вугалька на далоні.
Зацягнуўся да кашлю.
Высокі,
Сутулы,
Худы.
Доўга слухаў я скаргі,
Губу прыкусіўшы да болю,
І маўчаў як нямы.
Ды і што мог сказаць я тады?..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
У лясной старане,
Дзе адвеку не мераць на грошы
Ні закуску, ні чарку,

Ні шклянку халоднай вады,—
У чаканні сыноў і дачок —
Са жніва ці з пакошы —
Забаўляюць унукаў
І свецяцца ўцехай
Дзяды.

* * *

Бярозы ў яркай стыні.
Мароз і цішыня.
Як гэты срэбны іней —
Я чую — дні звіняць.

І сыпяцца патроху
З маіх галін-гадоў
На белую дарогу,
На ўсланы снегам дол.

Ах, сонечныя гурбы!
Калі вас намяло?
Пасіверылі губы,
Пасеклася чало.

А ўсё яшчэ здаецца,
Я там, далёка там…
На пыльнай вулцы ўвечар
Стаіць вясёлы гам.

Матуля каля дому
Малечу кліча спаць.
Запознена, знаёма
Калёсы тарахцяць.

У доўгай бурцы конюх
Пляцецца на начлег.
Ля ціхіх падаконняў —
Пярэшапты ды смех.

Драч дзесьці безупынку
Крычыць: «Па-ра! Па-ра!»
Як ластаўка, дзяўчынка
Выпырхвае з двара.

У чорненькай спаднічцы,
У блузцы з міткалю
Бяжыць, каб не спазніцца
На першае «люблю»…

О мілыя трывогі!
Дарма тужу, дарма!
Назад да вас дарогі

Ад гэтых гурб — няма.

Дзяўчыначку, што бегла,
Мне боязна сустрэць:
Пакуль жыву — ёй нельга,
Няможна ёй старэць!

Пакуль той вечар дзіўны
Я ў памяці нашу,
І веру ёй адзінай,
І сам сабе хлушу,

Што будзе зноў змярканне,
І будуць клёны ў сне,
І першае спатканне
Прадоўжыцца ў мяне.

* * *

Замірае,
Сціхае
Мая залатая дуброва,
Асыпае,
Скідае на дол Свой задумлівы ўбор.
Не звініць і не льецца
Раздольна-вячыстая мова,
Толькі шорхат сухі пад нагамі,
Як скарга-дакор.

А нядаўна ж яшчэ —
На пачатку нядоўгага лета —
Божа мой,
Што рабілася тут,
Што за свята было!
Як усё бушавала,
Буяла лістотай і цветам,
Як усё гаманіла,
Спявала,
Гукала,
Гуло!

Колькі радасці
Чулася ў кожным
разбуджаным гуку!
Колькі сілы
Ўкладалася ў сокат,
І строкат,
І свіст!
Кожны парастак прагнуў
Узвысіцца дрэвам магутным,
Кожны лісцік хацеў
Разрасціся ў агромністы ліст.
Дзе ж падзелася ўсё,
Што заместа вячыстага слова —
Толькі шорхат сухі пад нагамі,
Як скарга-дакор?..
Замірае,
Сціхае
Мая залатая дуброва,
Асыпае,
Скідае на дол
Свой задумлівы ўбор.

* * *

Жнівень, арэхі і жоўтыя восы,
Што заміналі цябе цалаваць.
Першы маток павуціны бялёсы.
Пах пераспелай травы ў галавах.

Недзе на пожні рыпелі калёсы.
Недзе натужна маторы гулі...
Вечная радасць на вечнай зямлі.
Жнівень. Арэхі. І жоўтыя восы.

## РАЎНЯЮЦЬ ХЛОПЦЫ РЭЧКУ

Раўняюць хлопцы рэчку,
Майго маленства рэчку.

Уласна, рэчкі ўжо няма —
Мінулае сканала:
Нібы напятая струна,
Прасцерлася канава.
Віроў, дзе кружыць лісце,
Дзе нас малых калісьці
Русалкамі палохалі,—
Не стала тых віроў,
Дзе шчупакі пялёхалі —
Будзь здаровы
І тых парэчак чорных,
Што над вадой кусціліся,
І птушак незлічоных,
Што ў гушчары гняздзіліся,
Няма, няма нічога.
Раўнюсенькія берагі.
Раўнюсенькае дно.
Як быццам кут зусім другі
Не той, што знаў даўно.

Хоць і шчыміць за рэбрамі,
Я разумею ўсё ж,
Што ўзяць было патрэбна
Аперацыйны нож,
Каб выпусціць смярдзючую,
Гнілую з цела кроў,
Каб сховішча гадзючае,
Раздолле камароў,
Што век гібела пусткаю,
Здзівіла свет капустаю,
Буракамі, рэдзькай...
Не плачу я над рэчкай!
Ліць слёзы недарэчна
Па багне векавечнай,
Па д’яблаў салатопцы...
Выраўнівайце, хлопцы!
Такі ўжо век шыбуе —
Тэхнічны, смелы, дужы.
І гэта не бяда.

Бяда, як хто спрабуе
Раўняць жывыя душы.
Вось душ — шкада!
Хай будуць душы розныя,
Як нашы рэчкі родныя:
І з хвалямі бруістымі,
І з плёсамі празрыстымі,
З нябачнымі крыніцамі,
З вірамі-таямніцамі,
З вадзяніком, з русалкамі…
Стандартам іх не руш!
Хай будуць душы ўсякія,
Апроч нялюдскіх душ!

**ЗРАБІЦЕ ДОЖДЖ!..**

> Дожджык, дожджык,
> сыпані,
> я паеду на кані...

Укамянеў, усохся і патрэскаўся :
З вясны не поены ні разу дол.
Бяда прыйшла на старану палескую:
Ад спёкі нівы чахнуць навакол.

Ужо калоссе ледзьве шэпча: «Горача!»
Марнее плён руплівасці людской:
Апошнюю сцяблінку сцяў за горлачка
Кашчэй-сухмень нябачнаю рукой.

Такой часінаю, спагады просячы,
Тут колісь прашчур тупаў басанож,
Глядзеў на ляда і ў пакутнай роспачы
Маліўся небу, каб паслала дождж.

Ішоў да рэчкі, падуладны магіі,
І, абліваючы сябе вадой,
Шаптаў замовы вуснамі сасмяглымі,
Бездапаможны перад злом-бядой.

Але хіба абрадавымі модламі
З бяздонных высяў выклічаш ваду?..
Не памагу і я вам, нівы родныя:
Няшчасця вершам я не адвяду.

Браточкі-фізікі! А вы ж — вучоныя!
Прыдумайце што-небудзь, чорт вазьмі,
Каб дождж пасыпаўся на нівы чорныя,
Каб не сыходзіла душа слязьмі!

Калі пад гэтым полем з волкай хмарнасці
Па нашай волі ліўні зацурчаць —
Я буду ў дзікай першабытнай радасці
Скакаць і пець, куляцца і крычаць.

Зрабіце дождж, каб па загаду ліў ракой!
Пакуль жа гэтага, сябры, няма —
Не вельмі ж вы і абагналі лірыкаў,
І гэты кліч я шлю вам — нездарма!

* * *

Кажуць: недзе ласкай абышлі
І тым самым скрыўдзілі паэта.
Штосьці языкі тут наплялі:
Не магло яго пакрыўдзіць гэта.

Калі ён не блазен, а паэт —
То ў чарзе за ласкай млець не будзе.
Ласка праўдзе засланяе свет.
Ад яго ж чакаюць праўды людзі.

## ПЕСНЯ Ў АЎТОБУСЕ

У аўтобусе пахне палянай,
суніцамі,
борам.
Дрэмлюць бабкі з кашамі
ды моўчкі клянуць дрыгаццё.
А падлеткі-дзяўчаты,
вясковыя школьніцы, хорам
пра каханне пяюць —
не знаёмае ім пачуццё.

І таму, што не знаюць,
як сэрцу бывае балесна,
нібы птушкі вясной —
так вясёла і звонка пяюць.
Як далёка яшчэ ім
да горкай і радаснай песні,
што — не хорам,
а — толькі ўасобку,
і кожны — сваю!

Так калісьці і я
уздымаўся на крылах ілюзій,
узлятаў да нябёс
і не думаў зусім пра зямлю.
І глядзелі з усмешкай
дарослыя, мудрыя людзі:
то яшчэ не тваё,
не тваё, мілы хлопча, «люблю»

Калі прыйдзе тваё —

будзе песня зусім не такая.
Будзе падаць
і ў кроў разбівацца
на доле сухім!..
Ах, якая ты жорсткая ўсё-такі,
мудрасць людская!
Я даўно ўжо спазнаўся
з прарочым прысудам тваім.

Але ўсё ж у хвіліну,
калі на прыпынак канечны
даімчыць, як аўтобус,
па дрогкіх дарогах жыццё,—
дай мне, божа, пачуць,
як у сэрцах юначых трапеча —
птушкай сініх нябёс —
не знаёмае ім пачуццё!..

* * *

Бомы жаўранкаў у звечарэлым полі,
Там, дзе студзіць цёплы дол раса,
Дзе з жытнёвых каласоў паволі
Выплывае божая краса.

Для няпрагных — гэтага даволі:
У вар'ята-века вырваць міг
І паслухаць моўчкі, удваіх,
Бомы жаўранкаў у звечарэлым полі.

## ПАРАДА МАЛАДЫМ ЧЫТАЧАМ

Вам, маладым будаўнікам і творцам,
Каб меншыя цярпець няўдачы-страты,
У наш вучоны век я раю моцна:
Чытайце казкі, хлопцы і дзяўчаты!

Так, так, старыя казачкі чытайце.
Не думайце, што вы, маўляў, даўно ўжо
З іх выраслі, як з вопраткі дзіцячай,
Асвоіўшыся з кніжнасцю найноўшай.

З іх кожнай фабулы, зусім нядоўгай,
Вы зразумееце шмат мудрых ісцін:
Чаму лісе не трэба верыць дохлай,
Як гэта дзед адзін зрабіў калісьці;

Чаму палонікам, з размаху, дзятла
Не трэба біць на галаве ў дзіцяці,
Чаму сабаку «воўчыцца» не варта
Перад старым канём на сенажаці;

Чаму ваўку не трэба камізэлька
З двума радамі гузікаў на бруху;
Чаму царэвіч там, дзе ўпала стрэлка,
Узяў за жонку брыдкую рапуху;

Чаму не трэба быць такім бязглуздым
І легкаверным, як мядзведзь у яме,
Што зачарэпіў сам свае гізунды
І выцягнуў іх лапай з пазурамі…

Навукі мудрай — край там непачаты!
Таму й кажу вам: у жыцця на старце —
Чытайце казкі, хлопцы і дзяўчаты!
Старыя казачкі часцей чытайце!

* * *

Гукі сяла, што паволі ўкладаецца спаць:
Гоман, і воклічы, і вуркатня матацыкла,
Бразганне вёдзер і нейкага румзалы плач,
Галас сабачы — усё так знаёма і звыкла.

Тут, дзе стаю на пагорку, так добра чуваць,
Як уздымаюцца, падаюць, зноў узлятаюць
І не ў даліне, а ў сэрцы маім заміраюць —
Гукі сяла, што паволі ўкладаецца спаць.

* * *

Як сумна-тужліва зязюля кукуе ў бары,
На познім змярканні, насупраць мядункавай ночы!
Адкуль гэта жальба — у розгар маёвай пары?
Адкуль гэты смутак — такі непрытворна сірочы?

Вячэрайце ў хаце, а я пастаю на двары.
Па мне турбавацца не трэба — гуляйце шчасліва.
Павінен жа нехта паслухаць, як сумна-тужліва
Зязюля кукуе на познім змярканні ў бары.

* * *

Маленькі пташачак, як верабей,
На дождж і холад зноў варожыць звечара.
І я не рад ягонай варажбе
У шыгаллі старой сасны знявечанай.

Мне дождж і холад збрыдзелі даўно:
Нідзе не выйсці — скрозь цячэ і цэдзіцца.
Гляджу на шлях, а мутнае акно —
Ці ты, ці не? — мне не дае прыгледзецца.

* * *

І ў лугах беларускіх, напэўна, цяпер ужо вечар:
Дрэмлюць соладка травы, паснулі кусты над крыніцаю.
Спі і ты, як травінка, а я за цябе па-язычніцку
Памалюся на неба, на зорак маўклівае веча.

Пра цябе ды радзіму — адна ў мяне дума і думачка,
Хоці. малітвы маёй ты за даллю далёкай не чуеш
І не знаеш, як горача, як апантана шапчу я:
«Спі, мая лугавая, мая залатая мядуначка!..»

* * *

У звечарэлым садзе, што, цямнеючы,
Туліўся ў першай восеньскай журбе,
Я прыгарнуў твой ценькі стан, не ўмеючы,
І ўпершыню пацалаваў цябе.

Пасля... пакуль з вачэй не знікла ў засені —
Стаяў адзін на гулкай паласе...
Ах, як жа тахкалі твае абцасікі!
Ад стуку — грудзі, думаў, разнясе!

* * *

Вясна — і свежы пень заплыў слязьмі:
Як страшна плача родны дол па дрэве!
Мурашкі чорныя, ажыўшы на прыгрэве,
Ужо спраўляць памінкі напаўзлі.

Быў густалістым клёнам гэты пень —
І мы з ёй лівень тут перачакалі...
Не, вы не дрэва, людзі, спілавалі —
Вы спілавалі мой шчаслівы дзень!

## ПЕРШЫ ВЯСНОВЫ ЛІВЕНЬ

Яго чакалі мы на кожным дні,
І ўсё ж уразіў ён, як нечаканасць:
Густы і цёплы, хлынуў з вышыні —
Змываць пазім'е, разганяць заспанасць.

І ты, пад музыку мільёнаў струн,
Шчаслівы, шэпчаш: «Верце, людзі, верце —
У дружны рост усходаў і задум,
У добры плён на ніве і на сэрцы!»

* * *

Лес ачнуўся, лес вялікадне святкуе —
Вунь як весела ў зялёнай грамадзе!
Толькі дуб адзін вясны як бы й не чуе —
Нават леташнім лістом не павядзе.

Не да твару дубу ў гурце мітусіцца
І вітаць агульным шумам навізну.
Ён пазней за ўсіх павінен заявіцца
На ўрачыстасць — і сказаць: «Пачнём вясну».

* * *

Сцюдзёнага квасу мне гляк падала,
Сказала: «Прабуйце, пітво неблагое...»
А доле — блізняты: адно і другое
Ляпечуць і тузаюць край падала.

На рукі схапіла абодвух зараз —
Цалуе і кружыцца з імі па хаце...
Шчаслівыя дзеці. Шчаслівая маці.
І смачны надзіва бярозавы квас!

* * *

Тут, дзе вучыўся і араць і сеяць,
Адкуль панёс і песню ў свет сваю,
Я з пасівелай галавой стаю
І слухаю асін журботны шэлест.

І неадчэпна ў ціхай мове лісця
Адно пытанне ловіць прагны слых:
«Скажы, ты шчаслівейшы стаў за тых,
Што тут араць і сеяць засталіся?»

* * *

Здзіўляешся: за што табе я ўдзячны?
За той прасвет у зорках залатых,
Што ў цемры лесу нам дарогу значыў,
За сцежку тую, што ў кустах густых
Зблудзіла раптам, п’яная няйначай,
За востры халадок расінак тых,
Што і цяпер бягуць па твары, коцяцца,
І выціраць іх мне чамусь не хочацца...

* * *

Здароў табе, лясная азярына!
У сітнягова-сонечнай кайме
ы заўсміхалася так светла мне,
Што ўсю душу раптоўна азарыла.
І мой будзённы, мой згрызотны клопат,
Што не даваў зірнуць ушыр і ўвысь,
Сарваўся ўміг і адляцеў кудысь,
Як спуджаных няўмысна крылляў лопат.

* * *

О так, паэт — вялікі выдумляка,
Але не хлус, не цёмны звадыяш.
У выдумках яго — бяды ніякай:
За праўду ён не выдае міраж.

Аб шчасці летуценячы замнога,
Грымасам фальшу верачы парой,—
Калі й ашуквае — дык сябе самога,
Калі й смяецца — дык з бяды сваёй.

* * *

Вечна спяшаемся, вечна няма нам калі:
Пешшу даўно ўжо не ходзім па грэшнай зямлі.
Як на пажар усё роўна, нас колы нясуць
Міма бяроз на прыгорку — цнатлівых красунь,
Міма крынічкі, што ціха з-пад каменя б’е,
Міма салоўкі, што ў кусце альховым пяе…
Так і імчымся, ляцім міма шчасця свайго.
Што нас прымусіць задумацца: а для чаго?

* * *

Паэт і фізік-атамнік у нечым
Усё-такі падобны між сабою.
Душа паэта — то ж рэактар вечны,
Што выпраменьвае часціцы болю
І сотні тысяч сэрцаў чалавечых
Бамбардзіруе імі без адбою,
Каб шляхам ядзернага расшчаплення
Прывесці ў рух энергію сумлення.

* * *

Пакуль я доўга ехаў на кірмаш,
З усходам сонца выбраўшыся з хаты,—
Было ў мяне надзей святочных шмат,
Чаканнем радасці я быў багаты.

Цяпер я еду з кірмашу назад,
І ўсіх надзей — што па дарозе ў вёсцы
Мяне пярэйме швагер або сват
І, добрая душа, зацягне ў госці.

* * *

Вясновы вечар. На нагах маіх
За доўгі дзень, як зоры, цыпкі выспелі.
Апанаваная якімісь мыслямі,
На ўсходках ганка мама гоіць іх.
Вяршынкай мажа моўчкі, не ўшчуваючы,
Прыемны, мяккі халадок кладзе.
І раптам кажа: «Чуеш, у гняздзе —
Шчабечуць ластавачкі, засынаючы…»

* * *

Нам разам трыццаць. Мы стаім на кладцы.
Яна свавольна туфелькі зняла,
Падаўшы мне далонь, каб не сарвацца,
Сцюдзёнай хваляй ногі абдала.
Пасля… Пасля: «Шчасліва заставацца!»
І без мяне да берага пайшла.
На белай кладцы мокрыя слядкі —
Як першай песні мілыя радкі.

* * *

Над белым светам сумавала танга.
І зноў і зноў у песеньцы старой
Мне чуўся сум апошняга расстання —
Ды не чыйгосьці, а майго з табой.

Майго з табой!.. І зноў і зноў ад болю
Сцінала сэрца, кроіла, пякло,—
Хаця на белым свеце ў нас з табою
Яшчэ і першай стрэчы не было.

* * *

Куды ні глянь — над дахам строй антэн,
Ва ўсіх кватэрах — свецяцца экраны.
Сядзі сабе ў цяпле, між родных сцен,
Як вязень, сам сабою пакараны,—
Гадай пра сэнс пачутых перамен,
Перажывай краін далёкіх драмы…
Табе зрабіўся блізкім цэлы свет!
А ці бліжэйшым стаў табе сусед?

* * *

Няма агідных песень у прыродзе.
Нашто ўжо не пяюн крумкач стары,
А ў першую адлігу ў новым годзе
Як ён пяшчотна крумкае ў бары!

Які прывабны кліч яго птушыны
У прадчуванні веснавых уцех!..
Агідны спеў заўсёды — спеў фальшывы.
Прыродзе ж невядомы гэткі грэх.

* * *

Вясна пяе, і свішча, і шчабеча,—
На паплавах, на нівах, у лясах,—
І ўсюды просьба чутна: «Чалавеча!
Пачуй сябе ў шчаслівых галасах!»

Вясна гудзе, і зумкае, і крэхча —
На доле, у паветры, на вадзе,—
І ўсюды тая ж просьба: «Чалавеча!
Пачуй сябе ў нас! А то — быць бядзе!..»

* * *

Падлесак цярэбяць у лесе густым —
Бязладна парослыя сосны і елкі.
Ад вогнішча долкамі сцелецца едкі,
Прапахлы ўспамінамі даўнімі дым.

Па плану — у парк ператворыцца лес,
Ён будзе дагледжаны, чысты і рэдкі.—
Наскрозь ён прагледзісты будзе — і гэткі
Камусьці, відаць, спадабаецца лепш.

* * *

Зноў на ўзлеску цвітуць-дацвітаюць арэшыны -
У жаўтлявых падвесках каткоў-завушніц.
Дуб над імі, усёй гэтай пушчы старэйшына,
Дрэмле ў думках аб блізкай пары навальніц.

Тут, у гушчы кустоў, у кудлатым ляшчэўніку,
На даўжэзны свой век, кожным летам, як жнуць,
Колькі чуў ён дзіцячага гоману-шчэбету!..
І яшчэ, і яшчэ раз хацеў бы пачуць...

## ХЛЕБ І МУЗЫКА

> Паслухаўшы ў канцэрце
> майстроў грання на
> жытняй саломцы.

Сцяблінка жытняя — несамавіты
Музычны інструмент… Перш чым запець,
Трымала колас над зямлёй, наліты,
Каб ён, на радасць людзям, мог даспець.

Філосафы, паэты, запрыкмецьце,
Даследуючы змест людскіх патрэб:
Раднейшага няма нічога ў свеце,
Як хлеб і музыка, як музыка і хлеб!

## ВЫ ДУМАЛІ…

Вы думалі, што я сабраўся ў скачках
Прымаць удзел? Каб верны мне мой конь
Сыходзіў, зацугляны, пенай-жвачкай,—
Ляцеў за некім шустрым наўздагон?

Ну, што вы, што вы! Хіба я — наезнік?
І хіба конь для скачак у мяне?
Яго прызванне — плуг цягнуць жалезны,
Маё — ступаць услед па баразне.

## ВЫМІРАЮЦЬ ПЛЯМЁНЫ

Вымiраюць плямёны:
Туземцы краіны — індзейцы,
Жыхары Акіяніі,
Абарыгены Аляскі...
«Проста — самі сабой,
Бо ад шлюбу не родзяцца дзеці»,—
Не саромяцца баяць паны
«Навуковыя» казкі.

Ад вялікага некалі роду
Цяпер засталося
Дваццаць пяць чалавек.
Пад нагляд узялі медыцынскі.
Толькі ўсё безнадзейна —
Загінуць ім суджана лёсам:
Адціскаў іх асвечаны брат,
Адціскаў і... дацiснуў.

Выміраюць плямёны —
Знікаюць навек, назаўсёды,
Вызваляючы свет
І ад мовы сваёй, і ад песні.
Выміраюць накшталт
Рыбаў, птушак, раслін, насякомых,
Што ў чырвоную кнігу жыцця
У пару не занеслі.

Адыходзяць ад моцных і ўпэўненых,
Ад жыццялюбаў —
З вінаватай і горкай
Усмешкай на вуснах:
«Прабачце!
Замінаəі мы вам!..
Цесна з намі было вам тут, людзі!
Зараз стане свабодней
Крычаць вам пра роўнасць і брацтва..

Вы,
Што ў кожную бомбу
Ладуеце слепа мільёны —
Абаронцы правоў і свабод
І наскрозь дэмакраты,

Гэта ў вас на вачах
Выміраюць, знікаюць плямёны!
Выміраюць, як рыбы,
Як птушкі,
Як дрэвы,
Як травы…

З імі —
З відамі фаўны і флоры —
Даўно і надзейна
Вы ўраўнялі ў правах
І плямёны і цэлыя расы.
Ах, як шчыра з трыбуны
«Клапоціцеся» пра людзей вы,
Абаронцы свабод і гарантый…
Для ўласнае касы!

**ШЧАСЛІВА Ж ВАМ!**

Апошні аўтобус… Апошні трамвай…
Даўно ім прысвечаны вершы.
І ў песнях уславілі — едзь і спявай!
А першы?.. Вы ехалі першым?

У першы аўтобус, тралейбус, трамвай —
Сядалі на досвітку рана,
Калі яшчэ толькі пачне небакрай
Ледзь-ледзь ружавецца крамяна?

Апошні — нярэдка ваш дзень завяршаў,
Вы бег яго добра спазналі.
А першы — каб першым паспець за варштат —
Вы ў думках «хутчэй!» падганялі?

Апошнім — з гасцей прыбывалі дамоў,
З гарачых сяброўскіх абдымкаў.
А першым — хоць раз вы да тых жа сяброў
Прыехалі з радай-падтрымкай?

Апошнім — вы звыклі ў запознены час
Вяртацца, правёўшы каханне.
А першым, прызнайцеся, першым хоць раз
Прымчаліся вы на спатканне?

Шчасліва ж вам ездзіць любою парой —
Апоўдні, увечар, уночы.
І — досвіткам, мілыя! З першай зарой!
І з першым народам рабочым!

## ЗАМЕСТ МАЛІТВЫ

Калі ёсць ты, лёс мой, нада мною
Аб адным прашу я: не дазволь
У міры з няпраўдай і хлуснёю
Дажываць мне век на свеце свой.

Не аддай душу ў няволю гномам
Узбунтуй, растурзай, распалі,—
Каб у ёй агні-маланкі з громам
Жыхалі ад неба да зямлі!

## ТЫ КАЖАШ, Я НЕ ВЕДАЮ ВАЙНЫ

Ты кажаш, я не ведаю вайны,
Што мне было тады гадоў замала.
Чаму ж яна мае забрала сны?
На ўсё жыццё наперад сны забрала?

Чаму ж амаль не кожнае начы
Я прачынаюся, скаваны жахам?
Хачу ад смерці лютай уцячы —
І стрымгалоў бягу аўсом няжатым,

Паўзу бульбянішчам па баразне,
Да хмызняку куляюся па пожні,
Але ратунку мне няма і ў сне —
У вочы стрэл грыміць у міг апошні…

Я ведаю: пазбыцца гэтых сноў
Не дапаможа мне ніхто на свеце.
Я буду трызніць імі зноў і зноў,
Яны — мае навек, да самай смерці.

Застаўшыся з маленства на вайне,
Я аднаго хачу, мая краіна:
Каб гэта скончылася ўсё на мне.
Каб гэта ўсё не стала доляй сына.

## БАНЬКІ

У партызанскай пушчы ў снежны вечар,
На нізкіх нарах пасярод зямлянкі,
Стары Сяткевіч — знакаміты фельчар —
На плечкі шчупленькія
          ставіць банькі.

Ён совае маленькі факел сіні
У калпачок шкляны,
          і спрытна лепіць
Паміж лапатак,
          і перад усімі
Бурчыць на маці:
          «Апранала б лепей…»

Каржакаваты і калматабровы,
Ён мне здаецца магам-чарадзеем,
Што прыблукаў у гэты лес зімовы,
Каб нам вярнуць шчаслівую надзею.

Я за жыццё дзівос пабачыў многа —
Знарок прыдуманых, каб свет здзіўлялі,
Але чамусь яны амаль нічога
Да скарбаў памяці не дабаўлялі.

А гэта ў сэрца залягло навечна:
На нізкіх нарах пасярод зямлянкі
Стары Сяткевіч — партызанскі фельчар —
На плечкі шчупленькія
          лепіць банькі.

* * *

Зямля бацькоў, Лагойшчына мая,
Край неўміручай партызанскай славы!
На ўсё жыццё ўвабраў у сэрца я
Тваіх кастроў і боек дым гаркавы.

Мяне б і зараз памяць прывяла
Да той зямлянкі на пясчанай выспе,
Дзе вера светлая са мной жыла,
Дзе не па ўзросту гнеў у сэрцы выспеў.

Я і сягоння адшукаць бы мог
Сцяжынкі тыя у дзічы дрыгвістай,
Дзе карані паўзуць вужамі ў мох,
Дзе смерць знаходзілі сабе фашысты.

Тут кожны куст трывожнаю парой
Хаваў мяне ад нечысці звыроднай.
Тут да зямлі халоднай і сырой
Я прыпадаў, як да матулі роднай.

Тут грозны час сяброў мне не збярог,
Ім светлы дзень сустрэць не давялося.
Тут на магілах брацкіх ля дарог
Не вянуць кветкі ні вясной, ні ўвосень.

Зямля бацькоў, Лагойшчына мая,
Край неўміручай партызанскай славы!
На ўсё жыццё ўвабраў у сэрца я
Тваіх кастроў і боек дым гаркавы.

* * *

Часцей, часцей прыпамінай
Імёны паўшых смерцю храбрых
За родны край, наш мілы край,—
Каб над зямлёй, што млела ў ранах,
Плыў гэты сіні-сіні ранак,
Цвіў гэты белы-белы май,—
Часцей, мой друг, прыпамінай!

Прыпамінай часцей, мой друг,
Імёны тых, што ўсё зрабілі —
Вышэй усіх тваіх заслуг,
Што, як і ты, да слёз любілі
Маністы ўвосень на рабіне
І ў ліпкіх смолках майскі луг,—
Не забывай пра іх, мой друг!..

* * *

Хачу ўявіць — і не магу ўявіць
Усмешку ў вуснах цёткі Міхаліны,
Што аддала вайне дачку і сына
І ўжо даўно сама на ўзгорку спіць.
Няўжо не заўсміхалася ніколі?
Не можа быць: хоць зрэдку, хоць няўзнак
Яе душа адходзіла ад болю…
Але прыпомніць — не магу ніяк.

**ВЫЗВАЛЕННЕ**

Бачу і сёння вас, зморaных маршам і спёкай,
Брудных ад поту і пылу, ды з песняй на вуснах,—
Вас, што дайшлі ад Масквы і ад Волгі далёкай
Да папялішчаў нямых між бароў беларускіх…

Я ж і дагэтуль бягу вам насустрач за вёску,
Каб паглядзець, ці даўгая пыліцца дарога:
Колькі ідзе вас? Ці сіла вялікая ў войску?..
Як мне хацелася пераканацца, што многа!..

## ТЫМ, ШТО ВАЯВАЛІ

Сорак трэці. Віхура смяротная.
Ёй — ні краю яшчэ, ні канца.
Як ты бачна, бяда ўсенародная,
У паглядзе падлетка-байца!..

Мне хапіла б свайго незабытага.
Толькі як я пра тых прамаўчу? —
Шынялёк і пілотачка Быкава
Неадступна стаяць уваччу.

## НА УЗГОРКУ ПЯСЧАНЫМ...

На ўзгорку пясчаным цвіце жаўтазель —
На брацкай магіле дзяцей партызанскіх.
Стаю і гляджу, як па кветках зіркастых
Блукае маленства далёкага чмель.

Мы разам раслі тут — пад небам адным:
Смяяліся, плакалі, песні спявалі...
Той смех спапялілі, той спеў расстралялі,
А плач — уцалеў: ён у сэрцы маім.

## СТО ВУЗЛОЎ ПАМЯЦІ

*Паэма*

*Ніне*

А колькі ўсіх у памяці вузлоў,
Што нас звязалі, родны край, з табою!..
І колькі ў тых вузлах шчаслівых сноў!
І колькі ў тых вузлах пакут і болю!
Я тут зусім нямнога развяжу:
Я пра пачатак толькі раскажу.

### Першае свята

Густымі лапкамі і дзеразой
Абвіта наша згорбленая брама.
Відаць, таму і радасны настрой,
Што ўсё кругом так хораша прыбрана.

Прымацаваны ўверсе да вугла,
На доўгай палцы сцяг трапеча зранку.
Дарожка жоўценькая пралягла
Цераз падворак — з вуліцы да ганку.

Сястра, злятаўшы мігам за раку,
Аер пахучы сыпле на падлогу.
А я цягну бабулю за руку,
Бо ў хаце болей мне цярпець няўзмогу.

Бо мне вядома (Яська бачыў сам!) —
Усе збіраюцца ля сельсавета:
Такое штось пачнецца зараз там,
Што лепш памерці, чым не ўбачыць гэта!..

Заліта сонцам вуліца наўсцяж.
А каля клуба — не злічыць народу.
Бабуля дзівіцца: «Ну і кірмаш!
Яшчэ такога не было ў нас сходу!»

Мяне на рукі падхапіла ўміг:
— Глядзі, глядзі, вунь на трыбуне тата!.
Ён штосьці радасна крычыць да усіх,
І ўсе ў далоні пляскаюць заўзята.

Пасля прамоў сталы з пітвом, з ядой

У тры рады стаўлялі на дзядзінцы,
Пілі і песні пелі грамадой,
І нам давалі смачныя гасцінцы.

Музыкаў моладзь зацягнула ў клуб:
«Давай, Мажэйка, разані па-свойску!..»
Пад воплескі бабуля выйшла ў круг,
І не стрываў начальнік сам з Лагойску:

Падскочыў спрытна, крыкнуўшы «гоп-га!»
І ля бабулі ўпрысядку пусціўся.
Гармонік выгінаўся, як дуга,
І, як шалёны, бубен калаціўся…

Такім застаўся ў памяці маёй
Шчаслівы дзень далёкага пачатку —
Дзень уручэння хлебаробам Акта
На карыстанне вечнае зямлёй.

**Ваенны гарадок**

Зусім інакшы вырыс
Набыў глухі куток,
Калі за Гайнай вырас
Ваенны гарадок.

Сваім жыццём нязвычным
Нас моцна вабіў ён.
Мы зналі: пагранічным
Быў наш лясны раён.

Дзе гразь мясіў адвеку
Ды кладкі клаў народ —
Трывалую гравейку
Насыпалі за год.

Уранку на гравейцы
Грузавікі гулі.
Вясёлыя армейцы
На стрэльбішча ішлі.

Парадак — лад вайсковы
Мы пераймалі ўсе.
І побыт наш вясковы

Змяняўся пакрысе.

Насілі мы пілоткі
Ды шлемы — што калі.
Хоць з дзіркамі — а ўсё-ткі
За гонар нам былі.

Па вечарах глядзелі
Бясплатнае кіно:
Як роўныя, сядзелі
З байцамі заадно.

А ўлетку, часам вольным,
Ды і сярод зімы
У белых і чырвоных
Гуляць любілі мы.

Калі ты недаростак,
Мізурачка які,—
Рашалі вельмі проста:
«Валяй у белякі!»

Але і самых кволых
Насілу «атаман»
Пераганяў з «чырвоных»
У процілеглы стан.

І так было парою,
Што многія зусім
Выходзілі са строю:
Чым «белы» — лепш ні з кім.

Бо і ў гульні дзіцячай,
Між забаў-уцех
Мы не маглі іначай
Ні думаць, ні хацець...

**«Шпіён»**

Так мы гулялі ў войны
І так раслі ў гульні.
А час быў неспакойны,
І ў мірнай цішыні

Раптоўны звон трывогі
Будзіў нярэдка нас.
Я помню, як на ногі
Падняўся ўвесь калгас.

На вуліцы шалёна
Крычалі пастушкі,
Што бачылі шпіёна
На тым баку ракі.

Прыкметаў — больш чым трэба
Аброслы, і з мяшком,
І, бач, пайшоў не грэбляй —
Пашыўся лазняком...

На жарабку стаенным
Ляцеў стары Кашчэй
У гарадок ваенны
Паведаміць хутчэй.

Ужо мужчыны з коллем
І хлопцы-дзецюкі
Да хмызу цераз поле
Прастуюць нацянькі.

А мы? Хіба збаімся?
Не, мы таксама ўсе
Навыперадкі мчымся
Па залатым аўсе,

Па бульбе, па іржышчу,
А вецер — наўздагон:
«Хутчэй, хутчэй бяжыце!
Шпіён пранік, шпіён!»

На шкло ступіў з разбегу,
Падэшву боль пячэ.
Але спыняцца нельга:
Там — вораг уцячэ!..

І я лячу за ўсімі...
Ды позна... Эх, шкада!
За бродам за ласіным —
Народу грамада.

Гавораць мірна, добра,
І між дзядзькоў... шпіён!
Аброслы ўвесь і з торбай —
Ну, пэўна ж, гэта — ён!

Але чаму ж нягоднік
Не скручаны як след?
Чаму канвой не гоніць
Чужынца ў сельсавет?

Шпіён цыгарку смаліць
З усімі нараўне.
— Ці не Сымонаў малец? —
Ківае на мяне.

— Яго, рыштант,— смяецца
Нічыпар Каляда.
— Разумны бацька, здэцца,
А сын — адна бяда.

Такі ўжо, брат, шкадлівы,
Што горшага няма:
Учора зноў у слівах
Яго злавіў Кузьма!..

Вясёлы рогат грымнуў,
А мне — хоць прэч бяжы,
І сорамна, і крыўдна:
Чужынец — не чужы!

**У спелым жыце**

Тым летам шмат было падзей у нас.
Згарэла восець. Пчолы закусалі
Старога Тодара. Але найбольшым
З усіх здарэнняў стала смерць Турчанкі.

Відаць, за чорны даўганосы твар
Празвалі гэтак на сяле жанчыну.
Яна жыла ўдавою — з хворай маці
І чатырма дзяцьмі, яшчэ малымі.

Было за поўнач, і густая ціш

Па-над усёй зямлёю панавала,
Калі дазорны пагранічнік згледзеў
У спелым жыце постаць чалавека.

На вокліч: «Стой! Ні з месца!
Рукі ўверх!»
Цень сігануў што сілы прэч, наўцёкі.
Тады раздаўся стрэл. І стрэл быў трапны
У спелым жыце ўскрыкнула жанчына.

Непадалёк ляжаў бліскучы серп
І, ўжо завязаная туга накрыж,
На два вузлы, пасцілка з каласамі...
У спелым жыце стрыгла іх Турчанка.

Назаўтра іншых не было размоў,
Як пра жахлівае здарэнне ўночы.
Начальства шмат прыехала з раёна,
І ў канцылярыі народ сабраўся.

Раскрыўшы рот, я слухаю дзядзькоў
І разумею: гэта пра Турчанку...
І ўпершыню загадкай неразгаднай
Здалося мне ў той дзень жыццё людское.

У нашу хату голад не ступаў.
Чаму ж яна пайшла з сярпом у жыта?
Чаму? Чаму?.. Праклятае здарэнне!
Цвіком засела ў галаве дзіцячай!..

Не ведаў я, што шмат гадоў пазней —
І чым далей, тым з большаю пакутай —
Шукаць адказу буду на пытанне:
Навошта стрыгла каласы Турчанка?

**Непрымірымасць**

А восенню знянацку
Забралі ў нас траіх.
І Яськавага бацьку,
Кажушніка, між іх.

Я часта слухаў казкі
Вясёлага краўца.

Не стала бацькі ў Яські,
У добрага хлапца.

І дружбы з ім ахвотна
Ніхто ўжо не вадзіў.
Прыціхлы і самотны,
Ён скрозь хадзіў адзін.

Мы крыўду Яські зналі…
Ды што было рабіць?
Не мог ён разам з намі
У піянерах быць.

На ўроках і на зборах
Чыталі мы не раз
Аб тым, як хітры вораг
Арудуе між нас.

Партрэты камандзіраў
Мы вырывалі з кніг,
Як здраднікаў Радзімы,
Кляймілі ганьбай іх.

Хто думаў днямі тымі,
Што цераз дваццаць год
Імёны іх святымі
Зноў назаве народ?

Што суд, які вітала
Маленства без развагі,
Аплача наша сталасць
У свету на вачах?

Што ў палавіне веку,
Пракляўшы культ пакут,
Давер'я Чалавеку
Мы будзем славіць культ!

**Апоўдні ў нядзелю…**

Так і было: апоўдні,
На восьмы дзень вайны,
Да жудасці раптоўна
З'явіліся — яны.

Яшчэ заўчора весці
Аднекуль усплылі,
Што быццам нашы дзесьці
Граніцу перайшлі.

Кульгавы крамнік п’яны
Крычаў на ўсё сяло:
«Не можа быць, васпане,
Каб наша не ўзяло!..»

Наіўную надзею,
Што немцу скора крах,
Апоўдні у нядзелю
Расцерлі танкі ў прах.

Зямля пад іх цяжарам
Стагнала і раўла.
Блакіт давіў крыжамі
З-пад кожнага крыла.
У ценю свастык чорных
Ішлі, як на парад,
Грузавікі адборных
Раскормленых салдат.

Крутыя падбародкі —
Упэўненасць сама,
Што будзе марш кароткі,
Што роўных ім — няма.

У іх і сіла й вопыт:
Распятая вайной,
Амаль не ўся Еўропа
Ляжала за спіной.

Здавалася, нічым іх
Не павярнуць назад.
Трывожнымі вачыма
Глядзелі вокны хат.

Матуля выпраўляла
Нас да бацькоў сваіх:
— Каб тут чаго не стала,
Пабудзьце ля старых.

Усё-такі іх вёска
Далей ад зла-бяды:
Наўрад чужое войска
Ці дападзе туды…

**Боль і гнеў**

Праз месяц, нават меней
(На зло нядобрым снам),
Аднекуль з акружэння
Прыбіўся бацька к нам.

Схудалы, учарнелы,
Зарослы — не пазнаць,
У нейкіх спарахнелых
Цывільных рызманах.

Жанок панабягала —
Як бы хто сход сазваў.
І кожная пытала:
— Майго… не сустракаў?

— А праўда, ці мо байка,
Што немцы пад Масквой?..
Маўчаў панура бацька,
Якісьці сам не свой.

Як быццам вінаваты
Ва ўсёй людской бядзе,
Ён не выходзіў з хаты
І не бываў нідзе.

Якоесь дуддзё ў банку
На курыва крышыў…
Глядзелі мы на бацьку
Са страхам у душы.

Пакуль ён быў на фронце —
Здавалася тады,
Ён сам наш абаронца
Ад гора і бяды.

А зараз вось ён, з намі —

Ад дыму аж хрыпіць,
І сам, відаць, не знае,
Што думаць, што рабіць…

**Чырвоны снег**

У вокны дзень настудны
Ужо глядзеў з двара,
Калі пайшла да студні
З вядзерцамі сястра.

Праз тры-чатыры хвілі,
Засопшыся, бяжыць:
— Кірэйчыка забілі!
Каля маста ляжыць!..
Забралі ноччу ў цешчы!
І радыё знайшлі!
Хацеў ад іх уцекчы,
Як цераз мост вялі!..

Уссунуўшы атопкі
На босую нагу —
Каб не спазніцца толькі,—
На вуліцу бягу.

Мне трэба ўвачавідкі
Пабачыць, як было.
Марозік сакавіцкі
Закуў дарогу ў шкло.

На вуліцы народу —
Напэўна, з паўсяла.
Чакалі ўсе падводу,
Што ад маста ішла.

Лядок ламаўся ціха,
Хрусцеў: хруп-хруп, хруп-хруп.
Пад шэраю пасцілкай
Ляжаў ссінелы труп.

А за санямі плёўся,
Запухлы ўвесь ад слёз,
Кірэйчыкаў Алёкса
І кош са снегам нёс.

А снег — вішнёва-алы
Ад бацькавай крыві.
І так мне страшна стала —
Хоць нема зараві.

Здавіла крыкам грудзі,
Як у жахлівым сне:
Што вы зрабілі, людзі!
Не рушце гэты снег!

Чырвоны снег пад ногі
Не кідайце далоў!..
Глядзіце: ён дарогу
Зафарбаваў у кроў!

Глядзіце: ён і з неба
Ужо ляціць на нас!
І шэрань вунь на вербах
Закрываніла ўраз!..

Хутчэй, хутчэй ад згубы
Да хаты да сваёй!
Куляюся праз гурбы,
Набраклыя крывёй.

А снег па лапцю валіць —
Бахматы і густы.
Не беліць, а крывавіць —
Падворкі і платы,

І гумны і гароды,
Сады і гонту стрэх,—
Па ўсім па краі родным
Ляціць чырвоны снег.

**У партызанскай пушчы**

Ад першай — з дымам-громам
Нявольніцкай вясны
Пашыліся мы з дому
Глыбей у кут лясны.

Стаў партызанам бацька,

І ў хаце у сваёй
На гібель заставацца
Мы не маглі сям’ёй.

Зімой жывём у дзеда —
Усё ж на ўзлессі дом.
А ледзь надыдзе лета —
У пушчы ўсім гуртом.

Там безліч нор-зямлянак
Між сосен у барку.
Там чорных блох-смалянак
Не меней, чым пяску.

Там мацеркі гатуюць
Вячэру на агні
І тужаць і сумуюць.
Па хатняй цеплыні.

Калі ж пасля заціркі
Нясоленай лясной
Шумлівы стан заціхне
У цемрадзі начной,—

Мігценне зорак немых
Я слыхам сцерагу:
Ці не пачую ў небе
Матораў родных гул?

Я пазнаю імгненна
Далёкі рокат іх
Па перабоях гнеўных,
Надрывіста-цяжкіх.

І божа мой, як сэрца
Затахкае ў грудзях!
І кожны ўдар, здаецца,—
Іх рокату працяг...

Учора зноў пад вечар
Стаяў за лесам дым.
Сто жыццяў чалавечых
Сканала ў дыме тым.

Перадсмяротны лямант,
Крык стогалосы іх
У пушчы ля зямлянак
Нас скалануў усіх.

Калі страшэнны енк той
Замрэ ў маіх вушах?
Калі ў дзіцячых зрэнках
Пагасне смерці жах?

Ад крыку прасыпацца
Калі не стану ў сне?
Аб гэтым лепш спытацца
Пасля вайны ў мяне.

А покуль што мне трэба —
Дасхочу, па зарэз —
Прыдбаць калі не стрэльбу,
Дык хоць які абрэз.

У эфках ды вінтоўках
Я разумею больш,
Чым некалі ў алоўках,—
Сын партызана ўсё ж!

А кніг я не чытаю,
І ў адзінаццаць год —
Ні Купера не знаю,
Ні Сойера прыгод.

Равеснікаў, што ў школе
За партамі сядзяць,
Напэўна ўжо ніколі
Не ўдасца мне дагнаць.

Яны на картах дзесьці
Шукаюць Мічыган,
Я ж сам хаджу па лесе
Апошнім з магікан.

Іх зараз хітры Купер
Праз багнішча вядзе.
Я ж сам ляжу між купін
У ледзяной вадзе,

Нібы ў клыкастай пашчы,
З трывогаю адной —
Каб людаед у касцы
Не вырас нада мной,

Каб ён пракрочыў бокам,
Страшнейшы ад пачвар,
Каб смерць жалезным вокам
Не глянула мне ў твар.

**Немата запусцення**

Пустуе хата дзеда.
Пустэчай тхне з двара.
Пагналі за паўсвета
Старога сталяра.

Парасчыняны дзверы
Для валацуг-вятроў.
Без працы на асверы
Рассохлася вядро.

На ганку — павуціна:
Даўно быў госць, відаць.
Як боязна, хаціна,
На твой парог ступаць!

Як страшна бачыць рэчы!
Не ведаў я, што й ім
Дух цёплы чалавечы
Патрэбен, як жывым!..

Вось дзедава начынне —
Ім даражыў стары.
Ён майстраваў чын-чынам
І куфры і сталы.

Карміла чалавека
Яно — дай бог другім!
Пыл — першы за паўвека —
Цяпер ляжыць на ім…

І печ маўчыць, нямая —

Ніхто даўным-даўно
Не ставіць, не вымае
Вясёлых Чыгуноў.

На міртах жухне лісце —
Няма каму паліць.
І кожны збан з паліцы,
Як сірата, глядзіць.

Я закрываю вочы:
Пяўсцерп мне бачыць іх
Маўклівы сум сірочы
Над памяццю жывых.

Хутчэй бы гнеў астатні
Прапалымнеў агнём —
За гэты рэзрух хатні!
За гэты пыл кругом!

За немасць, што пануе
У тысячах двароў.
За смерць, што край руйнуе.
За слёзы і за кроў.

**Шчасце**

Мы здатны ўсе пра шчасце
Паразважаць парой,
І шчасцем лічым часта
Па звычцы па старой

Удачу ці прыбытак,
Па службе новы чын...
І радасна нібыта.
Ды шчасце тут пры чым?

Зірнуўшы праўдзе ў вочы,—
Ва ўсім жыцці сваім
Я шчасце знаў аднойчы,
Я раскажу аб ім.

На тысяча сто трэці
Грымотны дзень вайны
Ягоны крок, нарэшце,

Узрушыў буданы.

Мы нesліся па полі
Яму наперарэз.
Так смерці страх ніколі
Не гнаў нас з дому ў лес.

Праз долы, праз пагоркі
Яно да нас ішло,
У потных гімнасцёрках,
І стомлена было,

Але лунала грозна
«Свяшчэнная вайна»,
Што з тысяч песень розных
Найдаражэй адна.

Яму насустрач людзі
Выносілі хлеб-соль.
Яму жанкі на грудзі
Выплаквалі боль.

Яно ад смагі даўкай
Нагбом піло з глякоў,
Яно махрой салдацкай
Расчуліла дзядзькоў.

Яно вымала цукар
Ля кожнага двара:
На цукар, як на цуда,
Глядзела дзетвара.

А я — паміж дарослых,
Не знаю сам, чаму —
Глытаў употай слёзы,
Знаёмыя яму…

**Феньчына адплата**

Нібы птушкі да родных гнёзд,
Павярталіся мы з лясоў
Да пустых, запляснелых хат,
Да падворкаў удзірванелых.

На дзядзінцы сабраўся сход.
Між дзядоў і жанчын — Цыбук:
Ён у вёсцы цяпер адзін
З нестарых мужыкоў застаўся.

Па-вайсковаму, без прадмоў,
Ён сказаў: — Ну, дык што, дзяды?
Трэба нам аднаўляць калгас,
Пачынаць, як калісь, спачатку:

— Аз чаго пачынаць, скажы? —
Абазваўся адразу Гляк —
Дзед у зношаным шынялыку,
Падпяразаны вераўчакай.

— Што я здам на арцельны двор,
Калі курыцы й той няма?
Хіба Тэклю сваю аддам?
Дык табе й маладых хапае!..

Пад вясёлы нягромкі смех
Пакрывіўся, без слоў, Цыбук:
«Хоць стары, а дурны, маўляў».
І тады нехта крыкнуў:
— Немцы!

Па дзядзінцы, на ўвесь свой дух,
Яська бег — завадатар напі:
— Дзядзька Тодар! Хутчэй хадзем!
Немцы ў Несцерышынай пуньцы!..

Ахнуў, войкнуў, загуў натоўп.
— Ціха! — злосна сказаў Цыбук.
— Многа?
— Не, усяго траіх…
Там за пунькаю хлопцы сочаць!..

Мама гоніць мяне дамоў:
— І не думай туды, рыштант!
Не ўцякай, бо заб’ю! — крычыць.
Гэткай злоснай яе не помню.

Мама, мама, занадта шмат
Куль прапела за тры гады

Над «рыштантам» тваім, каб ён
Пабаяўся цяпер іх песень!

Я сігаю праз брамку ў двор,
Пераскокваю цераз плот
І па градах, па вапняках
Да крыніцы старой плітую.

Пунька Несцерышына — там.
Там арэшнік — рукой падаць.
Блізка-блізка з усіх бакоў
Акружылі дзяды будынак.

Мы таксама ў кустах ляжым.
Стрэл. За стрэлам — нядружны залп.
Стрэл ізноў. І яшчэ раз залп.
— Гэй! Выходзь, немчура, на сонца!

І тады без каманды ўсе
З крыкам рынулі да дзвярэй.
Уварваліся… Дзе ж яны?
Пуста. Толькі саломы куча.

Прылажыў да пляча Цыбук
Акаваны цяжкі прыклад.
Рэха пыл узняло са сцен.
Жудкі крык паласнуў па сэрцы.

І адразу — бы вепрукі
Заварочаліся ў гняздзе,
І вылазяць пад «гэндэ гох!»
Двое брудных, зарослых, рыжых.

Трэці грабае дол рукой,
А другой — заціскае бок
І паўзе да дзвярэй з кутка,
Вочы вытарашчыўшы ад болю.

Мне здаецца, што ён глядзіць
На мяне і паўзе ка мне —
Храп са стогнам паўзе, і я
Адступаю назад са страхам.

Немец скурчыўся і прыціх.

Людзі высыпалі на двор,
Дзе Цыбук на мігі сяк-так
Зняў з палонных кароткі допыт.

— Мабыць, недзе з «катла» ўцяклі,
Спадзяваліся фронт дагнаць.
Трэба весці ў раён, дзяды,—
Сход, відаць, адкладзём назаўтра...

Позна ўвечар да нас зайшла
Цётка Саўчыха з навіной:
— Немца тога, што ў пуньцы быў,
Фенька Волеччына дабіла!

Кажуць, доўга глядзела перш,
Потым стала, як не свая,
Як бы штось на яе найшло,
Дык яна тады камень з долу...

Мама вохкае: — Божа мой,
Што зрабіла з людзьмі вайна:
Дзеўчыняці ў трынаццаць год
Чалавека забіць не страшна!..

Я ж не веру сваім вушам.
Фенька? Волеччын шалянец?
Тая Фенька, якую мы
Не прымалі ў хаўрус хлапечы?
Тая Фенька, што год назад,
Абгарэўшы, з агню ўцякла,
Калі хата палала іх
Разам з маці і меншым братам?..

Доўга Саўчыха ў нас сядзіць.
Доўга чуецца: — Божа мой!
Што зрабіла з людзьмі вайна!
Кім павырастуць дзеці нашы?..

**Перамога**

Адгрукатаўшы гнеўным дынамітам,
Згарнула крылле чорнае вайна.
Быў майскі ранак,
Быў шматлюдны мітынг,

Былі абдымкі п’яных без віна.

А ўвечары — пілі. Усенародна.
Пілі за славу сцягаў баявых,
За перамогу ў барацьбе смяротнай,
За памяць паўшых, за жыццё жывых.

Франтавікі пілі і партызаны,
Тылавікі і мацеркі сірот.
Адны — ўразмешку з ціхімі слязамі,
Другія — з гучным тостам за народ.

Адны ад крыўды мыліцы ламалі
І, нібы дзеці, плакалі сп’яна.
Другія «бронь» употай цалавалі,
Што ўратавала ім жыццё яна.

І мы пілі — у гонар Перамогі.
Мы — гэта некалькі жанок-удоў,
Іван-бязрукі, Мікалай-бязногі
Ды хлапчукі пятнаццаці гадоў.

Наліўшы ў конаўкі з бутэлек мутных
(«Ой, досыць, досыць, Ганначка, не лі!..»
Без тамады і без прамоўцаў мудрых —
Пілі за мір і шчасце на зямлі.

І пелі песні… дарагія песні
Суровай, грознай баявой пары.
Іх інваліды першыя прынеслі
З дарог вайны у родныя двары.

А потым нас — стыдлівых і няўклюдных
Цягнулі бабы ў скокі з-за стала.
У тыя дні выпрабаванняў трудных
Былі ў пашане мы ў жанчын сяла.

Мы ўжо лічыліся гаспадарамі.
На нашы плечы клопаты ляглі.
Вазілі лес, касілі і аралі,
Не так, як мае быць, а — як маглі.

Нявесела было хадзіць за плугам,
Пускаючы амаль не поверх, каб

Лягчэй яго цягнула саматугам
Чацвёра зморaных маўклівых баб.

І нам, рабочай сіле вузкаплечай,
Калі ўвесь свет трымаўся на ўдаве,
Былі ў той час узнагародай лепшай
Надзея матак і дзядоў давер.

З маленства гора нас круціла ў гушчы
І навучыла рана разумець,
Што нам пладоў не есці з райскай кушчы
І хлеба лёгкага ў жыцці не мець.

**Радасць**

А я толькі верабейка,
ўзрошчаны пад Гайнай.
*Я. Купала «Я не сокал...»*

Незвычайную радасць
Я здабыў неспадзеўна,
Летуценнік вясковы
Чатырнаццаці год.

Аж не верыцца нават:
Гэта ж побач, за Гайнай,
Жыў вялікі Купала,
Наш найслынны пясняр!

Ад калыскі дзіцячай
Аж да сталасці самай
Гадаваўся і рос тут
На лагойскай зямлі.

Жыў у Селішчы доўга
(Гэта ж так недалёка!),
А ў Бясяды па кнігі
У фальварак хадзіў.

Ды і Прудзішча блізка —
За Гарэлым балотам!
Нашы бабы ў чарніцы
Дападалі туды...

Гэта ж тут ён калісьці
Любаваўся з пагорка

На знаёмы да болю
Дарагі краявід.

Гэта ж тут ён спыняўся
Па дарозе дадому,
Заварожаны шумам
Верхавін у бары.

Гэта ж тут, ап'янелы
Ад вясновага хмелю,
Ён пытаўся ў зязюлі,
Колькі год яму жыць...

Тут ён слухаў калісьці —
На начлезе і ў полі —
Тыя казкі-легенды,
Што жывуць і цяпер.

Тут яму назаўсёды
Песні ў сэрца запалі,
Тыя самыя песні,
Што і сёння гучаць...

Мне хацелася бегчы,
І крычаць, і пытацца:
«Ці вы знаеце, людзі?
Тут Купала хадзіў!..»

Толькі стрымліваў сорам,
Страх за ўласную тайну,
Як бы радасцю гэтай
Я не выдаў сябе:

Як падпольшчык, хаваў я
Самаробны блакноцік
З самай першай нясмелай
Песняй сэрца свайго.

**Спякота над лугамі**
Духі выматвае касавіца.
Ужо расы ні следу анідзе.
Пайшлі дахаты хлопцы, маладзіцы,
І дзед Кашчэй сухі, як корч, ідзе.

Ён прыпыняецца, каб даць заўвагу:
— На пятку больш, на пятку націскай!
Як той матыкай, не дзяўбі з размаху,
Шырэй бяры! Шырэй касу пускай!..

Мне хочацца «дабіць» сівец ля хмызу,
І я мянташу ў цішыні адзін.
Абмераўшы пакошу дзесь паблізу,
Ка мне ідзе Алена-брыгадзір.

На куст аперся даўганогі сажань.
Алена некалькі хвілін маўчыць,
Пасля садзіцца на пракос і кажа:
— Хадзі сюды, дапамажы злічыць...

Яна глядзіць журботнымі вачыма,
Мой чуб камечыць, зліплы на ілбе.
— А ты вялікі ўжо, амаль мужчына,
І праца добра спорыцца ў цябе.

Вось паглядзі — ты абганяеш нават
Сваіх настаўнікаў — дзядоў сівых...
Сцяжынкай топкай над старой канавай
Іду з касою між ракіт густых.

І чую: голасам прыгожым, зычным
Пяе Алена песню пра любоў,
Як ліхадзей пракляты — паляўнічы
Разбіў без жалю пару галубоў.

Насыпаў пшанца
Аж да каленца,
Наліў вадзіцы
З чыстай крыніцы.

Галубка не есць,
Галубка не п’е,
А ўсё ж на ту гору
Ўсё плакаць ідзе...

І захлынулася слязамі песня,
Я ўжо не песню чую — горкі ўсхліп.
Я знаю: гэта гору ў сэрцы цесна —
Ужо няма куды падацца ўглыб.

Я знаю: долы затапіла б морам,
Калі б адразу выплакаўся боль
Тых соцень тысяч, вымучаных горам,
Што ўжо нікому нельга крыўдзіць больш.

Мір на зямлі даўно, а ў іх у сэрцы
Яшчэ смыліць, яшчэ грыміць вайна,
І, можа быць, ужо да самай смерці
Для многіх з іх не скончыцца яна.

**Студзёная вясна**
Красавіцкі празяблы ранак.
Снег не ўсюды яшчэ сагнала,
І на полі ў барознах хлюпкіх
Лёд падталы ў вадзе стаіць.

У парваных старых апорках
Я мяшу ледзяную кашу
І збіраю гнілую бульбу,
Перамёрзлую за зіму.

Разграбаю раллю рукамі
І, узрадаваны знаходцы,
Нібы золата ком — у кошык
Змяклы, слізкі «шаймор» кладу.

Дома, счысціўшы шалупінне,
Сыплю бульбу ў старую ступу,
І таўку таўкачом вялізным
Цеста чорнае, як зямля.

Маці лепіць з яго аладкі
І кладзе іх на скавародку,
І кладзе яна роўна восем —
Каб усім па адной якраз.

О шайморавыя аладкі!
Ні раней, ні пасля, здаецца,
Я не ведаў смачней нічога,
Перапушчаных сухама!..

Помню, летам у сорак сёмым,
На пісьменніцкую нараду,

У аблезлым старым партфелі
Я прывёз іх з сабою ў Мінск.

Прычапіўшы душу «шаймарам»,
Я вымаў перагнуты сшытак
І па ўзору дзесяткаў іншых
Верш пра росквіт палёў складаў.

Я пазней зразумеў, што ў песні
Можна ўсё дараваць паэту:
Нават рыфму: сабака-хата,
А тым болей: рука-нага.

Толькі фальшу, і грама фальшу
Не даруе чытач нікому,
Нават тройчы лаўрэату,
Узмакрэламу ад вянкоў.

Я зайздрошчу сягоння хлопцам,
Што шчаслівай парой прыходзяць,
Каб праўдзівыя скарбы сэрца
Шчодра прыгаршчамі рассыпаць.

Толькі, хлопцы, не трацьце марна
Вы найлепшых гадоў юнацкіх:
Праз саломіну з мыльнай пены
Вершы-бурбалкі стыдна дзьмуць.

**Дзіна**

Яна была на год ці два старэйшай,
Танклявай, стройнай, з косамі па пояс
І з мілагучным звонкім імем Дзіна,
Што выдзялялася з усіх імён.

Дачка ўрача, калісьці местачкоўца,
Яна прыйшла да нас з другога свету,
Што для мяне быў гэткім жа нязвыклым,
Як і яе не наскае імя...

Я чуў яго ў званку на перапынак
І вылятаў, як апантаны, з класа,
Каб толькі лішні раз на калідоры
Спаткацца з ёю і зірнуць тайком.

Я паўтараў і слухаў: «Дзіна!.. Дзіна!..»
Яно мне музыкай звінела дзіўнай
І пераносіла у край далёкі,
Дзе белы ветразь, сонца і вада.

Мне йшоў шаснаццаты, і я нікому,
Яшчэ нікому сэрца не ўстрывожыў,
І ў вечар бэзавы на ціхай лаўцы
Яшчэ ніхто па мне не сумаваў.

Я трызніў першым недзіцячым смуткам
І адчуваў, як нарастае сіла,
Што разаб’е замок шчаслівай тайны…
І ён прыйшоў, доўгачаканы дзень.

Я ў гэты дзень (таму яго і выбраў)
Прынёс пасведчанне за сямігодку…
І ў гэты ж дзень прыехаў на пабыўку
Марылін Сцёпка, здаравяк-матрос.

Плячысты, рослы, у матросцы белай,
У бесказырцы з лентамі, у клёшы…
На самай першай вечарынцы ў клубе
Ён паланіў адразу ўсіх дзяўчат.

Усіх не ўсіх, але адну — напэўна,
І мне было даволі, каб забыцца
Пра ўсё на свеце. З горычы і крыўды
Я не знаходзіў месца анідзе.

З ім цэлы вечар танцавала Дзіна!..
І ўсё, што ўбачыў я за цэлы вечар —
Рука з маленькім якарам чарнільным
На беласнежнай кофтачцы яе!..

Я парываўся, каб пайсці дахаты,
Каб не глядзець, але мяне на месца
Ізноў вяртала нітачка надзеі:
А можа гэта і не так зусім?

І з клуба — разам… Я ж адзін, як прывід,
Ішоў на свіст самотнай перапёлкі,
На крык драча насмешліва-дзяркаты:
— Та-ак! — Та-ак! — Та-ак! — Та-ак!

Няпраўда, драч, не так!..

Яшчэ пабачым!..
Вось сустрэну заўтра —
І ўсё скажу! І мне яна паверыць!..
Я так скажу, што мне ўвесь свет паверыць!..
І — не сказаў… Ні заўтра, ні пасля…

Калі ж апёк мне рукі ліст на пошце,
Я — незаменны паштальён калгасны —
У той жа ранак здаў пасаду брату.
Тым больш, што ўжо чакаў самога шлях.

Глыбока ў сэрцы пахаваў я слова,
Што не паспеў сказаць… О, цуда-слова!
Як зерне — коласам, як семя — кветкай,
Яно аднойчы песняй прарасце.

**Развітанне**
Журботна-ціхім жураўліным ранкам
Я ад'язджаў у горад на вучобу:
Прыйшло з вучылішча паведамленне,
Што я залічаны на першы курс.

Шырокі кузаў роўна з берагамі
Насыпаны пахучым цёплым зернем,
А я — наверсе, на рудым брызенце,
Пры мне — стары дарожны сундучок…

Да пабачэння, родныя палеткі!..
Маленства сцежкі мілыя, бывайце!..
Бывайце, першыя трывогі сэрца!..
Расстацца з домам надышла пара.

Мяне чакае новы свет нязвыклы,
Ён невядомасцю крыху трывожыць,
Але к яму я ўсёй істотай рвуся —
Там мой жаданы, мой вялікі лёс…

Вядзі ж, вядзі мяне хутчэй, дарога,
Насустрач будучыні запаветнай —
Я моцна веру ёй, і гэтай веры,
Я знаю, хопіць мне на ўсё жыццё.

## ГАРЫЦЬ, ГАРЫЦЬ МАЯ ЛАГОЙШЧЫНА

*Патрыятычная араторыя з чатырма баладамі*

Горит, горит село родное,
Горит вся Родина моя.
*З партызанскай песні*

Гарыць, гарыць мая Лагойшчына —
І позна ўноч, і рана ўранку.
Шалёна-дзікая разбойшчына
Руйнуе край бесперастанку.

Не стала Рудні і Кандратавіч,
Датла скіпела Гарадзішча —
І плакаць некаму над стратамі,
Над чорным сумам папялішчаў.

Гарыць Хатынь, Губа, Ідаліна,
Палаюць Ніўкі, Стайкі, Гані…
А колькі заўтра будзе спалена —
Крумкач варожыць на курганні.

Ужо зрабілася бяздомнаю
Старонка ўся ад хеўры лютай.
А вораг кружыць хмарай цёмнаю:
«Яшчэ зраблю цябе бязлюднай!»

### Балада пра паслухмяную Гэлю

Не было ў удоўкі
З Гэляю турбот.
Мець дачку такую —
Проста шчасце ў хаце:
Ні адной нязгодай
За шаснаццаць год
Не пасмела Гэля
Запярэчыць маці.

Як бярозка ў лесе,
Вырасла яна:
І такою чыстай,
І такой ціхманай.
Не паспела толькі

Падарыць вясна
Пацалунак першы
Гэлі паслухмянай.

Неяк бачыць Гэля,
Стоячы ў двары:
Вуліцай да брамкі
Паліцаі крочаць.
Напіліся недзе
Служкі немчуры,
Скаляцца, як выжлы,
Як звяр'ё, рагочуць.

Кінулася Гэля
Белая як снег
Цераз сад да рэчкі —
На кусты надзея.
А з гарода маці
Ёй крычыць услед:
— Гэля, стой! Вярніся!
Стой, кажу табе я!..

Гэля ўмела бегаць —
Гэля б уцякла,
Затулілі б Гэлю
Лазнякі ды вольхі.
Але ж Гэля ў маці
Добраю была:
Не магла парушыць
Мацярынскай волі.

— Дачанька, вярніся! —
Чуецца ізноў.—
Што яны нам зробяць?
Мы не вінаваты!..
І дзівачка Гэля
Пакідае схоў,
І трасецца з плачу,
І ідзе дахаты.

Ні жывой ні мёртвай
Узышла на двор.
Абступілі злыдні
Гэлю-прыгажуню.

Лупавокі унтэр
Крутануў затвор:
— У падвал — старую!
— Ты — са мной — у пуню!

Кінулася маці:
— Не чапай дзіця!
Раненай арліцай
Падляцела ў гневе.
Адступіў паўкроку
П'яны паліцай —
І нягучны выстрал
Сонца збіў у небе.

Пакаціўся долу
Чорны шар з гары —
За пагоркі ў полі,
Дзе аўсы жаўцелі.
І крычала нема
Цішыня ў двары
На збялелых вуснах
Паслухмянай Гэлі.

*

А пад Казанню, недзе ў Печышчах,
Стары паэт не спіць начамі.
Празорца, волат, чалавечышча
Пакутна горбіцца ў маўчанні.

Пра родны край тужліва марачы,
Глытае ўдушны дым маркоты.
О, каб цяпер яму ў Беларучы
І ў сэрцу мілыя Акопы!

Туды, дзе Прудзішча і Селішча,
Туды, дзе Гайна і Бясяды,
Дзе да Ядвігіна аселіцай
Вялі ў Карпілаўку прысады!..

Яму так мала на Лагойшчыне
І гэтак многа-многа трэба:
Чарпнуць з крыніцы той прыгоршчамі,
Дзе хлопцы п'юць, не зняўшы стрэльбаў…

**Балада пра чырвоны каснічок**

Кожны ранак Манечка
Падбягала к маці:
«Запляці мне, мамачка,
Каснічок чырвоны!»

Маці слухаць мусіла
І ўплятала гожа
У кудзеркі русыя
Каснічок чырвоны.

Ах, як добра Манечцы
Бегаць па дзядзінцы,
На галоўцы маючы
Каснічок чырвоны!

Дома ўсе вялікія —
Мама, тата, баба —
Маню так і клікалі:
«Каснічок чырвоны!»

Толькі ў хату ранічкай
Уварваўся немец —
Выбіў з рук у Манечкі
Каснічок чырвоны.

Маня з мамай тупала
На дзядзінец людны:
«Ці забраў ён, думала,
Каснічок чырвоны?»

Мама прыгаворвала:
«Прыйдзе тата з пушчы —
Ён адыме ў ворага
Каснічок чырвоны...»

Прыпазніўся з хлопцамі
На дзядзінец бацька.
«Дзе ты, маё золатца,
Каснічок чырвоны...»

З мамаю ціхусенька
Манечка ляжала —

Цёк па шыйцы худзенькай
Каснічок чырвоны.

*

Гарыць, гарыць мая Лагойшчына
І кроўю сходзіць несціхана,
Як Русь калісьці пад мангольшчынай,
Пад капытамі Чынгісхана.

Раз не ўдалося з сэрцаў выпалаць
Свабоды сімвал непакорны —
Самыя сэрцы хочуць выпаліць,
Ператварыць у вугаль чорны!

І стогне неба, пагражаючы,
І бомбы сыпяцца, як плашкі, —
І на Барыскі, і на Жабічы,
І на Дзяніскі, і на Дашкі.

Зямля ў агні пякельным корчыцца
І адказаць сабе не можа:
Калі ж, калі нарэшце скончыцца
Шаленства набрыдзі варожай?

**Балада, якую немагчыма расказаць да канца**

Пасты — на дарогах, ля гумнаў — пасты,
Засада — на кожнай сцяжынцы.
Сям'ю за сям'ёю у свіран пусты
Прыкладамі гоняць чужынцы.

І бачыць жанчына, што выйсця няма,
Ад роспачы — блага жанчыне.
«Схаваю сыночка... Загіну сама,
Дык, можа, дзіця не загіне...»

Сказала: —У грады, сыночак, бяжы! Бяжы! —
Загадала малому.—
Стуліся ў разорцы і ціха ляжы,
Пакуль я вярнуся дадому!..

Пражэрліва ліжа смяротны агонь
Бензінам аблітыя сцены.
Стаяць і любуюцца каты кругом,

Як шэрыя прывіды-цені.

Аж раптам: бяжыць хлапчанё на пажар,
І плача, і слёзы глытае,
І трэ кулачкамі замурзаны твар,
І штосьці пра маму пытае.

Ці голас матулі пачуўся яму
У жудасных крыках пакуты?
Ці можа ў разорцы сырой аднаму
Даўгімі здаліся мінуты?
— Хадзі! — мацюкнуўшыся, карнік
сказаў.—

Хадзі, бальшавіцкае семя!
Пакуль яшчэ стрэльбу ты ў рукі не ўзяў —
Хай вецер твой попел рассее!..

Хапіўшы малога, нібы птушаня,
Узняў над сабою...

*

Гарыць, гарыць мая Лагойшчына,
Але ў адплату за пажары —
На дол хрыбтом перахрабошчаным
Распасціраюцца пачвары.

Трашчаць масты, дарогі дыбяцца,
Ляцяць саставы пад адхоны,
І, растрыбушаныя, сыпяцца,
Як гнёзды восаў, гарнізоны.

А ў пушчу цёмную Вяпрацкую,
А ў векавечны бор Руднянскі —
На бой, на смерць, на вернасць брацкую
Народ шыбуе партызанскі.

Тваю трагедыю, Лагойшчына,
Што будзе помніцца да скону,
Ён не пакіне неадпомшчанай
І не даруе анікому!

**Балада колішняй вуліцы**

Я была зусім звычайнай —
Невялікай, ціхай вулкай,
Па канцах — крыху пясчанай,
Пасярод — грудаста-мулкай.

Я была ў рабінах, вербах,
У штыкетах і парканах,
У пакрыўленых асверах,
За платамі паўтырканых.

Хоць гуло струной трывожнай
Нада мной маё сучассе —
Кожны вечар шыбай кожнай
Мне дарыў людское шчасце.

Снег сыходзіў — я чакала
Самых першых босых пятак
І нібы сама ўцякала
Ад вачэй сварлівых матак.

Ранічкою мякка быдла
Шаргацела капытамі,
Пастушкі ішлі — нібыта
Росных долаў капітаны.

Як вяселле праязджала —
Беглі коні ашалела,
Я ад тупату дрыжала —
Мне ні трохі не балела.

А балела страшна ў дыме,
У агні тым, што аднойчы
Па-над хатамі маімі
Заклубіўся апаўночы.

Ні парканаў, ні штыкетаў,
Ні рабін маіх не стала.
Толькі гора з лета ў лета
Горкім зеллем прарастала.

Я пакрыта і сягоння
Палыном, сівым, як прысак,
Хоць сябе ранейшай помню
Да балючых самых рысак.

Вы, турысты, не ламайце
Палыну — прашу зарана,
І па мне — цішэй ступайце:
Я — зямлі жывая рана.

Фотаздымкаў не рабіце —
Ні к чаму і недарэчы:
Хіба можа ў іх адбіцца
Немы крык нечалавечы?

Так запомніце, без картак:
Сэрцам, нервамі, вачыма...
ЦІ я гэтага не варта?
Недастойная, магчыма?

Што ж тады пільней і болей
Чалавецтву помніць трэба,
Каб яшчэ страшнейшым болем
Не праццаць зямлю і неба?

*
У свеце знаюць смутак Лідзіцэ
І Арадур у горкай скрусе.
А партызанкай першай лічыцца
Зямля бясстрашнай Беларусі.

Павек забойцаў ненавідзячы,
Мой край і кроплі не прыдумаў
Пра нашых дзевяць тысяч Лідзіцэ
І дзевяць тысяч Арадураў.

У нас агонь каціўся вёрстамі,
Па ўсёй зямлі гудзеў лавінай,
Забраўшы кожнага чацвёртага,
І — два мільёны з палавінай!

У нас усе бары і ельнікі —
Музеі славы несмяротнай.
Вы знайце гэта, пераемнікі
Вялікай доблесці народнай.

Не забывайце сцежкі даўнія,
Што мсціўцы вытапталі ў лесе,

Калі праз ночы легендарныя
Вам светлы дзень насустрач неслі.

Не забывайце, што не ўсе яны
Садзяцца сёння між гасцямі,
Што нашы долы-горы ўсеяны
Не толькі ворагаў касцямі.

Усё, чаму яны не здрадзілі:
І праўду іх, што ў бой вадзіла,
І веру іх, якой не страцілі,—
Спытае заўтра з вас Радзіма.

І песень тых, што грозна пеліся:
«Фашыстам спуску не давайце!»,
Якімі сэрцы ў сцюжу грэліся,
Вы песень тых — не забывайце!

І мовы той, што з гулу полымя
І з-пад зямлі, жывою з ямаў
Крычала, рвалася праклёнамі,—
Вы не цурайцеся таксама!

І дум, што думаліся ў горычы,
І слёз, што выплакалі маткі,
Пра свой бясхмарны дзень
          гаворачы,
Не забывайце іх, нашчадкі!

Душою радасна-ўлагоджанай
Не забывайце, што і сёння —
Гарыць, гарыць мая Лагойшчына
Трывожным полымем бяссоння.

**НЕДЗЯЛЕНЯ**

I
Вялікая ў свеце была вайна.
І ў свеце, і ў нас на Гайне
Перакуліла адразу яна
Усё дагары нагамі.
І звыклы парадак, і звыклы спакой —
Усё абярнула хаосам,
Дзе сэнсу і логікі, ну, ніякой —
На наш недарослы розум.
Леўку, якому дванаццаць год,
Мама ўнушае, схмурнеўшы:
«Бацька пайшоў — ты замест яго.
Будзеш за бацьку для меншых».
Як гэта можа такое быць?
Леўка — ды нам за бацьку?
Што ж ён, мяне і папружкай біць
Возьмецца па-забіяцку?
Так я і дамся яму! Чакай!
Зараз усім нам воля.
Што сабе хочаш — рабі-вытварай.
Восень, а мы не ў школе.
Кніг не чытаем. Пасём кароў.
Вяжам з бярозы венікі.
Ды рэжамся — так, што будзь здароў! —
У дваццаць адно на «пфенікі».
І нават вучымся пакрысе,
Не баючыся дарослых,
Лаяцца ўголас, каб чулі ўсе,—
Які ж можа быць тут послух?

II
Страшная ў свеце была вайна.
Ні страт, ні ахвяр не лічыла.
Набіваць і знішчаць вучыла яна.
Ратаваць — таксама вучыла.
Банкір свой банк ратаваў той парой.
Кароль ратаваў карону.
А я не быў ні банкір, ні кароль,
Дык я — ратаваў... карову!
Хтось за дзяржаву адказнасць нёс,
Хтосьці — за ўсю Еўропу.
А мне справядліва судзіў мой лёс

Адказным быць за карову.
Са мною рашылася ўсё прасцей —
Аб'ект і маштаб скрамнейшы.
Было нас у маці васьмёра дзяцей —
Малы за малога меншы.
А бацька ў атрадзе. І трэба было
Самім аб ратунку думаць,
Бо калі прыйдуць немцы ў сяло —
Усіх, як шчанят, падушаць.
Таму, калі ў лес было трэба ўцякаць,
Ведалі ўсе без падказкі,
Хто што павінен з сабой хапаць —
Якія ў каго абавязкі.
Мама хапала Алесіка
І клунак з ядою за плечы.
Ліна хапала Мараціка
І клунак з адзеннем за плечы.
Леўка хапаў Міколку
І з коўдрамі клунак за плечы.
Іда хапала Святланку
І з вобуем клунак за плечы.
А я — хоць і клунак з пасудай хапаў –
Загад меў асобага роду:
Я кідаўся вопрамеццю да хлява,
Кароўку за вяроўку — і ходу!
Я памятаў — маці казала не раз:
«З кароўкі — усе наедкі.
Калі б ды, крый бог, не было яе ў нас –
Што б мы рабілі, дзеткі?
Мы б самі згібелі, і пэўна б былі
Не страшныя нам гітляроўцы.
Калі мы ад голаду йшчэ не злягլі —
Дзякуйце, дзеткі, кароўцы.
Хоць і смярдзючы з травы праснак
І гэта бурда з бацвіння —
Але з малачком, дык і есца ўсмак.
Кароўцы мы ўсе павінны».
І мы разумелі: праўду яна
Нам паўтарае ўпарта.
Ні хлеба ж, ні бульбы — нічога няма.
А восем ратоў — не жарты.
Дакуль падціскаў бы нам паяскі
Голад кашчавай рукою,
Калі б не тугія чатыры саскі —

На кожны сасок па двое?!
Вось і мяркуйце: у той вайне —
Пад ценем крывавых свастык —
Значны ці не быў даверан мне
Нябачнага фронту ўчастак?
Нехта адказваў дзесь за плацдарм,
Нехта — за ўсю абарону.
А я — хіба ворагу ў бітве здам?
Хваробу яму — не карову!

III

Цяпер я ў гісторыю ўласных імён
Экскурс зраблю невялічкі.
У нас звычайна па назвах дзён
Давалі каровам клічкі.

Калі ў панядзелак убачыла свет —
Клічка была Панядзёха.
За панядзелкам аўторак услед,
Значыць, ужо — Аўтарэня.
Калі ў сераду — Серадуля,
Калі ж у чацвер — Чацвярэня,
А ў пятніцу — дык Пецярэня,
Калі ж у суботу — Субоня.

Наша ў нядзелю зірнула на свет —
Наша была Недзяленя.
Клічка-імя падабалася нам —
Святочна гучала вельмі.
Тым летам, калі пачалася вайна,
Была яна першым целем.
Таму і на дымчатых вілах рагоў —
Як будучыні зарука —
Віднеўся адзін абадок усяго,
Адна кальцавая зарубка.
А масцю — як спелае жыта была.
Імя пасавала да масці.
«У збожжы не бачна — ну, проста бяда!
Апраўдваўся я перад маці.
«Па штату» я быў пастухом у сям'і —
Вадзіў Недзяленю на пашу.
Кожны дзянёк — з вясны да зімы —
Дбаў пра карміцельку нашу.
Яшчэ не скранецца туман у раўках —
За вёску кіруешся з ёю.
Повад — як сон абарваны ў руках,

А ў роце — трыумф сырадою.
Росы, як голкамі, ногі табе Колюць.
Няма куды дзецца?
Ступай, дзе карова траву саскубе —
Цяпло там ад губ застаецца.
Памалу вяду-пераводжу далей,
Шукаю, каб свежае месца.
Скубе Недзяленя штораз весялей,
І рад я, што добра наесца.
Скубі, Недзяленька! А я павадок
На рогі табе заматаю
Ды злётаю мігам у Петраў равок —
Чмяліных там сот пашукаю.
У шкоду не лезь! Хадзі па траве.
Я ў добрае верыць ахвочы;
Я веру, што ўсё разумеюць твае
Вялікія сумныя вочы.

IV
«Немцы! Ля Гайны ўжо немцы! Эгэ-эй! –
Віхурай па вёсцы трывога.—
Ратуйцеся, людзі! Бяжыце хутчэй!
Хапайце з сабою, што змога!»
Мама схапіла Алесіка
І клунак з ядою за плечы.
Ліна схапіла Марацыка
І клунак з адзеннем за плечы.
Леўка схапіў Міколку
І з коўдрамі клунак за плечы.
Іда схапіла Святланку
І з вобуем клунак за плечы.
А я — хоць і я не забыў хатуля —
Загад меў асобага роду:
Я кінуўся вопрамеццю да хлява,
Кароўку за вяроўку — і ходу!
Аселіцай, межамі, полем наўсцяж —
Бягуць ашалела вяскоўцы.
«Каб толькі да лесу — ратунак там наш.
Алюрам!» — крычу я кароўцы.
Салёныя рагі на вочы — дармо!
Дармо, што займае дыханне.
«Хутчэй, Недзяленька, хутчэй бежымо:
Карнікі ўжо каля Гайны!
Нам толькі да лесу — і ўсёй бегатні.

Шпарчэй жа хоць трохі, ты чуеш?
Ты ж можаш: калі нападуць авадні —
Дык вунь як тады гізуеш!
Ну, што ж ты спынілася?» Кашаль забіў.
Глыбокі — і з пенаю — кашаль.
Стала й ні з месца. Што хочаш рабі.
Бакі толькі ходзяць цяжка.
А людзі бягуць і мінаюць нас —
Ажно выкладаецца кожны.
Яшчэ нейкі час, яшчэ нейкі час —
І я застануся апошні.
«Пайшла! Ну, пайшла ж ты!» — прашу і крычу,
І робіцца млосна ад страху.
Зрываюся ў лютасць і моцна хвашчу,
Луплю вераўчакай з размаху.
Плачу і б’ю па баках, па хрыбце —
Не памагае пачостка.
«Ты хочаш, каб Гітлер забраў цябе?
Ну й стой жа тут, воўчая костка!»
Кідаю са злосцю далоў павадок —
І джгаю, захаканы, з клункам.
«Хоць бы забегла за гэты грудок —
Можа б, ён стаў ёй ратункам…»
І я павярнуўся міжволі кругом —
І ахнуў, замёр ад здзіўлення:
Бяжыць! Недзяленя бяжыць наўздагон!
Капыціць сама Недзяленя!
Ото яе малайчына! Пусцілася ўслед!
Кароўка мая залатая!
Цяпер нас не возьме фашыст-людаед.
Пас пушча з табою схавае.
Хадзі ж, Недзяленька! Давай капыток —
Там повад засеў — я дастану.
Ах, можа ж, на шчасце, не бачыў ніхто,
Што ледзьве бяда ў нас не стала!

V

Жывём у зямлянцы — на выспе ў бары.
Прывыклі — нібыта й нядрэнна.
Але і ў бары — жыццё да пары:
У дзіч забірацца патрэбна.
А дзіч — гэта дзіч: імшара-дрыгва,
Сасонкі, хмызняк ды багна.
Прарвецца дзе мох — і шусне нага,

І багна засмоктвае прагна.
У дзіч падаёмся, бо карны атрад
Аблавай ідзе па лесе.
На дзіч спадзяёмся. Мяркуем: наўрад
Ці немец у багну палезе.
Вы не блукалі з дзяцьмі па дзічы?
Не? То варонь вас божа!
Мама злуецца: «На куп'ё скачы!
Во твань і закоўтаць можа!»
Скачам. Зрываемся. Ногі ва ўсіх
У чорнай рудзе па калені.
А мне — найгорш: калачуся штоміг
За кожны крок Недзялені.
Толькі як-небудзь ёй падмагу —
Пярэднія ногі выме,
Як тут жа заднімі ў тую ж дрыгву
Правальваецца па вымя.
«Мама! — гукаю.— Засела ізноў!»
Ды ўчуць мяне ўжо немагчыма:
Быццам адразу сто перуноў
Грымнула дзесь за плячыма.
Потым — застукаў, забіў кулямёт.
«Лажысь!» — нечы голас суровы.
Я падаю ніцма — тварам у мох,
Амаль пад жывот каровы.
Ёй вылезці з багны сіл не стае,
А я — памагаты слабы.
Ляжу, прытуліўшыся к боку яе,
І чую, як дыхаюць скабы.
І чую, як моцна дурманіць багун,
Падмяты на купіне шэрай.
А нашых не чую. Таму і бягу,
Падхоплены страхам, наперад.
А нашых не бачна. Захакаўся. Пот
Сціраю з ілба, з пераносся.
І ў гэту хвіліну, як здань, самалёт
Над самай імшарай пранёсся.
Цяпер не гляджу ўжо, куды па імхах,
Па куп'і нясуць мяне ногі.
Арыентыраў не ведае страх
І не разбірае дарогі.
Калі адгрымела і пошчак заціх —
Было ўжо амаль на змярканні,—
Жывых і здаровых, знайшоў я сваіх:

На шчасце, пачуў іх гуканні.
Мама падбегла, да сэрца хіне.
Малыя турмой абступаюць.
«А дзе ж Недзяленя?» — пытаюць мяне.
«А дзе ж Недзяленя?» — пытаюць.
«Ну, што вы прысталі? Вы ж знаеце дзе! —
Рззоніць іх маці нягнеўна.—
Хіба ж ён па багне адзін правядзе?
А вось удваіх мы — то пэўна!..»
Зноў квокча і топіцца ў багнішча мох.
Гнілое, глухое няўтулле.
«Цялух-Недзяленя! Цялушка! Цёх-цёх!» —
Гукае пяшчотна матуля.
Без клунка, здаецца, лягчэй удвая
Скакаць мне па шапках гарбатых.
«Цялух-Недзяленя!» — гукаю і я,
А голас — такі вінаваты.
Зусім звечарэла. Пасыпаўся дождж.
І цёмна і вусцішна стала.
Спыніліся. Мама ўздыхнула: «Ну, што ж!
Раніцай знойдзем!» — сказала.
«Раніцай знойдзем! — сказала малым.—
Ноччу бадзяцца нягожа».
Лсўка тым часам нарэзаў галін,
Зрабіў для начлегу ложа.
Мама ажэвісты жмых праснака
Па восем кавалачкаў дзеліць.
«Ах, каб цяпер хоць глыток малака!» —
Пакутліва думаюць дзеці.
Была б Недзяленя — не грызлі б сухі.
Як моцна, выходзіць, падвёў я!
Што ні кажы, а чатыры саскі:
На кожны сасок — па двое!
Ноччу не спіцца. На сэрцы скрабе.
Шэпчацца, цвеліцца лісце:
«Гэта ж усе праз цябе, праз цябе
Без малака засталіся!»
Нешта Алесік заплакаў у сне,
Марацік затрызніў спрасоння:
«Гэта ж усё праз мяне, праз мяне
Мучае голад іх сёння!»
Мо ўпершыню зразумеў я тады,
Як страшна ў вялікай дзеі
Не апраўдаць давер грамады,

Сваіх ашукаць надзеі!
Можа, адтуль праз усё жыццё —
З грознай пары партызанскай —
Я і нясу ў душы пачуццё
Адказнасці грамадзянскай?..

VI
Быў на рагах адзін абадок,
Тым часам чатыры стала,
А ўсё яшчэ ходзіць горам-бядой
Па роднай зямлі навала.
Тым часам і я ўжо амаль дзяцюк:
Не дзесяць, а ўсіх трынаццаць,
І ведаю: Гітлеру скора каюк,
Нядоўга яму ўжо трымацца.
Пад вечар пасём на паляне кароў.
А ў вёсцы — заслон варожы.
Бачу: выходзіць бацька з кустоў,
Худы — як пасля хваробы.
Ён падзывае мяне кіўком
І шэптам дае заданне:
Трэба прабрацца ў вёску цішком:
Што там у іхным стане?..
За хмызам віднеюцца стрэхі хат
І нават шпакоўня на жэрдцы.
Дзяруся кустоўем. І раптам: «Хальт!»
Аж ёкнула нешта ў сэрцы.
Тоўсты, мардаты, яшчэ не стары,
Гранатамі падперазаны,
Ён робіць насустрач крокі са тры
І гаркае: «Дзе партызаны?»
Наіўна паказваю кмену снапок
І паціскаю плячыма,
І — нібы клубок, адлятаю ўбок:
Толькі кругі прад вачыма.
Не даланя — а пранік цяжкі,
Вялізарны пранік драўляны.
«Аўфштэен!» — І зноў ён казерыць бялкі
І гаркае: «Дзе партызаны?»
І зноў паціскаю плячыма ў адказ:
«Не знаю. Не бачыў. Не знаю».
І зноў пад гучны «праніка» пляск
Далёка ў траву адлятаю.
А потым яшчэ, і яшчэ, і яшчэ!

А потым... ляжу нерухома.
Гарачы струменьчык на губы цячэ.
На вейках — ліпучая стома.
Хачу іх расплюшчыць, адплюшчыць хачу!
Чаму ўсё імглой ахінула?
Сплывае імгла, і я нема крычу:
У вочы мне цэліцца дула!
Пасля паднялося, хіснулася ўбок —
Хай куля пабудзе ў патроне.
Лепей без стрэлу. З падкоўкамі ж бот!
...На шчасце — чуць вышай скроні.
Ранак. Ляжу на сухой дзеразе.
На лбе — абячэйкай — хустка.
Мама ўсміхаецца: «Чуеш? Гудзе!
Хутка ўжо, дзетачкі, хутка!»
Я слухаю дол — ён мембранай стаў:
Дзесь кананада далёка.
А побач — глядзіць на мяне з куста
Вялікае сумнае вока.

VII
Даўно адкрывавіла Тая вайна,
І ўжо нават крывяцца недзе:
«Не гэткай была ўжо і страшнай яна,
Шаноўныя сэры і лэдзі.
Падумаеш — могільнік вёсак Хатынь!
Бясплатны музей, якіх многа».
І ўжо аднаго ім шкада: што не тым
Прыйшлася ў вайне перамога!..
І новыя войны грымяць на зямлі,
І, седзячы ў багнішчы дзесьці,
Плачуць — даўно малака не пілі —
Галодныя, хворыя дзеці.
Ах, памяць балючая даўніх дзён!..
Кароль, што кульнуўся з трону,
Марыць, каб зноў вярнуцца на трон
І на лоб уссадзіць карону.
Банкір, што быў ледзьве не страціў банк,
Марыць, назло ўсяму свету,
Стаўку зрабіць на бомбу і танк,
На самалёт і ракету.
А я — у былым не кароль, не банкір,
А толькі пастух — я мару
Пра мір на зямлі. Павінен жа мір

Апраўдаць такую ахвяру!
На тысячы год у імя яго
Ахвяру дало чалавецтва!..
Між іншым, і частку сэрца майго.
Найлепшую частку, здаецца.
Тую, дзе птахам над весняй зямлёй
Радасць звінела зазыўна.
А мне засталася другая — і ў ёй
Смутак ды боль непазбыўны.
Таму б. і хацеў хоць аднойчы, хоць раз
Вярнуцца на родны падворак,
У той даваенны, той светлы час,
Пры першых вячэрніх зорах,
І ўбачыць, як мама у дзве рукі
Доіць карову, як льюцца,
Звіняць аб даёнку тугія цуркі
І песняй ва мне аддаюцца,
Як хораша ў ладным шчарбатым гаршку
На вогнішчы варыцца бульба,
А дзеці цярпліва сядзяць у кружку
І слухаюць радасны булькат.
А мама зірне: «Адцэджваць пара!» —
І здыме гаршчок з цаглінаў,
І рушаць за ёю — у хату з двара —
І Леўка, і Іда, і Ліна...
Той дружнай вячэры, пакуль буду жыць,
Ужо я ніколі не ўбачу.
І так жа мне горка, і так мне баліць.
Ну, што я без гэтага значу?

## А РАНІЦЫ ЎЖО НЕ БЫЛО

*(Галасы на могілках вёсак)*

*Памяці*
*ахвяр фашызму*

ЛЮДЗІ ДОБРЫЯ, ПОМНІЦЕ!

Людзі добрыя, помніце!
Мы любілі жыццё, і Радзіму,
І пас, дарагія.
Мы згарэлі жывымі ў агні.
Наша просьба да ўсіх:
Хай жалоба і смутак
Абернуцца ў мужнасць і сілу,
Каб змаглі ўвекавечыць вы
Мір і спакой на зямлі,
Каб нідзе і ніколі
У віхуры пажараў
Жыццё не ўмірала.
*Надпіс на мемарыяльным вянцы ў Хатыні*

ГОЛАС ЮНАКА
Раніцай, раніцай…
Рана-раненька, ледзь сонца ўзыдзе…
Я хацеў да ўзлеску вобмігам злятаць,
Там чаромхі абярэмак наламаць
І з той белай, з той духмянай чаромхай
Заявіцца, нібы ў казцы чароўнай,
Прама к цераму каханай маёй —
Палажыць на падаконніку ёй
Ды ўяўляць пасля ўвесь дзень, як яна,
Абачнуўшыся, падыдзе да акна
І, пры маці застыдаўшыся няўзнак,
Скажа:
«Глянь, ізноў тут быў той дзівак…
Не хапала ў хаце гэтага смецця».
А сама ў белапенную квецень
Будзе твар заружавелы туліць,
Каб на шчоках той пажар патушыць…
Але раніцы не было.
Але сонца ў той дзень для мяне не ўзышло.
Не прынёс я з узлеску чаромхі духмянай

І не ведаю нават, што стала з каханай:
Ці ляжыць на пагорку, у зямлі ў сырой,
Дзе шыпшыннік буяе,
Ці самотнай і хворай жанчынай старой
Горкі век дажывае?

ГОЛАС ДЗЯЎЧЫНЫ
Раніцай, раніцай...
Рана-раненька, ледзь сонца ўзыдзе...
    Я збіралася, нагрэўшы вадзіцы,
    Вымыць чысценька падлогу ў святліцы,
    Потым, думала, да рэчкі я збегаю,
    Каб аеру там нарваць каля берага
    Ды раскідаць на вільготным памосце —
    Хай у хаце водар чуецца моцны,
    Каб мой любы, завітаўшы на парог,
    Зноў сказаў мне, быццам так, незнарок:
    «Да чаго ж люблю, як пахне аер!..
    Лепш за ўсё на свеце пахне аер!..»
Але раніцы не было.
Але сонца ў той дзень для мяне не ўзышло.
Апаўночы ў святліцу ўварваўся няпрошаным госцем
Чужынец у касцы — і косы раскідаў мае на памосце,
І востры, як стрэлка аеру, прыставіў да сэрца мне штык...
Апошняе, што я запомніла,— жудасны мамін крык.

ГОЛАС СЕЙБІТА
Раніцай, раніцай...
Рана-раненька, ледзь сонца ўзыдзе...
    Я збіраўся надзець (бо інакш саграшу я)
    Белавымытую, як на свята, кашулю.
    Як на свята, скаромна паснедаць з сям'ёй,
    І паехаць у поле з лубянкай-сяўнёй,
    І пайсці басаножжу па пульхнай раллі,
    І адчуць, як жывую, пяшчоту зямлі,
    І адчуць, як жывое, насенне ў далоні,
    І засеяць тым зернем шырокія гоні,
    Каб, яшчэ да марозцаў, да інею першага
    Зарунеўшы, азіміна сэрца мне ўсцешыла...
Але раніцы не было.
Але сонца ў той дзень для мяне не ўзышло.
Не сыпнуў я зярнят у раллю — не дачакаўся я свята:
Вораг кулямі ў грудзі мне густа сыпнуў з аўтамата,
Калі ў белай кашулі, зламаўшы вароты ў гумне,

Я рвануўся з агню, і кашуля палала на мне…

ГОЛАС ЖНЯІ
Раніцай, раніцай…
Рана-раненька, ледзь сонца ўзыдзе…
Я збіралася ў поле, на постаць, пайсці —
З вастразубым, бліскучым сярпом на плячы,
Са жбанком у руцэ, поўным хлебнага квасу.
Ціха, думала, выйду, дзвярыма не бразну,
Каб дзяцей не ўзбудзіць — хай паспяць, хай паспяць.
Хай шчаслівыя сны бестурботна дасняць.
Толькі, думала, большай дзяўчынцы скажу,
Што паснедаць згатовіла,— пакажу
Дый пайду, трэба ж жаць, бо я маці:
Будзе хлеб — будзе радасць у хаце…
Але раніцы не было.
Але сонца ў той дзень для мяне не ўзышло.
І не ўзыдзе ніколі, ніколі не ўзыдзе!
Не стаяць мне з сярпом вастразубым у жыце,
Не схіляцца сярод шапаткіх каласоў
І не чуць маіх дзетак малых галасоў…

ГОЛАС ЧАТЫРОХГАДОВАГА ХЛАПЧУКА
Раніцай, раніцай…
Рана-раненька, ледзь сонца ўзыдзе…
Я чакаў, што мама прыйдзе па мяне,
Нечым цёплым, цёплым-цёплым ахіне,
Бо так холадна, аж зубы ляскацяць,
За дратамі за калючымі стаяць,
Тут, куды прыгналі нас, адных дзяцей,
Пад дажджом наскрозь прамоклых да касцей…
Мама прыйдзе, мама ўпросіць вартавых
Адпусціць мяне дадому, да сваіх,
Мама возьме моцна-моцна за руку,
Павядзе мяне па мосце за раку —
Да бабулі, а бабулечка з гляка
Поўны кубак мне нальe малака!
Ды на печ пасадзіць — ножкі пагрэць.
Кот-вуркот са мной захоча дурэць…
Але раніцы не было.
Але сонца ў той дзень для мяне не ўзышло.
Уначы, калі гуртам мы плакалі ціха за дротам,—
Засвяцілі пражэктары раптам, наўсцяж адчынілі вароты
І спусцілі на нас зграю страшных аўчарак вялізных:

Мы не зналі, што іх доўгі час не кармілі наўмысна...
Пакрамсаны, паклычаны ікламі, ледзьве жывы,
Я ляжаў і стагнаў на дарозе, пакуль не дабіў вартавы...

ЭПІЛОГ

Столькі зведаўшы гора, нягод,
Столькі слёз, і крыві, і агню —
Ты, Радзіма, на тысячы год
Заслужыла сабе цішыню.
Ні пра што не забыўшы ад той
Гераічнай і грознай пары,—
Больш за ўсё ты вартуеш спакой,
Больш за ўсё цэніш міру дары...
Хай жа ў кроплях світальнай расы
Ціха падаюць зоркі на дол.
Хай увосень страсаюць лясы
Дождж іглiцы і град жалудоў.
Хай на звонкіх арэлях вясны
Сонца гушкае мары дзяўчат,
Хай ад чорнай, як смоль, баразны
Будзе сейбіту светла ў вачах.
Хай пускаюць на плынь ручая
Папяровы свой флот хлапчукі.
Хай, пацешнае, скача шчаня,
Каб дастаць да дзіцячай рукі...

**ЗАРУЧЫНЫ**

*Маленькая аповесць 1946 года*

Пасля вайны, гады са два, відаць,
Я працаваў калгасным паштальёнам.
Згадзіліся мне гэты хлеб аддаць,

Што між падлеткаў-хлапчукоў зялёных
У вёсцы першым грамацеем быў.
Я спакусіўся не заробкам-плёнам:

За «палачкі» — за працадні рабіў.
Мяне прывабіў чын працоўны гэты,
Бо вельмі прэсу я чытаць любіў

І ўсе часопісы, усе газеты
Абавязкова сам гартаў спярша —
Жыцця і свету вызнаваў сакрэты.

Бывала, млее з нецерпі душа,
Пакуль начальнік, зверыўшы, размеціць
Насліненым канцом карандаша.

Апроч звычайнай пошты раз у месяц
Разносіць грошы выпадала мне —
«Пасоб'е», выданае ў райсабесе:

Бацькам сыноў, палеглых на вайне,
Удовам, дзецям, з недаяду хворым…
О, колькі іх у нашай старане

Было тады, людзей, прыбітых горам,
Што ў вочы чыстыя саміх нябёс
Глядзелі з крыўдай і нямым дакорам!

Яшчэ не верачы дарэшты ў лёс,
Яны чакалі сатварэння цуду,
А я «пасоб'е» ім у хаты нёс.

Тых горкіх дзён да скону не забуду.
Тых позіркаў жаночых, што былі
Страшней усякага вайне прысуду.

Найгорш сціскала сэрца мне, калі
Прыходзіў я да цёткі Міхаліны.
Яе дачка і сын у дол ляглі

За Віслай дзесьці. Можа, з паўхвіліны,
Пакуль «пасоб'е» з кайстры я вымаў,
Яна глядзела на мяне маўкліва,

І ў позірку, успыхнуўшы дарма,
Згасаў надзеі матчынай агеньчык.
«Няма… Чаго чакаю — зноў няма…»

Садзілася на зэдлік каля печы,
Журботна склаўшы рукі ў прыпале.
Суцішыць боль яе было мне нечым.

«Вазьміце, цётка, грошы вось…» Але
Яна ніколі ў рукі іх не брала.
«Пакінь іх там, дзіцятка, на стале»,—

Глухім, няўцямным голасам казала,
Як бы не мела і патрэбы ў іх —
Пры той нішчымніцы, што панавала.

Апроч удоў і мацярок старых
Яшчэ атрымлівалі ў нас «пасоб'е»
Чацвёра воінаў-байцоў былых.

Калек чацвёра. З усяе паўсотні
Мужчын, што з вёскі на вайну пайшлі,
Лёс толькі ім дамоў вярнуцца собіў.

Таму яны шчаслівцамі былі.
Хоць на падпоры стаць ён іх прымусіў
А ўсё ж хадзілі па зямлі, жылі!

І не адна Марыля ці Франуся
Зайздросціла, галосячы наўзрыд:
«А хай бы ж мой хоць гэтакі вярнуўся!

Тады ж да нас, у наш вясковы быт,
Замест свайго, прывычнага адвеку,
Прыйшло важкое слова «інвалід».

«Я — інвалід вайны, а не калека! —
Пратэставаў бязногі Мікалай.—
І ты не крыўдзі, цётка, чалавека:

Калекам ты мяне не абзывай! —
Калека вунь Мікіта сухарукі...»
А быў скалечаны ўвесь родны край!

Ляжаў, трываючы пакуты-мукі,
У страшных ранах, у руінах спрэс,
У попеле, дзе згаслі стогнаў гукі.

Але з нябыту ён ужо ўваскрэс!
Ужо на ўвесь прасцяг сякеры пелі,
І пілы шорхалі — валілі лес,

Нязмоўчна кіркі і ламы звінелі,
І з гэтай музыкай не ва ўнісон —
Пратэзы й мыліцы паўсюль скрыпелі.

Іх заглушыць не мог ні гул, ні звон:
На ўсіх дарогах, вуліцах, падворках
Быў чуцен страшны іх вайне праклён.

І так глядзець было балюча-горка,
Калі, нацупваючы слізкі брук,
На неслухмяных мыліцах-падпорках

Ішоў высокі прыгажун дзяцюк —
Сярод «шчаслі́ўцаў» маладзейшы самы,
Нязвыкла сумны, Мікалай Стрыбук.

Яму нагу начыста адкрамсалі.
З падторкнутай пад пояс штанінай,
Ён невясёла жартаваў часамі:

«Ну, коні, страсяніце галавой!
Вязіце, мілыя, мяне, вязіце!..»
І з фронту, і з бальніцы тылавой

Я пісьмы ад яго прыносіў Зінцы —
Дачцэ суседа нашага Кузьмы —
І больш за іншых знаў аб таямніцы.

Хоць не былі равеснікамі мы —
Я нават трохі раўнаваў употай…
Стрыбук вярнуўся ў першы дзень зімы.

Знябыўшыся чаканнем і самотай,
Дзяўчына прывітаць яго прыйшла
І не стрымала слёз пры ім… А потым…

А потым вёскай чутка паплыла,
Нібы Кузьма сказаў: «Хоць і чакала,
Ды не такога…» Крыўда апякла

Душу хлапца. І Зінцы нельга стала
Да Стрыбукоў пераступаць парог.
А тут і з працай не пашанцавала:

Пасад «начальніцкіх» на чатырох
У вёсцы не было. Ды і адкуль жа?
Снягір Валодзя — без абедзвюх ног,

З рукамі да зямлі, на тоўстых кульшах
Вясковым клубам з лета кіраваў,
На пошце быў начальствам Пётра Кужаль –

Ён на пратэзе з кіем чыкільгаў.
А старшынёю сельсавета ўвосень
Іван Ярэмка, аднарукі, стаў.

А больш — якую дзе пасаду возьмеш,
Каб мог ты з ёй спраўляцца ў акурат?
Дык што? Да скону ехаць у абозе?

І ў Стрыбука ў душы настаў разлад.
Былы лясны і франтавы разведчык,
Танцор, пяюн, наогул — хлопец-хват,

Пачаў здавацца лёсу. І засведчыў
Сваё змірэнне з горам і надлом,
Калі аднойчы п’яны цэлы вечар

Праспаў на сцэне ў клубе — куль кулём.
Я не судзіў яго судом суровым —
Я ўспамінаў, як беласнежным днём,

У сорак трэцім, з аўтаматам новым,
У поўны рост стаяў ён у санях
І стрымліваў гнядога ўладным словам,

Што на марозе сам ірваўся ў шлях.
Ён у падлеткаў быў тады кумірам,
Героем быў у моладзі ў вачах.

А зараз вось ён — сам сабе нямілы,
Непашаноўны, моўчкі да дзвярэй
Жыргае, з позіркам цяжкім, панылым.

Спяшаецца — напэўна, каб скарэй
Дамоў дабрацца і дадаць з паўкварты:
Усё адно, маўляў, не весці рэй,

Усё адно нічога ты не варты,
Тваё жыццё пайшло кату пад хвост,
Вайна з табой згуляла не на жарты —

І ты не станеш больш у поўны рост
Ні ў баявых санях, ні за трыбунай…
Але ж і страшна думаць пра пагост!

* * *

Пачатак лета зеляніўся буйна.
Шугалі травы. Перла ярына.
І лапушылася на сотках бульба.

Патроху ў сны сыходзіла вайна.
Ясней, выразней паўставала ява.
І абляцела вёску навіна:

Кузьма прызнаў, што ёсць на свеце права
Вышэй ягоных, бацькавых, правоў
І не ўступаць яму — пустая справа!

Перамагла прасветлая любоў!
Яго дачку, кірпаценькую Зінку,
Са Стрыбуком убачылі ізноў.

Праз вёску ўсю ішлі на вечарынку
І з вечарынкі разам, удваіх,
Не тоячыся ад людскога зірку.

Пасля балючых крыўд-пакут усіх
Яны ад шчасця аж цвілі. І людзі
Загаварылі пра вяселле іх.

Яно, казалі, па дажынках будзе,
Па схіле лета, каб на каравай
Зачэрпнуць жыта новага ў арудзе.

Тады й знайшоў заробак Мікалай.
За пенсію вяселля не наладзіш:
Жаніцца хочаш — грошы здабывай!

За вёскаю, як здань на даляглядзе,
Тырчэў палац, разбураны ў вайну,
У састарэлым, колісь панскім, садзе.

Я помню: мураваную сцяну
Мы кіркамі дзяўблі і малаткамі —
Мы, хлапчукі, пазнаючы цану

Раствору й кладкі, сцверджаных вякамі.
«Без грубкі ў школе будзеце зімой,
Калі не надзяўбеце цэглы самі»,—

Сказаў дырэктар нам. І мы гурмой
Прыходзілі шторанку на руіны
І выдзіралі са сцяны старой

Па тры-чатыры — за паўдня! — цагліны.
Аднойчы прыжыргаў да нас Стрыбук,
Стаяў, глядзеў, напэўна, з паўгадзіны.

Назаўтра мы здаля пачулі грук —
Хтось дзёўбаў мур. Так, гэта ён быў з ломам
І ўжо надзёўб не менш паўсотні штук.

У працы быў жаніх зусім не зломак.
Усеўшыся, дзе ніжай, на муры,
Заядла гахаў, аббіваў без стомы,

Затым цагліну падаваў сястры,
Малой дзяўчынцы, каб яна занесла
І палажыла ў штабель на двары.

Было відаць: душа хлапца ўваскрэсла.
Ён абвясціў нядаўняй скрусе бой!
Ад апантанасці яго аж трэсла.

Ён бачыў будучыню прад сабой.
І, хоць духі выматывала праца,
Здавалася: праз тыдні два, не больш —

Не застанецца следу ад палаца.
Ён ведаў: сёння цэглу, цэглу дай! —
Народ пачаў нанова будавацца.

Агнём пажараў зруйнаваны край
Меў незвычайную патрэбу ў цэгле:
Расхопяць тут жа — толькі паспявай!

Таму і думкі так святочна беглі,
Калі ён досвіткам ішоў праз сад:
«Не, я не бедны, братцы! Я не бедны!

Руіна гэта для мяне — што клад.
Да той пары, як рыхтаваць гасцінцы,—
Я дзесяць тысяч выб'ю! Пяцьдзесят!

Сто тысяч выб'ю! Па адной цаглінцы
Перабяру ўвесь гэты чортаў мур!
І зразу ўбор вясельны спраўлю Зінцы!

Сабе куплю шыкоўны гарнітур.
Зраблю застолле — каб на ўсё наўколле!
Гуляй, народ! Пі і вачэй не жмур!..»

Праз тыдзень ён усё раздзёўб, адолеў,
Дзе толькі мог далезці і дастаць.
А як бурыць, дзяўбаць далей і болей?

Аб гэтым доўга нечага гадаць:
Патрэбна толу раздабыць, закласці
У нішу выбітую і ўзарваць.

Хоць і не быў ён спец па гэтай часці,
Але на фронце з толам справу меў
І не баяўся, што «салют» не ўдасца.

Якраз у дзень заручын ён хацеў
«Салютаваць» жыццю, каханню, любай.
...І задыміўся шнур, і зашыпеў.

А ён няспешна ўстаў, падцяўшы губы,
І павярнуўся да сцяны спіной,
І жыргануў праз бітай цэглы гурбы.

Але няўдала: мыліцай адной
За камень зачапіўся, спатыкнуўся
І ў друз калючы ткнуўся галавой.

Апёршыся на рукі, азірнуўся —
А мыліца за метры два ўбаку.
Спачатку ён дастаць яе памкнуўся,

Ды, мабыць, страшна стала дзецюку,
І ён, з адной падпораю, падскокам,
Пайшоў па коўзкім друзе і пяску.

І вільтахнуўся зноў за трэцім крокам,
І зноў упаў, кульнуўся тварам ніц,
Падскочыў спрытна, бы працяты токам,

А за спіной ужо «салют» грыміць...
Калі на дол асела хмара пылу —
Ляжаў пад грудай, мёртвы, падрыўнік.

* * *

Ну, а жыццё, не ведаючы спыну,
Пайшло далей, далей за годам год.
Ужо за трыццаць Зінчынаму сыну.

Ужо на тры чацвёртыя народ —
Ва ўзросце міру. Аж паверыць цяжка:
Жывуць — не помнячы вайны нягод!

Ды што яна — не міф, не казак вязка —
І сёння ўсім здаровым, маладым
Напамінае стукам дзеравяшка,

Ды мыліц скрып, ды рукавом пустым,
Запхнутым у кішэнь, пінжак нямодны
На незнаёмым дзядзьку пажылым.

Уціх, улёгся боль усенародны,
І як пяецца ў песні не адной —
Квітнее край, шчаслівы і свабодны!

А ім — знявечаным калісь вайной —
Усё цяжэй з пакутамі спраўляцца,
Трымацца з мужнасцю непаказной.

Унукі ў хатах скачуць, весяляцца,
А ім прыходзяць позвы ўсё часцей —
Да баявых сяброў перасяляцца.

Штогод іх менш і менш сярод гасцей
На людным свяце ў гонар Перамогі.
А на кладах магілы ўсё гусцей.

А па зямлі ўсё сцелюцца дарогі —
Гасцінцы, магістралі, бальшакі —
Не для пакут, не для людской трывогі —

Для радасці і шчасця на вякі!

## І ВЕРУ Я

І ў позні час, і ў час світання,
Як сцеле золак сцежкі дню,
Я чую словы прывітання,
А ў іх — любоў і цеплыню.

Яны — ад тых, што ў зябкай стыні
Руку на дружбу падалі
Маёй даверлівай краіне,
Маёй спагадлівай зямлі.

Па гэтых шчырых словах добрых,
Што нарастаюць з кожным днём,—
Знаёмых, новых, невядомых
Сяброў сваіх мы пазнаём.

Іх больш і больш па ўсёй планеце.
І веру я: наступіць час,
Калі нідзе не застанецца
Глухой няветласці да нас!

**МАСКОЎСКІ ЛІВЕНЬ**

Неба рыхтавала
Свой сюрпрыз юнацтву:
Цёплым ліўнем долу
Хлынула знянацку.

На шырокай плошчы —
Мітусня натоўпу.
Не чакаў ніхто з нас
Гэткага патопу.

Я знайшоў ратунак
Пад шчытком кіёска
Ды гляджу з уцехай
На вясёлы плёскат.

Бачу: недалёка
Госць стаіць на плошчы,
Працягнуўшы ліўню
Чорныя прыгоршчы.

Я крычу: «Таварыш!» —
І заву рукою,
Як магу тлумачу
Моваю такою;

Клічу ратавацца
Да сябе пад стрэшку.
Толькі мне ў аддзяку
Дорыць госць усмешку.

У краіне пальмаў
І слановых біўняў,
Можа, ён прывыкшы
Не да гэткіх ліўняў?

Можа, гэты лівень,
Што руччамі льецца,
Хлопцу цёплым душам,
Дожджыкам здаецца?

А ці, можа, проста
Захацеў, упарты,

Зведаць асабіста,
Чаго дождж наш варты?...

Як бы ні было там —
Пэвен я застаўся,
Што маскоўскі лівень
Госцю спадабаўся.

## ДЫЯЛОГ ПА ДАРОЗЕ НА СЕВАН

— З чаго вашы хаты, масты, гарады?
— З камення, мой браце, з камення.
— А скуль гэты смак вашай цуда-вады?
— З камення, мой браце, з камення.
— Адкуль у вас сокі бярэ вінаград?
— З камення, мой браце, з камення.
— А скуль гэта вера, што я табе брат?
— Са спадчыны: з мук і цярпення.

## КАЛЯ ПОМНІКА
## МАРЫІ ЗАНЬКАВЕЦКАЙ У КІЕВЕ

*Дз. Паўлычку*

Пад кручамі высокімі дняпроўскімі,
У садзе, ледзь абуджаным вясной,
Апанаваны думамі няпростымі,
Стаю прад ёю ў цішыні начной.

Калісь, праслаўленая, знакамітая,
Яна прыехала ў губернскі Мінск,
І Беларусь, слязьмі нядолі ўмытая,
Пачула: «Наш, сястра, паклон прымі…»

І ўбачыла: у зрэнках воч засмучаных —
Адзін нясцерпны, невымерны боль.
І зразумела: гэта — лёс замучаных,
Яна жыве ім — не ўдае сабой.

Не ўцешыла яе старонка братняя —
З журбой вярнулася ў журбу сваю…
Вялікае, святое, нерастратнае
Мяне трымае тут, дзе я стаю.

І нават уначы, у мяккім мораку,
Мне добра бачна — лепей не ўявіць —
Маленне рук, ля сэрца гэтак згорнутых,
Як бы яно ёй і цяпер баліць.

* * *

На змярканні, калі ў небе зоры
Праступалі, прывідна-няўстойлівыя,
Мы купаліся ў Японскім моры,
Пераездам і спякотай стомленыя.

Цішыня стаяла над затокай —
Пэўна, ветры спалі супакоенымі
Недзе там, у далечы далёкай,
За Курыламі і за Японіямі.

Толькі чуўся хвалі плёскат мерны —
Перашэпты ціхія з каменьчыкамі...
І адходзілі лагодна нервы,
Што здаваліся ушчэнт скамечанымі.

І дзівілася палёгцы цела,
Што нядаўна чулася старлыбінаю.
І нырaў у хвалях месяц белы
Неспайманай серабрыстай рыбінаю.

## СУСТРЭЧА З КУПАЛАМ У ТЫРНАВЕ

Яшчэ не хоча зала змоўкнуць,
А Мінка — юная ткачыха —
Наперад з хору выйшла зноўку,
Як быццам просіць: «Ціха! Ціха!..»

А й прыгажуня ж гэта Мінка!
Як ёй да твару ленты, блузка!..
І раптам чую: «Вечеринка! —
Народна песен белоруска!»

Ёй адказала ўсплёскам зала,
А песня ўжо звініць, іскрыцца,
І сцэна ўся, здаецца, зараз
Вясёлай полькай завіхрыцца.

Душа знячэўку аж зайшлася,
І сам не знаю — дай ты рады! —
Ці гэта — Зосі, Стасі, Касі,
Ці гэта — Леды, Неды, Рады.

Не, не было, відаць, памылкай,
Што песня слаўнага баяна
Ткачыхай тырнаўскаю Мінкай
Была народнаю названа.

Гармонік грае, грае, грае,
І мне да слёз глядзець уцешна,
Як нас па-брацку тут яднае
З далёкай бацькаўшчыны песня.

І сэрца б'ецца думай гордай:
А ці ж адна на свеце зала,
Дзе песняй шчырай, непаўторнай
Радніць людзей баян Купала!

## БАЛГАРСКАМУ БРАТУ

Брат мой!
Кроў Леўскага ў жылах пульсуе тваіх.
Кроў Каліноўскага ў сэрцы стукоча маім.
Каты свабоды павесілі іх
абаіх.
Дзеці свабоды ім славу пяюць
абаім.

Тут, у гарах і далінах, стагоддзе назад
Смелы і горды апостал свабоды хадзіў.
Там,
каля Гродна і Вільні,
мужыцкі атрад
Брат яго,
родны па духу,
на бітвы вадзіў.

Што за бяда, што не зналі адзін аднаго?
Гэтых імён у душы маёй не разлучыць.
Кожнае з іх —
гэта частачка сэрца майго.
Кожнае з іх для мяне,
нібы клятва, гучыць.

Стань жа уполлеч, мой друг,
і на хвілю замры!
Дай памаўчаць перад памяццю верных сыноў,
Што ненавідзелі больш усяго на зямлі
Бляск ятаганаў злавесны ды свіст бізуноў.

Вось мы з табою —
нашчадкі шчаслівыя іх —
Рукі злучылі ў замок перад светам усім.
Брат мой!
Кроў Леўскага ў жылах пульсуе маіх!
Кроў Каліноўскага ў сэрцы стукоча тваім!

## НА КАСТРЫЧНІЦКІМ СВЯЦЕ Ў САФІІ

Ёсць слёзы,
Якіх не саромлюся я.
Такія прыходзяць не часта.
Па праву назвала іх
Песня мая
Слязамі братэрскага шчасця.

Я зведаў яго
Лістападаўскім днём
Ля шумнай святочнай трыбуны,
Дзе сэрцы і сцягі
Палалі агнём
На ветры Кастрычніка
Буйным.

Здалося —
На плошчы семнаццаты год.
І я —
Акрылены без меры —
Вітаю ў натоўпе
Жаданы прыход
Вялікаснай
Сонечнай
Эры.

Нібыта
Я толькі са штурму іду,
І ўсё яшчэ ў самым пачатку...
Як ясна я ўбачыў,
За што я вяду
Натхнёную Леніным
Схватку!
Такога —
Ніколі не вычытаць з кніг
І не зразумець па газеце.
Ёсць слёзы,
Гарачая праўда якіх
За ўсё даражэй мне на свеце.

**ДУМКА НА ЮБІЛЕЙНЫМ ВЕЧАРЫ ЭЛІСАВЕТЫ БАГРАНЫ**

Мне здалося на момант:
Чайку белую
Раптам убачыў я,
Што да ўцёсу ляціць
Над агромністым
Морам любові,
І адчуў,
Як на сэрца мне
Пырснулі пырскі гарачыя,
Калі зала грымела
Магутным раскатам
Прыбою.

Потым чайка растала,
Уцёс абярнуўся трыбунай —
Паэтэса стаяла
І прыгожай,
І мудрай,
І юнай.

Той хвілінай
Я думаў пра шчасце
І чамусьці —
Пра Сінія скалы,
Што ўзнесліся горда
Над горадам Слівенам.
Шчасця паэтам
Заўсёды ў жыцці не хапала,
І ўсё ж яны могуць быць
Вельмі шчаслівымі.

Толькі трэба глядзець высока
Трэба ўперад ісці
Далёка!
Непахісна і без апаскі —
Дарогаю самай цяжкой:
Ад танных пахвал і ласкі
Насустрач
Любові людской.
І калі
Паміраць у бітве

Ці падаць без сіл
У знямозе —
Дык толькі на гэтай дарозе!
Толькі на гэтай дарозе!

## ПЕСНЯ БАЛГАРКІ

Вяршыні залоцячы ярка,
Над Віташай сонца ўстае.
На Каменным мосце балгарка
Забытую песню пяе.

Аб горкай нядолі мінулай
Мне песня расказ павяла,
І нечым далёкім дыхнула,
І вельмі знаёмай была.

Мелодыя смутку і скрухі
Да болю напомніла мне
Аб песнях маёй Беларусі,
Аб нашай лясной старане.

Напэўна, мы роўна цярпелі
Да суднай гадзіны свой лёс,
Што гэтак аднолькава пелі
На мове праклёнаў і слёз.

Я слухаю песню балгаркі,
А сэрца забыць не дае,
Што недзе вось гэтакі ж яркі
Над Гайнаю дзень устае.

* * *

У храме, цесным, як хаціна,
Дзе абразы па ўсёй сцяне,
Балгарка сумнымі вачыма
Глядзіць з сутоння на мяне.
І хоць на кожнай рамцы з дрэва
Зусім інакшае імя —
Алена, Соф'я, Параскева,
І багародзіца сама —
А ўсё адзін і той жа самы
Ясніцца воблік, бы з імглы,
Святы не святасцю пісання,
А горам роднае зямлі.
«Ты бачыш, брат мой, я ў няволі,
Рабыня прыхамці чужой.
Я ўся сцярпелася ад болю
І вочы выплакала ўжо.
Маю красу чужынцы топчуць,
Маю душу ссушыў палон,
А ў сэрцы раны крываточаць,
А ў вуснах вогніцца праклён».
Пад цёмным кляштарным скляпеннем
Пагляд пакутніц з абразоў
Я стрэну горкім задуменнем
І сто і тысячу разоў.
Т сто і тысяча спатканняў
Не зробяць звыклым для мяне
Іх боль, накоплены вякамі,
Іх сум, народжаны ў ярме.
Хоць знаю: сёння іх Радзіма,
Даўно пазбыўшы кайданы,
Глядзіць шчаслівымі вачыма
На госця з братняй стараны.

* * *

Далёка ў полі, на пагорках варненскіх,
Дзе не чутно курортнай гаманы,
Сімфонію часоў яшчэ даварварскіх
У трыста скрыпак граюць цвыркуны.

За кожным стоеным кустом і кусцікам,
На ўвесь прасцяг без межаў і граніц —
Азвончаная незямной акустыкай
Язычаская музыка грыміць!

Здаецца, свет увесь ёй зараз поўніцца.
Яна праходзіць праз мяне ўсяго:
Ты не забудзешся?
Табе запомніцца
На лісцях яблынь срэбнае сяйво?

Яна, здаецца, на зямлі не месціцца —
То адляціць увысь і прападзе,
То раптам зноў вяртаецца з-пад месяца —
І ў глыб начы мяне далей вядзе.

Далей, далей, нязведанай сцяжынкаю,
Дзе водар жніўня соладка п’яніць,
Дзе векавечнай песняй старажытнаю
Сама зямля балгарская звініць.

Забуду многіх музыкантаў хваленых,
Але й прад смерцю прыгадаю зноў —
Далёка ў полі, на пагорках варненскіх,
Язычаскія скрыпкі цвыркуноў.

**НА СВЯЦЕ РУЖ**

Як па дзівосную даніну,
Я рваўся, выбраўшы маршрут,
У Казанлыкскую даліну —
У царства руж — на Свята руж.

І ўбачыў ружы... Скрозь і ўсюды —
Духмяны цвет, ружовы цвет.
І скрозь так гучна граюць дуды —
Як бы святкуе цэлы свет.

А людзі крочаць праз палеткі
У ззянні ранішняй расы —
І рвуць, і рвуць няшчадна кветкі,
Каб карыстаць дабро з красы.

І я, няўладны над сабою,
Хачу ірваць пялёсткі руж,
Ды шэпча кветка мне з мальбою:
«Не руш мяне, не руш, не руш!

Зрываць красу — пабойся бога!
Пялёсткам сум не залячыць!..»
Ах, павядзі мяне, дарога,
Ад гэтай казкі ўдалячынь!

Вярнуся ў родную краіну —
У пушчу сінюю прыйду:
Лясную, дзікую шыпшыну
У гушчары яе знайду.

І пакланюся нізка ў ногі,
Скажу: «Паклон ты мой прымі...»
Забуду ўсе перасцярогі
І абкалюся — да крыві!..

**КУКЕРЫ**[1]

Гамоніць пляц, пяе і грае,
Ды адчуваецца па ўсім,
Што кожны нечага чакае
І ўсе жывуць чаканнем тым.

Апафеозам святкавання
Павінен стацца нейкі цуд,
Дзеля якога ўсе дазвання —
Стары, малы — сышліся тут.

«Ідуць! Ідуць!» — прыбегла з крыкам
Чародка шустрых хлапчукоў,
І я пачуў якісь нязвыклы,
Трывожна-дзіўны гром званкоў.

Якісь бясконца старажытны,
Ён завалодаў зразу мной.
Зірнуў: жахлівыя страшыдлы
Да плошчы сунуцца гурмой.

У яркіх пер’ях і з рагамі,
У доўгіх пасмах валасоў
І ўсе абчэплены званкамі —
На трыста розных галасоў.

А вочы ў кожнага — па сподку,
А пашча-зяпа — бы ў ільва…
Ідуць па вуліцы з падскокам —
Набок, усякая гульба!

Гляджу на ўбор, на морды-твары —
І вокліч просіцца з грудзей:
— Грыміце, мілыя пачвары!
Скачыце, д’яблы, весялей!

Я вашых мордаў не баюся,
Хоць і пачварныя яны.
Стаю і радасна смяюся
Бяссмерцю мудрай даўніны.

[1] Кукеры — старажытны язычніцкі абрад з пераапрананнем.

Баюся іншых мордаў-масак,
Салодка-ветлых на пагляд,
Што за пачціваю грымасай
У вострым джале тояць яд.

А вашы — што! Адна забава!
Бязвінны даўні рытуал,
Якім калісь ад зла, бывала,
Сябе наш продак ратаваў...

Скачыце ж, кукеры, скачыце,
Ганіце ўсіх злых духаў прэч!
Павек хай будзе добрай, чыстай
І светлай радасць брацкіх стрэч!

## УСПАМІН ПРА ПЕРШАЕ СПАТКАННЕ З БАЛГАРЫЯЙ

Я прыехаў асенняй парою.
І хоць ведаў: тут брат я і друг —
Асабіста ў мяне перад ёю
Не было аніякіх заслуг.

Проста госць, дарагі і жаданы,
Як і кожны з краіны, адкуль
За блакітны Дунай, на Балканы,
Двойчы воля прыйшла на вяку.

Ды адразу ж адчуць давялося,
Што за грунт пада мной векавы!
Што мне ў спадчыну тут дасталося!
Што ўзрасло на братэрскай крыві!

Як былы партызан са слязою
Прыгарнуў мяне к сэрцу без слоў —
Я адчуў: гэта ён са сваёю
Маладосцю сустрэўся ізноў.

Не мяне абдымаў ён, а хлопцаў —
З Волгі, з Дона, з Дняпра і Дзвіны,
Што ішлі з ім тут, локаць да локця,
Скрозь крывавае пекла вайны.

І калі трактарыст аж да хрусту
Мне пацiснуў далонь — зразумеў:
Ён за коней стальных беларускіх
Шчыры дзякуй сказаў як умеў.

І калі ў перапоўненай зале
Прывіталі мой просценькі верш —
Ведаў я: адтаго, што гучалі
Тут Купала і Колас найперш…

Так уцяміў я з першай паездкі
У краіну сяброў і братоў:
Калі маеш ты званне «савецкі» —
Будзь да стрэчы з любоўю гатоў.

А любоў — гэта лёс, не дарунак:
Зразумей, не прынізь, не растраць

І на свой асабісты рахунак
Не спяшайся наіўна прыняць.

Ёсць вялікі рахунак адзіны,
Ен і твой асабісты, лічы:
Веліч, гонар і слава Радзімы.
Што прыдбаў — да яго далучы!

## ВЕЧАР У АКОЛІЦЫ БЯРКОВІЦЫ

*Івану Давыдкаву*

Шум рачулкі ў цішы вечаровай —
На каменных парожках... Аб чым
Ты мне шэпчаш язычніцкай мовай
Пад навіслым кустоўем ляшчын?

Буду слухаць да ранку начную
Векавечную песню вады,—
І адно зразумею-пачую:
Што калісь быў і я малады.

## ПАМЯЦІ АНДРЭЯ ГЕРМАНАВА

1
На старажытных могілках у Софіі,
Дзе спачываюць годы і вякі,
Убачыў я вянкі яшчэ не ўсохлыя —
Павітыя жалобаю вянкі.

І зразумеў — раней, чым згледзеў літары
На чорным крэпе: гэта ты, мой брат!
І ўраз адчуў, нібы прысуд бязлітасны,
Як не гатовы я да гэткіх страт!..

Стаяў, паніклы, над грудком уквечаным,
Што атуліў твой вечны супакой,
А ўсё ў душы крычала і пярэчыла,
Не мірачыся з крыўдаю такой.

Маўчала воддаль цэркаўка, не звонячы,
Акацый водар ліўся ў тленны дух…
А майскі дзень такі быў зырка-сонечны,
Што на імгненне для мяне патух.

А ў разналістай зеляніне могілак
Такі грымеў магутны гімн жыццю,—
Як быццам, спахапіўшыся, адмовіла
На гэты раз прырода небыццю.

2
Азлоблены век забівае
Найлепшых сяброў без пары.
Замены ж сябрам не бывае —
Навек нам даюцца сябры.

Аднойчы, няўзнак, на знаёмства
Абменімся поціскам рук,
Спаткаўшыся зноў — расстаёмся
Без смутку, тым болей — без мук.

Бо ў новыя верым сустрэчы
І знаем: іх безліч яшчэ,
Баяцца за іх — недарэчы,
І наша ад нас не ўцячэ!

Якая наіўнасць! Якая
Бяспечная стаўка на час!..
А наша так хутка ўцякае
Праз тлум-мітуслівасць ад нас!

І вось ужо ўсё: ні спаткацца,
Ні ўбачыць, ні голас пачуць,—
Стаяць і глядзець, як з акацый
Слязіны-пялёсткі цякуць...

3
Любы брат мой балгарскі Андрэй!
Віцязь-рыцар славянскага брацтва!
Знаю: будзе бясконца цяжэй
Мне цяпер за Дунай выбірацца.

Вось прыеду, вось гляну-зірну
У зялёныя Віташы вочы —
І згадаю, як разам вясну
Мы з табой тут «гукалі» аднойчы...

Грэла сонца — і таяў-блішчэў
На сцяжынцы лядок наздраваты.
Слухаць госця яшчэ і яшчэ
У той ранак хацеў нездарма ты:

І да песень матулі маёй,
І да нашай зямлі партызанскай
Неспадманна прырос ты душой,
Каб дзяліцца натхненнем і ласкай...

Дзякуй, брат мой балгарскі Андрэй!
Быў ты ўвесь з дабрыні і любові,
А любоў на зямлі не памрэ —
На зямлі і ў паэтавым слове.

## БЫЛАЯ ТУРМА Ў БЕГУНІ

*Янезу Зору*

У гэтай турме катавалі заложнікаў,
Пасля адпраўлялі далёка ў Дахаў
Або недалёка — ў сырую зямлю.

Чытаю на сценах лісты іх апошнія,
Астрожніцкі дух непазбыўны ўдыхаю,
У літарах сэнс незвычайны лаўлю.

Амаль што не кожная споведзь смяротная —
Найшчырая споведзь без бога і храма —
З адных жа і тых пачынаецца слоў:

«Бывай, мая мамачка!», «Матанька родная!»,
«Даруй мне, матулька!», «Не плач па мне, мама»,
«Матуленька, дзе ты? Ці ўбачымся зноў?..»

Да маці, да мамы і з карцараў Бегуні
Ірваліся думкай дарослыя дзеці,
Каб сэрцам іх голас учула здаля.

Да маці, да мамы ў маленстве мы бегалі,
Калі нас, здаралася, крыўдзілі дзесьці...
О маці — заступніца!
Маці мая!..

**ФРАНЯ**

*Барысу Патэрну*

Цішыню над гарамі
Вечар глушыць паволі імглой.
Мы вяртаемся з Франі —
Партызанскай бальніцы былой.

Там, над прорвай цясніны,
На высокім скалістым плячы,
Засталіся хаціны,
Што далі мне на памяць ключы.

Я паклаў іх у сэрца,
Каб аднойчы вярнуцца туды.
Бо і я — спаткаемца
Братняй славы і братняй бяды.

Бо і мне немагчыма
На спакойны настроіцца лад,
Дзе сляпымі вачыма
Пазіраюць легенды з палат.

Дзе цыбатыя нары
Ды пустыя рады тапчаноў,
Дзе крывавілі раны
Самых верных дачок і сыноў.

Іх насілі калісьці
Не па сцежках туды — па вадзе,
Што ў цясніне-калысцы
Не кідала ні следу нідзе.

Толькі сонца, ды вецер,
Ды маўклівы, як сторaж, арол
Зналі-ведалі ў свеце
Лёсу іх неразгадны пароль…

Мы спускаемся долу.
Ехаць, Франя, пара. Выбачай.
У дарогу дадому
Нас праводзіць грымучы ручай.

Там, над прорвай цясніны,

На высокім скалістым плячы,
Засталіся хаціны,
Што далі мне на памяць ключы.

Я паклаў іх у сэрца,
Каб аднойчы вярнуцца туды.
Бо і я — спаткаемца
Братняй славы і братняй бяды.

Бо і мне немагчыма
На спакойны настроіцца лад,
Дзе сляпымі вачыма
Пазіраюць легенды з палат,

Дзе ў сутонні абрыва,
Пад масткамі, што суха рыпяць,
Белапенныя грывы
Над ілбамі каменняў ляцяць.

**БАРАВІКІ НА ЛЮБЛЯНСКІМ РЫНКУ**

Гудзе, гамоніць тлумна рынак —
Славуты Воднікавы пляц.
Гукае лета з поўных скрынак:
«Прашу купляць!
          Прашу купляць!»

Смуглеюць горы абрыкосаў,
Палаюць персікаў бурты.
Гаспадары праводзяць коса:
«Ці не шукаеш лепшых ты?»

З іх кожны рад накласці з верхам —
У кош,
          у торбу,
          у кулёк.
Ды скрозь нязвыклы фарбаў вэрхал
Сваё угледзеў я здалёк.

На доўгіх століках,
          уроссып,
Як карапузы-хлапчукі,
Нядаўна вымытыя ў росах,
На сонцы спяць баравікі.

Хоць нейкім колерам інакшым
Брылі цямнеюцца ва ўсіх —
Такім дыхнула родным,
          нашым,
Аж я зажмурыўся на міг.
Аж запяршыла нешта ў глотцы.
Стаю і бачу,
          нібы ў сне,
Як іх у Коласаве хлопцы
Латошаць, чэрці, без мяне.

* * *

Вазьмі мяне к сабе пад парасон!
Ты бачыш, як неміласэрна хвошча?
Пакуль дайду — прамокну нізавошта...
Вазьмі мяне к сабе пад парасон.

Давай пакрочым побач, удваіх,
Пад несціханы і зласлівы лопат.
Няхай злуе сабе! Які нам клопат,
Калі мы пойдзем побач удваіх?

Я раскажу табе пра дзіўны край,
Што мне святей усіх святынь у сэрцы.
Ступаючы праз лужыны-азерцы,
Я буду гаварыць пра родны край.

А ты паслухай —
    можа дападзе.
Табе ж амаль нічога невядома,
Як я жыву і чым багаты дома.
Дык ты паслухай —
    можа дападзе?

Захочаш — госцяй мілай запрашу
У нашы вёскі,
    пушчы
і даліны,
Пад наша сонца
    і пад нашы ліўні
У родны край цябе я запрашу.

Каб ведала і ты, які ён ёсць,
Якой ён славы і павагі варты.
Я, можа быць, найболей вінаваты,
Што ты не ведаеш, які ён ёсць.

## ПАДЗЕМНАЕ ЦАРСТВА Ў ПАСТОЙНЕ

Пачну з таго, што ў падзямелле
Папаў электрацягнікам.
А там, з уражання знямелы,
Хадзіў да вечара пяшком.

Глядзеў на цуды зноў і зноўку
У сховах царскага двара.
Нарэшце трапіў у кладоўку,
Дзе процьма ўсякага дабра.

На сценах жэмчугу гірлянды,
Бурштыну россыпы наўкол,
Алмазаў крушні і брыльянтаў,
У самацветах столь і дол.

Але мяне з усёй фактуры
Найбольш уразіла адно:
Нібы наплывы срэбра — скуры
Звяроў, што вымерлі даўно.

Якраз у гэтай зале грота
Сядзіць і сам падземны цар —
Абліты ўвесь халодным потам
Дзівосных скарбаў валадар.

Я не чакаў ніякай ласкі,
А ён спыніў, спытаў — адкуль,
І кажа: — Дар вазьмі мой царскі —
Сем тысяч мамантавых скур!

Тут я ўжо пот адчуў халодны:
— Такі тавар?.. Нашто мне браць?
— Наладзіш выраб туфляў модных —
Мільёны будзеш заграбаць!

— Ах, цар, ды я ж не прамысловец
І гандлю скурай не вяду.
Маё багацце ўсё — у слове,
Што адшукаў і што знайду.

— А з чым жа вернешся дадому?
— Ды, можа, з вершыкам якім…

— Не прызнавайся хоць нікому,
Што дарам згрэбаваў маім.

Дару яго ў тысячагоддзе
Аднойчы толькі, толькі раз —
І ты не ўзяў... Дзівак, дый годзе.
Ці там усе такія ў вас?..

І ён замоўк, замёр, як камень,
Каб цераз тысячу гадоў
Якомусь госцю нечакана
Прапанаваць свой дар ізноў.

## У “ВОЎЧЫМ ЛОГАВЕ”[2]

Сядзіба тырана.
Шалёнага звера сядзіба.
Жалезабетонныя норы-хады
Пад зямлёй.
З натоўпам турыстаў
Іду і гляджу, як на дзіва,
На сцены скляпенняў —
У сажані тры таўшчынёй.
І хто мне даводзіў,
Што моцныя духам тыраны?
Не вера і ўпэўненасць імі кіруе,
А страх.
Той страх неадольны,
Што ў гэтым гняздзе мураваным
Крываваму фюрэру
Спаць не даваў па начах.

Заўсёды і ўсюды
Тыраны баяліся помсты.
Заўсёды і ўсюды
Тыранаў праследаваў страх.
І ўсё-такі помста прыходзіла —
Рана ці позна,
Каб косці іх чорныя
З ветрам развеяць у прах.
Каб доўгія потым
Стагоддзі і тысячагоддзі
Пракляццем гучала іх памяць
У вуснах людзей.
Па шэрых руінах —
Астатках былога страхоцця —
Бязбоязна лазіць
Вяснушчаты
Заўтрашні
Дзень.

---

[2] Так называлася сядзіба Гітлера пад Кентшынам, дзе з 1941 па 1944 год знаходзілася яго стаўка.

## АСВЕНЦІМ

«Нас тут было чатыры міліёны!» —
Крычыць жахлівы надпіс са сцяны.
«Усім, усім падпальшчыкам вайны
На ўсе вякі мы шлём свае праклёны!

Нас з'еў агонь — чатыры міліёны
Мужчын, жанчын, дарослых і дзяцей.
Скажыце: дымам з вогнішча касцей
Сягоння свет ужо не заімглёны?

Скажыце — мёртвыя, мы хочам знаць:
З жаночых кос, як таннай сыравіны,
Ужо не ткуць сягоння мешкавіны
І дываноў, каб ногі выціраць?

А каб мільёнамі не паміраць —
Вы знаеце, што вы рабіць павінны?»

## ЗІМОВАЕ ПАСЛАННЕ МІКІСУ ТЭАДАРАКІСУ

На досвітку сінім ярчэе мароз
І свеціцца іней на голлі бяроз.
На досвітку сінім я ціха пяю
Трывожна-балючую песню тваю,
Мікіс Тэадаракіс.

Я гэтую песню пачуў на людзях,
Яна крываточыць, як рана ў грудзях:
Пакуль хоць дзе-небудзь змагар у турме —
Спакою на свеце не ведаць і мне,
Мікіс Тэадаракіс.

Каб мог я, таварыш, каб толькі я мог
Прайсці да цябе праз няволі парог —
На белых галінках табе б я прынёс
Чароўную казку зімовых бяроз,
Мікіс Тэадаракіс.

Сказаў бы: да скроняў ты іх прыкладзі
І срэбраным інеем боль астудзі.
А толькі на сэрца не трэба лажыць —
Хай сэрца палае, хай сэрца гарыць,
Мікіс Тэадаракіс.

* * *

Як бы лёс настолькі да мяне быў ласкаў,
Што здароўя-сілы мне падкінуў трохі,—
Я хацеў бы з'ездзіць у Краіну Баскаў,
Што ізноў на вуснах людства і эпохі.
Гэту мару пешчу з маладосці ранняй,
Асаблівым нейкім напаўняю сэнсам.
Ні адной навіны ў друку, на экране
З той зямлі далёкай не мінаю сэрцам.
Не магу і сам я толкам растлумачыць,
Што за хэнць такая мне ў душу залезла,
Для чаго мне трэба гэны край пабачыць
І чаму ўспрымаю лёс яго балесна?
Ці каб пакланіцца Герніцы — за тое,
Што калісьці першай нелюдзяў спазнала —
І лягла ў руінах, і сцякла крывёю,
І навек сястрою Беларусі стала?
Ці хачу паслухаць гукі мовы дзіўнай,
Што не мае ў свеце сярод моў сваяцтва,
Што вякамі ў сэрцах сілу-моц будзіла —
Каб не дацца ў рабства, гвалту не збаяцца?
Ці таму, што чуў я — нейкі знаўца тонкі
Аж кракатаў і цмокаў, каб я ўзяў на веру,
Што красы жаночай верх і ўзор — басконкі:
Літаральна з кожнай льга ляпіць Венеру!
Ці затым, каб стрэцца з сейбітамі ў полі
І гукнуць сардэчна: «Сейце, сейце, баскі!
Засявайце нівы зернем новай долі!
Годзе зносіць крыўды, слухаць злыдняў казкі!»
Можа, і не ўдасца мне ў той край сабрацца:
Лёс хітруе штосьці, а турбот — бясконца.
Дайце ж хоць у песні мне абняць па-брацку
Пад чырвоным сцягам гордага басконца!..

## АЎТОГРАФЫ СЯБРОЎ

Аўтографы-надпісы вашы, сябры,
Чытаю на кніжках падораных —
З выказам даверу, павагі, любві,
З зычэннямі самымі добрымі.
Як многа іх, цёплых і ласкавых слоў,
Ад шчырага сэрца напісаных!
І колькі за імі пражытых гадоў
Жывымі ўзыходзяць абрысамі…

Вось гэты згадаў мне аб даўняй вясне
З яе маладымі павевамі.
Дакорам не стаў ён сівой сівізне —
Навек мы, брат брату, паверылі.
Вось гэты… о, як акрыліў ён душу,
Прыйшоўшы ад майстра ад слыннага —
Якраз, калі мне аж калола ўвушшу
Ад крыку дурнога аслінага!..

Вось гэтыя — з братняга краю прывёз
Як словы прызнання ў прыязнасці.
Мне светла ад іх, як ад белых бяроз
На ўзлеску асеннім пры яснасці.
А гэта — апошні… Гляджу на радкі,
Што помню на памяць да каліўца,—
І зноў адчуваю той поціск рукі,
І сэрца ад болю сціскаецца…

Якія магутныя творцы-мужы,
Якія нязломныя волаты
Пайшлі па той бок векавечнай мяжы —
Заўчасна, зарана, замолада!..
Жывіце ж да поўнага веку, сябры,
Не трацячы моцы і шчырасці!
І знайце: нішто нам віхуры-вятры,
Пакуль нашы шэрагі ў шчыльнасці!..

Я дзякуй кажу вам ад сэрца ўсяго,
Мне вашы дарункі-аўтографы —
Як вехі жыццёвага шляху майго.
А ён жа не будзе паўтораны…

* * *

Паклон табе, мой беларускі краю!
Ты — мой, я — твой: ад роду і навек.
Я зноў і зноў да сэрца прыкладаю
Твой ліст дубовы — як чароўны лек.

За хлеб, што ем, за песні, што спяваю,
За шчасце звацца іменем тваім —
Паклон, паклон табе, мой родны краю!
Ты — мой, я — твой: усюды і ва ўсім!

* * *

Як толькі ноч ліпнёвая
Махне крыламі сінімі
Ды цішыня вішнёвая
Па ўсіх садах затоіцца,—
Тады хоць сэрца вынімі,
Каб толькі супакоіцца.

Каб толькі там, дзе ясені
Вартуюць сінь высокую,
Не чуць, як хтосьці ў засені
Заве любоў далёкую,
Як плача-захліпаецца
Струна ў руках пявучая,
Як рвецца-надрываецца
Чыясь душа балючая.

Я ў гэту ноч ліпнёвую
Іду сцяжынкай вузкаю,
Сцяжынкаю жытнёваю,
Зямлёю беларускаю.

Іду, а над крыніцаю
Туман бялявы сцелецца,
І дыхае аселіца
Пахучай медуніцаю.

Іду, а песня новая
Расце ў душы, чаканіцца,
І перапёлка ўдовая
Не спіць да самай раніцы.

Іду, а неба нізкае,
А ночка сінякрылая,
І ўсё да болю блізкае,
І ўсё — старонка мілая!

**ЯКУБ КОЛАС**

Нібы ўласную памяць,
Гартаю тамы:
Гэта — родны наш Край і Народ,
Гэта — Мы...
За гісторыяй крочу па следу:
Вось жандары ў жалезную браму турмы
Павялі бунтара — майго дзеда.

Вось на трактары бацька:
Сціскаючы руль,
Пабуцвелыя межы зрывае,
Вось са стрэльбай ідзе —
Каб жыла Беларусь
Наша ўзгоркавая, баравая.

І сябе
Паміне хлопцаў-сяброў пазнаю —
Мінск на чорных руінах будую,
Мір і шчасце будую І песню пяю
Пра старонку сваю маладую.

Слаўны волат!
Бяссмерце здабыў ты па праву.
Веру цвёрда:
І сын мой,
І ўнук,
І праправнук —
Нібы ўласнае сэрца —
Раскрываюць тамы І — спазнаўшы
Гісторыі мудрую праўду —
Скажуць:
Гэта — наш Край і Народ.
Гэта — Мы.

* * *

Я песню ў сэрцы табе складаў,
Гадамі радкі выношваў;
Да кроплі, што меў і што мог, аддаў,
Каб песня была харошай.

Найлепшыя думкі — мары свае
(Свае — чужых не выпрошваў)
Любоўна ўплятаў у тканіну яе,
Каб песня была харошай.

Лясы-пералескі, дубровы, гаі
З бярозамі ў чорных прошвах
І ноччу і днём шумелі-гулі,
Каб песня была харошай.

І зманлівы пах даспелых малін,
І водар лугоў някошаных —
Усё змясцілася ў сэрцы маім,
Каб песня была харошай.

Якую ж трывогу я зараз таю,
Не знаючы зноў супакою?
Ці гэткай чакала ты песню маю?
Ці прымеш яе ты душою?

**ПРЫЗНАННЕ**

Я шчаслівы, што ў суджаны час
Нарадзіўся на гэтай зямлі,
Дзе такія густыя лясы
І такія спакойныя рэкі.
Дзе вясной непаўторна штораз
Зеляненюць разлогі-палі,
Дзе ўладар гэтай дзіўнай красы —
Ты, народ мой, на вечныя векі!

Я шчаслівы, што вольна магу
Мерыць крокамі далі-шляхі,
Што вадою гаючых крыніц
Я магу праганяць сабе смагу,
Што глыбока ў душы берагу
Гоман пушчаў таемна-глухі,
Бляск вясёлых электразарніц,
Колер роднага сцягу.

Я шчаслівы, што ўзяў для жыцця
Хоць па кроплі малой ад цябе —
Працавітасці шчырай тваёй,
І сардэчнай любві, і спагады,
А яшчэ ўзяў адвагу байца,
Каб не гнуцца ў агні-барацьбе,
І пашану да славы жывой,
І бязлітасць да чорнае здрады.

Я шчаслівы, што ў братняй сям'і
Ты надзейную дружбу знайшоў,
Хлебам-соллю часцей што ні год
Сустракаеш гасцей ля парога,
Што ў далёкіх і блізкіх краях,
Дзе ні быў, дзе ні ехаў, ні йшоў,
Я не чуў пра цябе, мой народ,
Аніводнага слова благога.

**РОДНАЕ СЛОВА**

Пры суседзях у вёсцы нялоўка
«Невучоным» сябе паказаць,
І пільнуецца хлопец, каб слоўка
Так, як кажуць яны, не сказаць.
Мовы ён не забыўся, вядома,
Гэтых простых і сціплых людзей.
Толькі ён ужо год, як не дома,
І на дом не ўскладае надзей.
Маці песню малому спявала
Пра духмяны ў бары чабарок...
Песня сыну нялюбаю стала,
Як пакінуў бацькоўскі парог.
Ад калыскі знаёмыя рэчы
Ён па-іншаму ў хаце заве.
Маці туліць хусцінаю плечы:
«Што ж, і пэўна... не ў вёсцы жыве».
Ёй не ў крыўду сынкова пагарда...
Друг высока абучаны мой!
Сёння матчынай мовы, а заўтра
Засаромішся маці самой?
Ведай: роднае слова грымела
У крывавым агні барыкад,
За свабоду адважна і смела
Заклікала ў паход, як набат.
Родным словам мы грознай парою
Гуртавалі рады змагароў,
З родным словам на вуснах герояў
Запякалася алая кроў.
За яго паміралі і гіблі,
Каб на здзекі і глум не аддаць,
Каб маглі сёння песні і гімны
Пра шчаслівую долю складаць!

## А Ў ПОЛІ ВЯРБА...

*Рыгору Раманавічу Шырме*

Пякло нясцерпна. Млела ўсё навокал,
Нібы зямлю хто варам абварыў.
Як з рупараў, з адкрытых насцеж вокан
Плыў голас: дыктар штосьці гаварыў.

Пасля раздольна песня загучала.
Здалося, лівень хлынуў з вышыні!
Яе мне маці некалі спявала,
Спрадаючы кужэльнай ніткай дні.

Ах, песня маці! Я забыў на стому,
Забыў на млявасць, што ўсяго звяла.
Мяне сцяжынка ўжо вяла дадому,
У бацькаў двор аселіцай вяла,

Дзе на траве бялеюць ранкам росы,
Дзе кладкі выгнутыя над вадой,
Дзе й я калісьці — загарэлы, босы —
Каня паіў з дзяўчынай маладой...

Дыхнула свежасцю,— і лёгка стала,
Пачуўся лесу пошум, плёскат рэк...
Мой родны край, мая зямля спявала,
Мая любоў, адзіная навек!

А я... здалося, піў, прыпаўшы ніцма
Да ручая з крынічнаю вадой...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Мы часта ў спёку ходзім паўз крыніцу,
Але ці часта п’ём з крыніцы той?

## МАРА СКАРЫНЫ

Марыў калісьці славуты Скарына,
«Ціснучы» кнігі на мове бацькоў:
Простаму люду у роднай краіне
Зробіць даступнай ён мудрасць вякоў.

Толькі радзіму сваю ў ліхалецці
Мара яго абляцець не магла:
Білася роспачна птушкай у клетцы,
Вочы ж бядоты сляпіла імгла.

Думалі, згіне, як статак, нямое
Племя пакорнае ў вечным ярме.
Колькі іх мужных, што матчынай мове
Шлях пракладалі і змерлі ў турме!..

Ды разгулялася плынь веснавая —
Змыла пакутнай няволі сляды,
І ўстрапянулася мара жывая,
І абляцела ўвесь край малады!

Сталі даступнымі простаму люду
Мудрасці скарбы са свету ўсяго —
Каб ні ярма, ні імглы, ні аблуды
Болей не зведала доля яго!

**СУСТРЭЧЫ Ў СНАХ**

Ад той роспачна-радаснай,
Незабыўнай давеку вясны,
Калі ў сэрцах бурліў крыгалом,
Вось каторы ўжо год
У мае неспакойныя,
У мае несалодкія сны
Прыходзіць начамі
Пясняр пралетарскі
Чарот.
То ён бачыцца мне —
Малады,
кучаравы,
вясёлы,
У кашулі
у вышытай
Лёгка ідзе па зямлі,
І вітаюць яго,
Пазнаюць беларускія сёлы,
Дзе ён госцем
Жаданым і любым
У кожнай сям'і.
То на плошчы святочнай
Пад гукі ўрачыстага гімна
Верш забыты чытае,
І слухаюць сцішана людзі:
«Не расіце слязамі
Вы брацкіх магіл...
Так было, але гэтак —
Не будзе!»
То здаецца: ў пакоі маім,
Засядзеўшыся позна,
Нахіляецца нізка,
З балючай тугой у вачах,
І пытае даверліва:
— Слухай,
Табе не бывае боязна?
На цябе не находзіць
Пракляты агідны страх?..
«Мне не страшна!» — крычу.
Пудкі сон атрахаецца мігам.
Льецца сонца ў акно.
Мне не страшна.

Звіняць капяжы.
Мне не страшна.
На вуліцы —
Ластавак радасны цвіргат.
Мне не страшна!
За ўзгоркі сплываюць
Хмар цёмных глыжы.
І не будзе мне страшна,
Бо вечна шумець навальніцам.
І не будзе мне страшна,
Бо вечна траве зелянець.
Вечна сонцу купацца
У лясных беларускіх крыніцах,
І няўрымслівай песні
У вечным паходзе
Звінець!

**БАЛЬШАК**

Праз долы-нізоўі,
Дзе ўвечар туманы ўстаюць,
Праз водар мядункавы
Спелых лугоў у пракосах,
Праз рэкі і рэчкі,
Што петлі блакітныя ўюць,
Праз ранішні гоман стозыкі
Пасёлкаў і вёсак,
Праз пушчу, дзе сосны
Струменяць жывіцу-пяршак,
Праз ліўні густыя,
Што раптам заслоняць паўсвета,—
Спяшаецца ўдалеч
Стары беларускі бальшак,
Спяшаюцца людзі,
Спяшаецца век-непаседа.

Мільгаюць бярозы —
Астаткі даўнейшых прысад,
Гіганцкімі скрыпкамі воддаль —
Слупы з правадамі...
Імчуся і думаю:
Колькі стагоддзяў назад
Тут прашчуры босыя
Сцежку сабе пракладалі?
І колькі стагоддзяў
Тут гора хадзіла пасля,
Мужычую помсту хавала
Пад цёмныя шаты?..
І колькі разоў тут
Пляліся чужынцы здаля,
Губляючы гонар і славу,
Штандары і шапкі?..

Нібы ўпершыню,
Углядаюся зноў у прастор —
У мілыя, родныя вобразы
Любага краю.
Без гэтых бароў задуменных,
Без гэтых азёр,
Без гэтых палеткаў
Я шчасця на свеце не знаю.

Вядзі ж мяне ўдалеч —
За ўсе гарызонты, бальшак!
Праз будні імчы
І праз святы,
Праз дні і праз ночы —
Каб вецер Радзімы
Гудзеў несціхана ў вушах,
Каб дых захліпаўся,
Каб слёзы ўзбягалі на вочы!

**НАРАЧ**

*Вянок санетаў*

Максіму Танку

I

Перад блакітным алтаром тваім
Прапелі голасна такія песні,
Што разляцеліся па краі ўсім
І ўжо далей тваё імя панеслі.

І калі недзе ведаюць пра нас
І добрым словам нехта ўспамінае —
Тут ёсць, напэўнае, і тых віна,
Хто аб тваёй прыгожай славе дбае.

Ты ў сэрцах іх — як зорка ў вышыні,
Што ў цемры ночы шлях дадому
значыць.
А чым жа я змагу табе аддзячыць?

Я — твой таксама. Мы — з адной радні.
Аб тым, што выспела ў былыя дні,
Трымаю споведзь і прашу прабачыць.

II

Трымаю споведзь і прашу прабачыць,
Як што не так. Калісьці ля кастра
Я папрасіў славутасць растлумачыць,
У чым сакрэт удачы песняра.

І ён сказаў: «Ні дар, ні спрыт, ні навык
Не дапаможа, калі спіць душа.
У нашай справе лепш не брацца нават,
Як сам сябе не запаліў спярша.

Увесь сакрэт у тым высокім крэда,
Што робіць шчасце труднае маім.
Я праз усё жыццё іду за ім

І знаю сам: без гэтага сакрэта
Мне не зрабіць — хоць правядзі
дэкрэтам, -
Што я наважыў одумам сваім».

III
Што я наважыў одумам сваім —
Я паўтару сабе, як клятву, нанач.
А покуль што стаю ў цішы хваін
І слухаю тваё дыханне, Нарач.

Ледзь чутна ў лодку плюхае вада.
Аднекуль песню родную даносіць.
І ўцешна нібы. І чагось шкада.
І сэрца нечае спагады просіць.

Цвіркочуць побач конікі ў траве.
Агеньчык дзесьці на касе маячыць.
Такой парой, здаецца, можна ўбачыць

І зразумець, чым цэлы свет жыве…
Будзь бласлаўлёна сіла, што заве
У гэтых звонкіх хвалях парыбачыць!

IV
У гэтых звонкіх хвалях парыбачыць —
Каго не вабіла сюды, скажы?
Пакуль змаглі мы долю перайначыць,
Тут пацяшаўся доўга зброд чужы.

Ён выграбаў свае багацці-скарбы,
Хмялеў, распуснічаў і баляваў.
Твой слёзны плач, твае праклёны-скаргі
Насмешкай здзеклівай перакрыўляў.

А ты цярпела, у чаканні мсціўцы,
Які б за здзек і мукі адплаціў.
Твае прасторы морак апавіў.

Тваё здароўе кралі крывапіўцы.
Чаму ж яны не скарысталі, хціўцы,
Таго, што тут рыбак-мудрэц злавіў?

V
Таго, што тут рыбак-мудрэц злавіў,
Не праглынуць было ліхому зброду.
Сам родны край яго благаславіў
На гэты ўлоў у буру-непагоду.

Улоў ягоны — гнеў твой трапяткі,
Той чорны гнеў, што ўздыбліваў глыбіні.
Ён пераліў яго ў свае радкі,
Каб перунамі па чужынцах білі.

Ён шторму грознага адчуў прыход
Душой-барометрам па сіле ціску.
Па тым, як з роўнядзі ўзлятаў вятрыска,

Ён улавіў глыбінь водаварот.
А што сягоння тоіць тоўшча вод —
Мне не ўлавіць, напэўнае, і блізка.

VI
Мне не ўлавіць, напэўнае, і блізка
Тваіх таемных мараў прыгажосць.
Але табе я кланяюся нізка —
Затое ўжо, што ты на свеце ёсць.

Азёр дзівосных бачыў я нямала,
І калі чуў, як гучна славяць іх,
Мяне часамі крыкнуць падмывала:
«А вы да нас загляньце хоць на міг!»

Я разумею рыбака старога,
Чаму ён скрозь, куды б ні закружыў,
Як па каханай, па табе тужыў:

Апроч цябе — няма ў яго нічога,
Апроч паклону ля твайго парога…
Дый што казаць: ён тут з маленства жыў.

VII
Дый што казаць: ён тут з маленства жыў,
І з той пары, на ўцехі небагатай,
Як мацярынскай ласкай, даражыў
Тваім прыветам і тваёй спагадай.

Ты, не даверыўшы другім, сама
Яго вышэйшай мудрасці вучыла:
На свеце лепшага кутка няма,
Чым той куток, дзе маці нарадзіла.

Лепш за яго распяцца на крыжы,

Чым выракчыся, як бяздомны лыска,
Што хоць куды з-за большага агрызка

Гатоў пабегчы — толькі пакажы.
Твой сын другім не прадаваў душы.
Ён тут радзіўся, ты — яго калыска.

VIII
Ён тут радзіўся, ты — яго калыска.
А «дзе радзіўся — там і памірай».
Яго не звабіць іншая прапіска —
Чужых кутоў размаляваны рай.

Яму хапае спраў — аж лішне, можа,
На той зямлі, дзе зведаў хлеба смак,
Дзе ўпершыню падгледзеў, як прыгожа
Кладзе на вокны ўзор мароз-мастак,

Дзе ўпершыню падслухаў на баразнах
Крык жураvoў, зляцелы з-пад нябёс,
Дзе ўпершыню падлеткам службу нёс,

Калі з турмой дзядзькоў сівабародых,
Ахрышчаны ў тваіх празрыстых водах,
Ён невад тут цягнуў, нібы свой лёс.

IX
Ён невад тут цягнуў, нібы свой лёс,
І ты яму дароў не шкадавала.
Штодзень, штодзень на твой шырокі плёс
Выходзіў золакам, ледзь-ледзь світала.

Наскрозь прадублены, як вадзянік,
Раўнівым вокам акідаў прастору:
А ці не зблоціў выспу рабаўнік?
А ці не ўкралі Гатаўскага бору?

І як ні цяжка тут было яму
Парою той, што ў хвалях адкіпела,—
Ён веславаў насустрач сонцу ўмела.

Ён запавету верыў аднаму,
Што ад дзядоў прыняў. Відаць, таму
І песня ў невадзе яго звінела.

X
І песня ў невадзе яго звінела,
І вырывалася ў бязмеж-прасцяг,
І перад ёю далячынь яснела,
І ўсход барвовы палымнеў, як сцяг.

А ў песні чуўся то лагодны плёскат,
То ўздых цяжкі, то жаласлівы ўсхліп,
То посвіст ветру, то гамонка вёсак,
То шум бароў, то ціхі шэлест ліп.

То зліўшы гукі ўсе ў адзін, яна,
Як вадаспад, раўла, гула, шумела,
На цэлы край раскаціста грымела,

Як толькі можаш ты грымець адна,
Калі усходзішся з самога дна,—
Яна на бунт, да помсты звала смела.

XI
Яна на бунт, да помсты звала смела:
З ярма — на волю, з цемры — да святла.
Таму й павесці за сабой сумела,
Што акрылёна вераю была.

А той матыўчык, што парой мармыча
У вінным чадзе скептык малады,—
Ён не вядзе нікуды і не кліча,
А калі кліча — запытай: куды?

Мне з тым матыўчыкам не па дарозе,
Што пасажыр з наклейкамі прывёз.
Я не хачу за ім ісці ў абоз.

Не ён мяне сагрэе на марозе,
Не з ім у строй я стану па трывозе.
Я рад, што сэрцам да цябе прырос.

XII
Я рад, што сэрцам да цябе прырос,
Што ты надзейнай стала мне апорай,
Калі ў душу, як дым ад папярос,
Пранікне горыч і агорне зморай.

Ты мне забыцца не дасі нідзе,
Адкуль я, хто, і чым вядомы продкі.
Ці ў шчасці я, ці ў смутку, ці ў бядзе
Мне да цябе заўсёды шлях кароткі.

І ў спелы май, як грады лапушацца,
І спёкай чэрвеньскай у сенакос,
І ў час жніва, як грымне снапавоз,

Калі ў барах баравікі па шапцы,—
Заўсёды люба мне было спяшацца
Да хваль тваіх, і соснаў, і бяроз,

XIII
Да хваль тваіх, і соснаў, і бяроз
Вяртаўся ў думках я не раз, бывала,
Калі без родных вечаровых рос
Мая душа, засмягшы, вандравала.

І скрозь, куды б мяне ні прывялі
Шляхі-дарогі пад высокім небам,
Ты — сімвал любае навек зямлі —
Была мне ўцехай і надзённым хлебам.

І калі ўвечары ў дрымотным сне
Чужое мора пада мной цямнела
І шэптам хваль заваражыць хацела,—

Было за шчасце знаць і думаць мне,
Што ў сэрца твой дзевяты вал імкне,
Што звеку ты ў маіх вачах сінела.

XIV
Што звеку ты ў маіх вачах сінела —
Пераканаўся, абышоўшы край:
Як многа ў позірках блакіту неба —
Таго, што вымыў цёплым ліўнем май.

Ад продкаў нам застаўся гэты колер,
А для змагання мы сабе ўзялі
Чырвоны колер праўды і ніколі
Не ўступім з ім няпраўдзе на зямлі!

Я веру ў гэта так жа неадступна,

Як веру ў дзень, што зменіцца другім,
Як веру ў мір, які мы адстаім,

Як веру ў сонца, што павек не стухне,
Як веру ў шчырасць песняроў наступных
Перад блакітным алтаром тваім.

**Магістраль**

Перад блакітным алтаром тваім
Трымаю споведзь і прашу прабачыць,
Што я наважыў одумам сваім
У гэтых звонкіх хвалях парыбачыць.

Таго, што тут рыбак-мудрэц злавіў,
Мне не ўлавіць, напэўнае, і блізка.
Дый што казаць: ён тут з маленства жыў,
Ён тут радзіўся, ты — яго калыска.

Ён невад тут цягнуў, нібы свой лёс,
І песня ў невадзе яго звінела —
Яна на бунт, да помсты звала смела.

Я рад, што сэрцам да цябе прырос,
Да хваль тваіх, і соснаў, і бяроз,
Што звеку ты ў маіх вачах сінела.

## СТАРЫЯ ДРУКАРНІ

У розных кутках беларускай зямлі
(Там помнікі б з мармуру высечы!)
Славутыя колісь друкарні былі —
Гадоў таму ледзь не паўтысячы.

Даўно супачылі ў зямлі друкары,
А плён іх сыноўняга подзвігу
Сцірала гісторыя з гэнай пары —
Дзе кроўю, дзе гучна, дзе поціху.

І месцы ўжо тыя нялёгка знайсці,
Парослыя крыўдамі-бедамі,
Дзе ўсходзілі першыя кветкі цвісці
Красы, між народаў няведамай.

О, як бы разросся той кветнік, той сад,
Хоць вёсны былі неспагаднымі,
Калі б не стаптаў заваёўнік-магнат,
Калі б чужакі не спаганілі!

Але, як зярняты з угрэтай раллі,
Слязамі і кроўю палітыя,
Ізноў прарасталі, буялі, цвілі
Бяссмертныя родныя літары!

І чулася, чулася ў стуку станкоў,
Што ім не замоўкнуць заклятымі,
Што будуць яны за хрыбтамі вякоў
Грымець паліграфкамбінатамі.

* * *

Спявайце, юныя паэты!
Спяліце ў бурах пачуцця
Неўтаймаваны боль планеты,
Непераможны крык жыцця!

Магчыма, вам якраз і здзейсніць
Дзядоў вялікіх запавет:
Узняцца так на крыллях песні,
Каб чуў і бачыў цэлы свет!

Назло прарокам самазваным,
Што глуха каркаць пачалі,
Спявайце спевам нечуваным
На мове любай вам зямлі!

Спявайце, помнячы нязменна:
Пакуль паэты будуць пець —
Не быць Радзіме безыменнай,
Зямлі бацькоў — не анямець!

* * *

Не баюся, што мой век нявечны,
Што падамся за дзядамі следам.
Калі міф пра пекла недарэчны —
Дык чаго баяцца стрэчы з дзедам

Пашкадую толькі, што замала
Даражыў нявечнымі дарамі:
І язміннымі начамі мая,
І дажынкавымі вечарамі.

Пашкадую, што пайду ад гэтых
Дарагіх і мілых сэрцу гоней,
Што на сцежках-пуцявінах свету
Не пацісну ўжо сябрам далоней.

А мацней за ўсё я пашкадую,
Перад тым як свет пакінуць весні
Што ўжо больш ніколі не пачую
Нашай роднай беларускай песні.

* * *

У старажытным гарадку над Гайнаю,
Ля зруйнаванай кляштарнай сцяны,
Я думаю, як дзіка, як нядбайна мы
Парою ставімся да старыны.

Чым ганарыцца перад светам варта нам,
Чым даражыць павінен чалавек,—
Ірвём, грызём, руйнуем экскаватарам —
Тэхнічны, балазе, дваццаты век!

Гісторыю трымаюць у пашане ўсе.
Навошта ж безаглядна так наўсцяж
Мы разбурыць мінулае спяшаемся,
Як бы яно — галоўны вораг наш?

Хіба не з працы гаратліўцаў-прадзедаў
Яно вякамі паўставала тут?
Чаму ж няўдзячна гэтак абакрадзена
Зямная памяць іх зямных пакут?

Асцеражней, таварыш, са святынямі.
Чым замяніць іх думаеш, скажы?
Страшней за ўсё, як робяцца пустынямі
Палеткі плодныя людской душы.

## СЛЁЗЫ ШЧАСЛІВАГА ЧАЛАВЕКА

Даўно калісьці, на пачатку веку,
Марыя Косіч, паэтэса наша,
Пісала ў вершы «На перасяленне»,
Як цяжка людзям пакідаць свой край.

«Мы ж тут свет пабачылі,
Тут мы і ўзраслі,
Маладыя лецячкі
Нашы тут цвілі...»

Я прыгадаў забытыя радкі,
Калі на прыстані ўладзівастоцкай,
Дзе мы чыталі вершы роднай мовай,
Стары мужчына падышоў да нас.

Ён быў расчулены і ўсхваляваны,
Бо хліпаў носам, як дзіця малое,
Мыляў губамі, каб прамовіць нешта,
А словы не даваліся яму.

Калі ж стрымаў сябе ад слёз нарэшце,
Назваўся ціха і сказаў: — Даруйце,
Не спадзяваўся сам, што так раскісну,
Вы ўсю душу разверадзілі мне...

На нашы позіркі ён усміхнуўся
І адказаў:— Я магілёўскі родам.
Перасяленец. Сёлета вясною
Было паўвека роўна, як адтуль...

— І як жывецца вам?
— Жывецца добра.
Настаўнік я, са званнем ганаровым.
І ўзнагароды ёсць. І домік з садам.
Наогул, грэшна скардзіцца на лёс.

Быў малады — расціў сыноў і дочак,
Цяпер унукі ўжо — не хопіць пальцаў,
Каб палічыць... Такім прырос карэннем,
Што не сарвацца з гэтай мне зямлі.

Ды і зямля тут не абы-якая.

Вы самі ўпэўніліся: край багаты!
І людзі верныя: з такімі разам
Хоць і на месяц, дык не прападзеш!

Але вось кожны раз, абы пачую,
Як заспяваюць песню беларусы
Ці загавораць моваю сваёю,—
Так і застрэне ў горле камячок...

І зноў стары заплюскаў нечакана
І пацягнуўся да вачэй хусцінкай.
А мы стаім, працятыя пытаннем:
Чаго ж ты плачаш, добры чалавек?

Ты сам прызнаўся, што кругом шчаслівы.
Пагадаваў дзяцей. Прыждаў унукаў.
Сумленны хлеб ясі. Да хлеба маеш.
Чаго ж яшчэ табе хацець, скажы?

І праца добрая ў цябе — па сэрцу,
І ад людзей табе хвала-пашана,
І любіш край, дзе так прыжыўся моцна...
Адкуль жа слёзы гэтыя, зямляк?

Няўжо яны ад той лясной крынічкі,
Дзе піў калісьці пастушок вясковы,
Ад той крынічкі, што не перасохла
За пяцьдзесят гадоў? Няўжо адтуль?..

Калі адтуль — тады няхай жа вечна
У сэрцах б'юць і сочацца крыніцы —
Крыніцы тога шчасця, што і ў самых
Найшчаслівейшых
дапытае слёз!

* * *

Край мой беларускі, край!
Дай мне прыгарнуцца, дай!
Да твайго ляснога
Вераснога долу,
Дзе так шчасця многа
Выпала на долю,—
Дай жа прыгарнуцца, дай!

Край мой беларускі, край!
Дай ты мне напіцца, дай!
Той вады гаючай
З той крыніцы вечнай,
Дзе ад ран балючых
Ты арлоў вылечваў,—
Дай жа мне напіцца, дай!

Край мой беларускі, край!
Дай ты мне паслухаць, дай!
Як на лад пявучы
Старажытнай мовы
Тут гамоняць пушчы,
Там шумяць дубровы,—
Дай жа мне паслухаць, дай!

Край мой беларускі, край!
Дай ты мне прайсціся, дай!
Па тваіх прасторах,
Па шляхах бясконцых,
Уначы — пры зорах,
Раніцой — пры сонцы,—
Дай жа мые прайсціся, дай!

Край мой беларускі, край!
Дай мне наглядзецца, дай!
На твае на пожні,
На лугі ды рэкі,
Каб у час апошні
Ўзяць з сабой навекі,—
Дай жа наглядзецца, дай!

* * *

«Падыміся над бядой і болем,
Калі ты не кволы чалавек...»
Я — не волат. Я бываю кволым.
Часам слёзы бліснуць з-пад павек.

Над сваёй бядой, сваёй загубай
Я ўздымуся... Ды не дай ты бог,
Каб над болем Бацькаўшчыны любай
Я падняцца калі-небудзь мог!

## АПОШНЯЕ СПАТКАННЕ З ВЕРАНІКАЙ

> Нават сціплая надзея памерці ў роднай зямлі і тая была адабрана...
> *З успамінаў бацькі паэта — Адама Ягоравіча Багдановіча*

Далёка ад роднага краю,
Чый вобраз па кроплі збіраў,
У трызненні белага маю
Самотны паэт паміраў.

Ён ведаў, што болей не ўстане,
Апошнія злічаны дні.
Чаму ж аніхто не загляне
З вялікай і мілай радні?

Няшчасная доля — памерці
У смутку-тузе аднаму.
Дзвярыма на першым паверсе
Хтось грукнуў, здалося яму.

Во — крочыць па ўсходках рыпучых,
Во — клямкаю бразгае ўжо.
І стала ад шчасця балюча:
Няўжо гэта праўда? Няўжо?

О божа! Сама Вераніка!
Яго Вераніка стаіць!
Галоўкаю русай панікла,
Журботна, тужліва глядзіць.

Букет васількоў і рамонкаў
Сціскае ля сэрца рукой…
Праклятая богам старонка
Зайшла да паэта ў пакой!

— Ну, што ж ты стаіш, Вераніка?
Не бойся! Бліжэй падыдзі!
Я столькі гадоў цябе клікаў —
І ўсё заставаўся адзін.

Я зведаў хвіліну адчаю
У гэтай чужой старане.
Цяпер адзінота, я знаю,

Навечна пакіне мяне…

За вокнамі пеніўся буйна
Захмелены ялцінскі май.
За вокнамі ўсплёснула бухта:
— Не плач, Вераніка! Бывай!

Яшчэ ты паспееш самотна
Наплакацца ў горкай журбе.
Яшчэ ты адчуеш, як моцна
Яго не хапацьме табе.

## МОВА МАЙГО НАРОДА

Вякамі ёй ходу-жыцця не давалі,
Вякамі чынілі насмешкі ды кпіны,
Вякамі крыўлялі, глушылі, тапталі
Вялікую мову няшчаснай краіны.

Прарочылі лёс ёй — ажно да скanання
Хадзіць за хвастамі быдлячымі з пугай,
Быць моваю дворнічых, прачак ды нянек,
І то — не абчэшацца покуль прыслуга.

О, як пралічыліся злыдні-прарокі,
Што прагнулі бачыць мой край безыменным!
Хай сёння пачуюць дзяржаўныя крокі
Рэспублікі вольнай пад сцягам праменным.

Даў мове свабоду Чырвоны Кастрычнік:
Як кветку жывую у сэрцах расквеціў,
Якую не ўдасца абрэзаць, абстрыгчы
Нікому на свеце, нікому на свеце!

У згодзе з вялікім і мудрым законам
Аб роўнасці братняй і братняй павазе —
Гудзі, мая мова, сярэбраным звонам
І помні аб колішняй крыўдзе-абразе!

На ніве дзяржаўнай, на ніве грамадскай,
Пісьмова ці вусна — ты ліся так складна,
Каб нават і мёртвы — страшэннай грымасай
Скрывіўся чыноўнік пары самаўладнай!

У школе, тэатры і з кожнай трыбуны —
Хай чуюцца нашы пявучыя гукі.
Ад сэрца да сэрца — ці свята, ці будні —
Ідзі, мая мова, ідзі без прынукі!

І так па-дзяржаўнаму смела і горда
Трымайся заўсёды — і дома і ў свеце,
Каб шчасце — гарачаю хваляй да горла,
Каб слёзы — буялі, як росы дасвеццем!

* * *

Тут, між гэтых пагоркаў, у гэтых барах і дубровах,
Каля гэтых азёраў і рэк, каля гэтых крыніц,
Узышла і ўзрасла на вякі наша родная мова —
І ніякай інакшай яе немагчыма ўявіць.

Кожным гукам і словам — па каліўцу — тут прарастала
Разам з кожнай травінкай і зёлкай — найменнямі іх.
Што ж за дзіва, што нашай душой неўміручаю стала?
Мы ж і самі ўзышлі і ўзраслі тут з глыбінь векавых!

## РАЗМОВА З ПЛАНАВІКОМ

Шаноўны дружа, твой даклад быў яркі.
Дый лічбы кажуць самі за сябе.
На ўсіх франтах народнай гаспадаркі
Нішто наш тэмп высокі не саб'е.

Я рад, што, ўперад ірвучыся творча,
Працаўнікі заводаў і палёў
Абыдуць з гонарам любога чорта,
Якіх бы плётак хто пра нас ні плёў.

Па тонах хлеба, паліва, метала —
У пераліку на адну душу —
Такіх паказчыкаў даб'ёмся дбала,
Што плеткарам аж закладзе ўвушшу.

Цудоўна, дружа!
Перспектыўна дужа.
Калі мы здзейснім — а мы здзейснім!— план,
Прадбачу нават, як падскочыць тут жа
Каэфіцыент душэўнага цяпла.

Ад перспектыў такіх святлею ўвесь я.
Адну трывогу ўсё ж не заглушу:
А колькі родных танцаў, родных песень
Тым часам будзе на адну душу?

Твая ж душа не змірыцца з хімерай.
— Гэй, будзь ласкавы,— закрычыць яна,—
Мне родных гукаў выдаць той жа мерай,
Якою выдаў хлеба і віна!

Ці, можа, думаеш: душы ўсё роўна,
Якую музыку падсунуць ёй?
Яна становіцца безабароннай —
Душа без голасу зямлі сваёй.

Давай жа, дружа, памазгуем разам,
Каб не аддаць яе ў палон чужы,
Каб і за самым архімодным джазам
Нам чуўся голас матчынай душы.

* * *

Тут не хочацца ні гаварыць, ні пець
Нібы к вечнасці прыйшоў у госці.
Можа, гэта той курган-капец,
Дзе ляжаць паэтаў даўніх косці.

Каб жыццё ўпустую не пралахаць,
Кожны мусіць нейкі храм свой мець
Дзе не хочацца ні гаварыць, ні пець
Толькі моўчкі, безгалоса плакаць.

## ЛІСЦЕ ТРЫПУТНІКУ

А ён расце, трыпутнік,
А ён цвіце, пакутнік!
*В. Вітка* «Трыпутнік»

Патаптанае,
Здратаванае
Каблукамі і капытамі,
Пакалечанае,
Знявечанае
І машынамі й калясьмі,
Шэрым пылам удзень спавітае,
Невядома чым ноччу ўмытае —
Ці то росамі,
Ці слязьмі.
Дзе такому раўняцца
З іншымі —
Буйнацветнымі,
Ярка-пышнымі,
Што адвеку красою славяцца
І на рынках каштуюць дорага,
Што ў крыштальныя вазы ставяцца
І на ўсіх юбілеях дорацца,
Што кідаюцца ў вочы кожнаму
І прывабліваюць здалёк…
Пагарджанаму,
Прыдарожнаму
І не сніцца падобны лёс!..
Ды хоць вечна яно ўшчуванае,
Як сіроты ў чужой сям’і —
Моц у ім жыве нечуваная —
Моц і сіла самой зямлі.
Гэта ведалі добра продкі
І цанілі трыпутнік некалі:
Скрозь па вёсках
Дзядзькі і цёткі
Карысталіся ім як лекамі.
З апантанай
Паганскай вераю
Мякаць свежых яго ліcткоў
Прыкладалі да ран і вераду,
Да нарываў і сінякоў.
А было яшчэ так:
Дзяўчаты,

Перад сном,
Нібы птушкі пудкія,
Выляталі нячутна з хаты
Да нагледжаных днём
Трыпутнікаў,
І зусім не дзеля забавы
(Дыктаваў рытуал абраднасці)
Адрывалі лісток зубамі
І дамоў яго неслі
Ў радасці,
Пад падушку сабе лажылі
І на сон малады загадвалі —
Нібы ў будучыню заглядвалі —
Пра свой лёс яны
Варажылі.
О, як многа тады ім
Снілася
Тога шчасця,
Што ўсё пазнілася!..

Знаю:
Смешна было б варочацца
Зноў да шчасця,
Што толькі сніцца.
А трыпутнік угледжу —
Хочацца
Па-язычніцку пакланіцца.

## А ДЗЕ Ж ТАЯ КРЫНІЧАНЬКА?

І зноў прысніўся мне начлег на хутары —
За ціхаплыннай, добрай рэчкай Шчарай,
І той далёкі дзень, смугой ахутаны,
Перада мной узнік шчымлівай марай.

І зноў іду, здарожаны і стомлены,
Пад шум бяроз, да лесніковай хаты...
І прачынаюся, як бы ўсаромлены,
За дзіўны сон як быццам вінаваты.

Начлег, начлег... Чаму ён сніцца ўсё-такі?
Зусім, здаецца ж, не было нічога?..
Стары аўтобусік пятляў прасёлкамі
Паміж гарбоў прастору палявога.

На паваротцы, ля старога явара,
Ён прыпыніўся, даўшы ў вокны пылам,
І я сышоў. Духмень-задуха млявая
На блізкі лівень моцна варажыла.

Я не адзін сышоў: услед саскочыла
Высочанькая, стройная дзяўчына
І, ледзь не подбегам, пайшла абочынай,
У белай кофтачцы, аблеглай шчыльна.

Я ў гэты кут — мясціну маляўнічую —
Прыехаў стрэцца з песняю народнай.
Дарога ў далеч пераднавальнічную,
Хоць незнаёмая, здалася роднай.

Там недзе, чуў я, вёска ёсць, Мурожніца,
Дзе, кажуць, песень — хоць вывозь вазамі.
— Ці не ў Мурожніцу мне спадарожніца?
— Не, мне бліжэй.— Тады адкуль жа самі?

— Я з леснічоўкі, з хутара,— азвалася,—
Ад нас да вёскі йшчэ далекавата...
Мы моўчкі йшлі. Размова не вязалася,
І мне было крыху ніякавата.

Усёй істотай, бы ў палёце ластаўка,
Яна імкліва рвалася наперад

І,   пэўна, думала зусім няласкава
Пра незнаёмца, што сцяжыну мераў.

— Вы не студэнтка будзеце? — Завочніца.
— Не на філфаку? — Не, на гістарычным.
Далёка недзе гром пачаў варочацца,
Баском пагрымліваць катэгарычным.

Хвілін праз колькі мы, амаль не бегама,
Прышпарылі да добрай рэчкі Шчары,
Дзе пад густымі вербамі, над берагам,
Стаяў у засені будан дашчаны.

— Маста няма,— сказала спадарожніца,—
На лодцы будзеце перабірацца.
— А перавозіць хто?
— Ёсць перавозніца.
Калі дзе не сышла апахмяляцца.

Акно знутры фанераю заслонена.
Але на стук з’явілася кабета
З прыпухлым тварам.
— Зося? Ужо са Слоніма?
І з дзецюком? Ці не жаніх твой гэта?

Змаўчала Зося — і не запярэчыла.
— Перапраўляйце чалавека, цётка,
Бо скора дождж…
                                    Па лесвіцы з парэнчамі
Уніз сышлі мы, дзе стаяла лодка.

— Залазьце! Ён — хай сядзе пасярэдзіне,
Ты — ззаду стань, каб за яго трымацца.
І не віхляйся! — строга папярэдзіла.—
Нырне жаніх — не будзе зяця матцы.

— Які жаніх! Нам проста разам выпала
Сысці з аўтобуса…— Не мне б казала!
Ты думаеш, калі я трохі выпіла…
Так проста не глядзяць, як кот на сала.

Я крутануўся знеціўкі, абражаны,
Каб адпярэчыць языкастай бабе,—
І лодка тут жа бортам пераважаным

Накрэнілася, нібы воз на ўхабе.

І я адчуў, як за плячо спалохана
Схапіліся учэпістыя пальцы.
Праз міг спакойна зноў вясло пялёхала.
Не дыхаючы, я сядзеў на лаўцы.

І пальцы адпусціліся расслаблена,
Але ляжалі на плячы бязважка.
Я папракаў сябе: «Ну й касалапіна!
Так сапраўды нырнуць было няцяжка...»

Яшчэ раней, чым лодка ў бераг ткнулася,
Зняла руку з майго пляча дзяўчына,
І ў сэрцы шкадаванне варухнулася,
Што перавоз прадоўжыць немагчыма.

Ад рэчкі сцежка павяла бярэзнікам.
І зноў ішлі мы маўчаком абое.
Лістоту вецер шкуматаў гарэзліва,
І гром грымеў ужо над галавою.

Ах, хоць бы трошкі неба памарудзіла!
Вось-вось прарве... З усіх бакоў абклала.
Дзяўчына зразумела, што мне рупіла.
— Перачакайце дождж у нас,— сказала.

І тут я ўбачыў хату за бярозамі,
Асвер, шпакоўню на страсе паветкі.
Гародчык цвіў вяргінямі найрознымі,
Павытыркаўшы за штыкетнік кветкі.

Ля веснічак — у самаробнай вязанцы —
Стаяла гаспадыня — матка Зосі.
— Дзень добры вам! Ад ліўня не схаваеце?
— Дзень добры! — ціха адказала.— Просім.

Жанчыну, бачна, штось крыху збянтэжыла —
Глядзела на дачку з нямым пытаннем.
Па праву маці ведаць ёй належала,
Што тут няма ні хітрасці, ні тайны.

— Вы ўжо прабачце, што як госць няпрошаны...
— Ды калі ласка!.. Добра, што не змоклі.

І тут па лісцях — гулка, як гарошыны,—
Застукалі, залапаталі кроплі.

Пасля, бы залатым даўжэзным поясам,
Маланкай неба ўраз перавілося
І, рынуўшыся з вышыні бязбоязна,
З вясёлым гулам долу палілося.

Ды ўжо было не страшна падарожніку,
Што азіраў прытулак нечаканы:
Гамэрню-печ, пасуду на заложніку,
Вялізны куфар, меддзю акаваны.

— Далей праходзьце, што ж вы тут спыніліся?
Далей — на чыстай палавіне хаты —
Падлога, сцены, столь ажно свяціліся:
Бы жаніха вось-вось чакалі ў сваты.

— Ці вы ў Мурожніцу па службе з горада,
Ці, можа, з іншае якой прычыны?
— Іду па песні. Чуў, што надта здорава
Старыя песні там пяюць жанчыны.

— Старыя песні? Нашыя даўнейшыя?
— Ну, так, старыя.— А нашто яны вам?
Ці хіба новыя не прыгажэйшыя?
Ад тых, даўнейшых, толькі сэрца ные…

— Не ад усіх. Дый сэрца чалавечае
Не можа жыць у вечнай весялосці.
Не ные толькі сэрца бессардэчнае,
Счарсцвелае ад зайздрасці і злосці.

З-за полага квяцістага, адзетая
У новую сукенку, Зося выйшла:
— І мама шмат даўнейшых песень ведае,—
Сказала ціха, як бы не сумысля.

— От! Памаўчала б ты з маімі песнямі!
Знайшла спявачку! — зазлавала маці.
— А можа, праўда? — падхапіў я весела.—
То не саромцеся — ў сваёй жа хаце!

— Нядаўна вечарам як расспявалася,

Дык так прыгожа!..— нагадала Зося.
— Калі было!.. Усё пазабывалася!..
— І вы не ўспомніце, калі б прыйшлося?

— Ну, каб прыйшлося, можа б, што і ўспомніла,
Але — дзіравая ўжо галава, як сіта...
За вокнамі раз-пораз зыркім полымем
Маланка ўспыхвала і біў пярун сярдзіта.

— Я не пайду ад вас, пакуль хоць трошачку
Не ўзычыце мне песень на дарогу.
— Не ведаю, ці выйдзе што, дальбожачка...
Хіба што Зоська падпяе ў падмогу?..

Тым часам стол аздобіўся пасудаю:
Бутэлька, стопачкі, талеркі, сподкі.
— Пакуль спяваць — хадзіце папалуднуем,
Якраз пара. Ды і з дарогі ўсё-ткі...

Аднекваціца не стаў — маглі б пакрыўдзіцца,
Што грэбую гасціннасцю і ласкай.
Дый дзе калі яшчэ натрапіць прыйдзецца
На паляндвічку з вэнджанай каўбаснай!

— Шкада, што сёння сын, ляснік, у горадзе —
Ён вас бы кропляй падтрымаў з ахвоты...
Ну, вы яшчэ хоць стопачку агарайце —
Жытнёўка ж. Праўда, не сваёй работы.

Чыёй работы — госця не цікавіла.
Хацелася хутчэй паслухаць песні.
— То вы ж і самі выпіце хоць каліва —
Лягчэй забытае ў душы ўваскрэсне...

Магнітафон стаяў напагатоўнасці
І нецярпліва лыпаў жоўтым вокам.
А лівень, што шалеў да непрыстойнасці,
Знямог, сцішэў і адступіў ад вокан.

Тады і загучала песня родная —
Старая песня беларускай вёскі.
Яе краса жывая, несмяротная
На дне душы будзіла адгалоскі.

А на гары ялушачка,
Пад гарою стаіць сосна.
Ой, я пяю, весялюся,
А на сэрцы маім тошна.

А на сэрца слёзкі льюцца
Неспатольна, несціхана:
Поле маё шырокае
Не арана, не пахана.

Лугі мае зялёныя
Не кашоны, не сушоны.
Дзеткі мае дробненькія —
Яны вельмі засмучоны.

Запражыце, закладзіце
Мне коніка варанога:
Ой, я сяду ды паеду
Да татачкі дарагога.

Парадзь, парадзь, родны татка,
Як мне гора гараваці,
Як мне гора гараваці —
Дробных дзетак гадаваці?..

— Ад мамы песня: памятка і спадчына.
Яна памерла маладая вельмі,
І тата сам нас гадаваў, без мачыхі,
І ўсё прасіў, каб гэту песню пелі.

А я была сярод сястрычак большаю
І разумела ўсё душой дзіцячай:
Ён надта маму шкадаваў, нябожчыцу,
Дык мы пяём, а ён сядзіць і плача…

За першай — самай дарагой для памяці —
Ужо вальней ліліся песні Маці:
І пра вянкі, што трэба віць Купалінцы,
І пра мядуначку на сенажаці,

І пра руплівых жнеяк, што нажаліся
І прамаўляюць: «Ой, дабранач, поле!»,
І пра замужніцу, што горка жаліцца
На мужыка — разбоя ды прапоя…

— А ты што, Зоська? Што з табою сталася?
Без падгалосачка твайго мне цяжка.
Спяём, як дзеўка ў казака пыталася?
— Спяём,— кіўнула Зося-сарамяжка.

І стаўся цуд: такога падгалосачка —
Зямлю прайдзі — пачуць не давядзецца!
«Ах, людзі родныя! Ах, Зося-Зосечка!
Хай сто гадоў табе вось так пяецца!»

— Казачэнька мой міленькі,
Калі мы будзем ад'язджаць?
— Як усе людзі палягуць спаці,
Мілая, любая мая.

— Казачэнька мой міленькі,
Дзе ж мы будзем начаваць?
— У зялёным гаю — ты ляжаш скраю,
Мілая, любая мая.

— Казачэнька мой міленькі,
Чым мы будзем умывацца?
— Ой, я расою, а ты слязою,
Мілая, любая мая.

— Казачэнька мой міленькі,
Што мы будзем вячэраць?
— Я — з маслам булку, ты — думай думку,
Мілая, любая мая.

О, песня Маці! Колькі горкай горычы
Сабрала ты ў адным вялікім сэрцы
З лугоў і ніў, з застолляў ды з каморачак,
Калі душа гібела ў паняверцы!

Дарма, дарма цябе чужынцы мучылі,
Тваю душу жывую вытраўлялі:
Што, як само жыццё, ты неўміручая —
Прыблуды-ворагі таго не зналі.

Дарма спяшаліся і ўсе адступнікі
Прадаць цябе — за слоўца па капейцы:
Што кроўю выкупяць цябе наступнікі —
І сніць не снілі слізні-адшчапенцы!

Жывеш і будзеш жыць ты, песня матчына,
Пакуль народа сэрца будзе біцца!
Мы сваю долю ў свеце перайначылі
Не для таго, каб на цябе забыцца!..

— Хіба не праўда, Зося? — Што? — спалохана,
Пачырванеўшы, глянула дзяўчына.
— Што не даруе новая эпоха нам,
Калі растраціць гэткі скарб Айчына.

— Вы знаеце... Вы, можа, не паверыце —
Я неаднойчы думала таксама:
Няўжо наш век аглухне і адвернецца
Ад гэтых песень, што спявае мама?

Цяпер усе так гоняцца за моднымі,
Абы пачулі — тут жа пераймаюць.
А ці ж іх можна параўнаць з народнымі,
Што і баляць і боль твой сунімаюць?..

І зноў збянтэжылася, як бы просячы
Прабачыць ёй, што так душу адкрыла.
А я — расцвіў ажно: ах, Зося-Зосечка!
Як шчыра, хораша ты гаварыла!

Дык вось якая ты, маўчуння строгая,
Ты — беларуская лясная кветка!..
— Забылася ўжо,— кажа маці,— многае,
Забылася... Успамінаем рэдка.

За вокнамі даўно быў вечар. Поціху
Шамцеў па лісці дождж у змроку сінім.
— Не варта ў непагадзь ісці папоцемку,
Начуйце ў нас,— сказала гаспадыня.

— З адной умоваю: калі дазволіце
На вышках легчы. Сена ж ёсць, напэўна?
— Ды, дзякуй богу, ёсць. Крыху назвозілі,
А толькі вас там... рана ўзбудзяць пеўні.

— То вельмі добра: мне і трэба раненька,
Дый пеўняў я даўно не чуў, дарэчы...
Праз двор вяла, мігаючы ліхтарыкам,
Дачка, накінуўшы плашчок на плечы.

З варот ударыла мурожным водарам,
Дыхнула ў твар, у грудзі налілося —
Аж раптам сэрца захадзіла ходарам.
— Дабранач вам! — І вам дабранач, Зося!..

Дабранач, Зося!.. Хай вам спіцца соладка!
А да мяне не прыйдзе сон мой сёння,
А прыйдзе біць у скроні гулкім молатам
Вялікае, шчаслівае бяссонне.

І не паможа мне ні гэты ўкрадлівы,
Напеўна-ціхі дожджык шапатлівы,
Ні гэты морак, ласкава-спагадлівы,
Ні гэты пах, дурманліва-п’янлівы...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І двор, і кветнік, і бярозы белыя —
Усё зіхцела ў пераспелых росах,
Калі ля весніц, ціхая, нясмелая,
Руку мне Зося падала на ростань.

— Шчаслівa!.. Песні вам ад сэрца ўзычаны...
Хоць лепшай з іх пачуць вы й не паспелі...
— Якой?! — Ды ёсць... «А дзе ж тая крынічанька»
— Крынічанька? Чаму ж вы мне не спелі?!.

— Не ведаю... Хацела, ды... не спелася...
— То мо цяпер? — пытаю, дых стаіўшы.
— Не, не,— сказала і чагось сумелася: —
Яе вам лепш, чым я, спяе хто іншы...

— А як ніхто?— Ніхто?.. Тады — не ведаю...
Тады патрапіце вярнуцца, можа...
І ўсё. І знікла — чыстая і светлая,
Як раніца, што бралася прыгожа!..

Дарога, зрэзаная каляінамі,
Вяла мяне ўжо праз гушчар намоклы.
Лес галасамі поўніўся птушынымі,
Ды я не чуў іх радасныя модлы.

Я сам шчаслівы быў, яшчэ не знаючы,
Што, як жар-птушку, упусціўшы песню,
Увесь наш край — ад Прыпяці да Нарачы —

Сто раз прайду, а мару ўсё не здзейсню;

Што будуць дні злятаць і гаснуць знічкамі,
А мне ўсё мерыць вёрсты незлічона,
І ўсё шукаць: а дзе ж тая крынічанька?
І ўсё пытаць: а ці не замучона?..

* * *

Ах, якая над Гайнай купальская ноч!
Самы раз бы шукаць кветку-папараць,
Самы раз уплятаць летуценні ў вянок,
Самы раз белы корань выкапываць!

Ды ні гуку над Гайнай — пад цёмным шатром.
Толькі зоркі — як вочкі Купаліны.
Дзе ж вы, хлопцы, дзяўчаты? Чаму за сялом,
Над ракою, агні не запалены?

Раскладайце, паліце купалля агні!
Не затым, каб ускрэсла мінуўшчына,
А каб лепей убачыць наступныя дні,
Да вытокаў душой дакрануўшыся...

Раскладайце агні — хай плывуць па рацэ,
Можа, ў зыркім святле іх вы ўгледзіце
Постаць Янкі Купалы з кійком у руцэ —
Запрасіце яго прысуседзіцца!

Ён вас, пэўна, папросіць «Каліну» спяваць
І, напэўна, ад слёз не стрымаецца,
Скажа: «Ах жа, якое купаллейка ў вас!
Ах, якую вы спадчыну маеце!..»

## БЫЛАЯ СЯДЗІБА АСАДНІКА

На ўзлеску, дзе трава буяе дзіка,
Дзе захмызеў удзірванелы дол,
Калісь асадніка была сядзіба —
Чужынца-пана ўтульнае гняздо.

Ён думаў тут навек укараніцца
І ўсё загрэбці, ўсё прыбраць да рук:
І лес, і луг, і поле, і крыніцу,
І нават песню, што пяе жаўрук!..

Ён азіраў куток — амаль не райскі —
І верыў: «Я тут гаспадар адзін!
А ўсе Сымоны, Пётры ды Параскі
У служках будуць у мяне хадзіць.

«Я выб'ю, выб'ю,— паўтараў ён хмура,
Бунтоўны дух з тутэйшага хам'я:
Мая тут будзе панаваць культура,
І мова будзе тут гучаць мая!..»

Гугнелі модлы пад жалезным дахам,
Грымелі клямкі, бразгалі замкі.
А двор мычаў, і рохкаў, і кудахкаў,
І гагаў, і брахаў,— на ўсе бакі!..

І вось — нічога: ні двара, ні дома,
І цішыня — як быццам дзень аглух.
Адзін падмурак выступае з долу,
Ды яблыні здзічэлыя наўкруг...

Гляджу і думаю: які нялюдскі
І марны лёс асадніцкіх сядзіб!..
На ацалелым камені-прыступцы,
Як дух пустэчы, яшчарка сядзіць.

## СЭРЦА ДЗЯДЗЬКІ РЫГОРА

*Р. Р. Шырму*

Колькі птахаў пявучых у родных лясах,
Колькі нот непаўторных у іх галасах,
Колькі тонаў, адценняў, ладоў, перабораў —
Столькі песень у сэрцы у дзядзькі Рыгора.

Колькі ў краі бацькоўскім празрыстых крыніц,
Колькі іх, між пагоркаў, булькоча-звініць,
Бегучы, ручайкамі, да сіняга мора,—
Столькі песень у сэрцы у дзядзькі Рыгора.

Колькі ў небе вясновым за тысячы год
Па-над роднай зямлёй праграмела грымот,
Абдараючы радасцю долы і горы,—
Столькі песень у сэрцы у дзядзькі Рыгора.

Дык якім жа павінен ён волатам быць,
Каб у сэрцы адным гэтак многа ўмясціць?
Ой, не дзіва, скажу вам, не дзіва, не дзіва,
Калі песняю песень у сэрцы — Радзіма!

* * *

Я хаджу, закаханы у твае краявіды,
І шапчу як прызнанне: о мой край дарагі!
Зноў нясу табе ў споведзь і трывогі, і крыўды,
І надзеі, і ўцехі, і любоў, і грахі...

Колькі доля ні судзіць мне далёкіх вандровак —
Я вярнуся навечна ў засень клёнаў тваіх.
Толькі з роднага долу, толькі ў роднай дуброве —
Як не дрэвам, хоць зёлкай прарасту для жывых.

* * *

Углядайся, мой сыне, пільней углядайся
У святыя абрысы бацькоўскай зямлі.
На чужыя спакусы душой не паддайся,
Каб нашчадкі мяне за свой лёс не клялі.

Каб не ўспомніла горкім дакорам краіна:
«І чаго ён быў варт, і нашто было жыць:
Нават сына свайго, нават роднага сына
Не ўразумiў, чым трэба ў жыцці даражыць!..»

## МОЙ БЕЛЫ ДЗЕНЬ

І я стаяў над прорвай роспачы,
І ноч мне цемрыла душу,
І думаў, ліст слязою росячы:
Нічога больш не напішу.

Але вяртаўся промень страчаны,
У сэрцы плавіўся лядзень,
І зноўку вера ў слова матчына
Свяціла мне, як белы дзень.

* * *

Дружа, не будзь да аблудных бязлітасна строгі:
То не віна, а бяда іх; бяду — не карай.
Крыўдна, вядома, што збіліся людзі з дарогі
І не шануюць, як трэба, бацькоўскі свой край,
Хоць гаварылі яшчэ мудрацы-скамарохі:
«Помні: на роднай зямлі — і пад елкаю рай».
Простыя ісціны часам так цяжка даюцца:
Покуль адолееш — слёз ручаіны пральюцца.

* * *

Ах, валошка, валошка, сястрыца рамонка!
Зноў вы побач на ўцеху душы зацвілі.
Як жа ў вашых імёнах пяшчотна і звонка
Мова маці гучыць — голас роднай зямлі!

Ах, валошка, рамон, не дажыць бы да мукі,
Каб зракліся імён вы, што маці дала,
Каб, убачыўшы вас, гаварылі мне ўнукі:
«Глянь, вунь побач з артурам ірэн зацвіла!»

* * *

*Памяці Максіма Гарэцкага*

Дзе вы, дбайныя руплiўцы песень родных?
Мы сягоння ў працы побач быць маглі б.
Маладых яшчэ скасілі вас нягоды,
Адарваўшы ад бацькоўскіх гнёзд-сяліб.
Але вера, што калісьці вас натхняла
У вялікаснай сяўбе і на жніве,—
Тая вера не памерла, не сканала:
Тая вера, тая вера ў нас жыве!

* * *

Страціў слова, страціў спадчыннае слова —
Штосьці страціў у душы абавязкова!
Можа — годнасці хоць кропельку малую?
Можа — мудрасці хоць дробачку якую?
Можа — памяці хоць зернетка-іскрынку?
Можа — праўды хоць пылінку-парушынку?
Я не ведаю дакладна, што ты страціў.
Запытайся — ці не скажа табе маці...

* * *

Жанчыны вёсак беларускіх, вам
Я кланяюся ўклонам самым нізкім —
За кожную іскрынку хараства,
Што ззяе ў слове, ад калыскі блізкім.

Пачуеш вас, не зманеных маной,—
І весялей глядзіш у твар эпохі.
Дык пасядзіце ж, любыя, са мной,
Пагаманіце, пагукайце трохі...

* * *

Я — за прагрэс. І сэрцам і душою.
Ды і чаму мне не вітаць прагрэс?
Куды ні глянь — мой край, як сад вясною,
Непазнавальна абнавіўся спрэс.

Адну надзею толькі ў сэрцы маю
(Пра гэта скажа нехта, як пра грэх),
Што родны край і праз вякі пазнаю
Па песні матчынай... Я — за прагрэс.

* * *

*Пімену Панчанку*

Вясковы ранак на пачатку чэрвеня,
З пары маленства выкліканы памяццю:
Каровы пасвяцца па роснай шэрані,
З сяліб дымкамі цягне — печы паляцца,
А росы колкія — аж бегчы хочацца,
А неба сіняе — аж перасінена...
Вясковы ранак — як маленства, сонечны
І беларускі — як усмешка Пімена.

* * *

Зноў у спадчыну прадзеда лезу,
Каб яшчэ раз душою дапасці,
Як пад вечныя пошумы лесу
Гнеў спяліў ён у думах аб шчасці.

Як ён прагнуў з нядоляй расстацца,
Як ён марыў аб братняй суполцы,
Каб не чуцца абкрадзеным старцам
І не плакаць слязамі прапойцы!

* * *

Услаўлялі яго, заплятал ў вянкі,
Потым кпілі з яго, абзывалі ўсяляк,
А ён моўчкі цвіце, як і цвіў праз вякі,
І прызнайцеся шчыра, нашчадкі сялян:
Ці ж не сумна было б гэтай сцежкай ісці
Між густой збажыны, каб хоць рэдка здалёк
Сінім вокам сваім не глядзеў, не свяціў,
Не трывожыў шчымліва душу васілёк?

* * *

«Нашто трымацца так за памяць продкаў?!» —
Скрывіўся крытык, прачытаўшы вершы.
О, тонкі майстар каверзных папрокаў,
Схавай капусны храпак, што жуеш ты!

Паразумецца нам не ўдасца, мусіць:
Мяне — радзіла ў цяжкіх муках маці,
Цябе — гатовага знайшлі ў капусце:
Табе — даволі за качан трымацца!

* * *

Пашкадуем, і моцна яшчэ пашкадуем,
Як да розуму прыйдзем (а прыйдзем, відаць!),
Што, пра будучнасць дбаючы, гэтак бяздумна
Завіхаліся памяць сваю абкрадаць.

Ні таўсцейшаю лустай, ні большай капейкай
Апраўдаць гэту «чыннасць» не зможам павек,
Бо як правільна ў кнізе напісана нейкай:
Не адным толькі хлебам жыве чалавек.

**АКАДЭМІКУ Г. І. ГАРЭЦКАМУ**

Найслынны ў краі ў нас геолаг,
Равеснік веку на зямлі,
Не з роду хліпкіх або кволых
У свет навукі Вы прыйшлі.

Ваш крок не дробны, шлях не вузкі
І моц у постаці відна.
Асілкі з казак беларускіх —
Вам несумненная радня.

Ні дня не знаючы спачыну,
Тварылі Вы, бы ўласны лёс,
Антрапагенную карціну
Зямлі, што люба нам да слёз.

Абрыс дакладны і праўдзівы
Нам сёння можа расказаць,
Якім быў воблік-твар Радзімы
Мільён гадоў таму назад.

Кудой цяклі калісьці хвалі
Пра-Нёмана і пра-Дняпра
І дзе іх рэчышчы схавалі
Адклады-залежы дабра;

Якое дзе здабыць багацце
Нам трэба ў долах векавых,
Каб годна чуцца ў роднай хаце
І на павагу мець правы.

Ваш творчы плён — не плод ілюзій
Ён прымушае думаць нас
І пра нябачны той алювій,
Што намывае ў душах час.

Ці ёсць там россып залацінак?
Ці — толькі гравій і пясок?
Ці не пара паклапаціцца,
Каб матчын дар не перасох?

Усё, чым радуе нас сёння
Саюз пароды і вады,

Да нас ішло з вякоў прадоння,
І Вы заглянулі туды.

Такую даль глыбінь, я знаю,
Разгледзець можа толькі той,
Хто бачыць будучыню краю
Празорным сэрцам і душой,

Хто верыць свята і трывала
У свой народ перад усім,
Як верыў Колас і Купала
І брат старэйшы Ваш — Максім.

Штодзень навукі полем ратным
Вяло Вас гэта ж пачуццё,
І стала подзвігам сапраўдным
Усё Ваша слаўнае жыццё.

* * *

Любая сэрцу Лагойшчына,
Край маіх дум запаветных!
Ціша бароў партызанскіх,
Звонкая радасць крыніц,
Стужачкі рэчак бруістых,
Зелень узгоркаў прыветных
Ведаю ўсё тут на памяць,
Дорага ўсё да драбніц!

Засень гаёў задуменных,
Белыя крушні на ўзмежку,
Люстра лясной азярыны,
Дуб-велікан у лагу...
Толькі вадой тваіх студняў
Смагу ўталяю дарэшты.
Толькі бяроз тваіх срэбрам
Сэрца асветліць магу!

* * *

Мае равеснікі, з якімі, помніцца,
Прызыўнікамі разам мерзлі-моклі,
Даўно стаяць на капітанскіх мосціках —
У белых кіцелях і пры біноклях.

Абводзяць даль паглядам трыумфатара,
Раз-пораз гладзяць на грудзях калодкі.
І мроіцца за лініяй экватара
Ім адміральскай славы хлеб салодкі.

А мне па сэрцу чын матроса простага
(Хоць пэўна ў мічманы я змог бы выйсці).
Упэўніўся — пасля вясёлых роздумаў:
З такіх, як я,— у труме больш карысці.

Я ля машын хаджу, ля гулкіх дызеляў,
Прапахлы ўвесь мазутам і саляркай,
Бянтэжуся я капітанскіх кіцеляў
І не зайздрошчу белізне іх яркай.

Адно я ў гэтым рэйдзе цвёрда ведаю:
Каб карабель праз штормы-ураганы
Прыбыў шчасліва ў прыстань запаветную —
Я мушу службу несці без заганы.

Бывала горка мне. Ды не зняверыўся
Я ў лёсе ўласным. І ў сябрах таксама.
Бо сэрцам я заўжды на родным беразе —
З яго лугамі, нівамі, лясамі.

І калі ўрэшце выйду я на палубу,
Як у старой той песні, ледзь прытомны,
І вочы памутнеюцца запалыя,
І ў іх апошні раз успыхнуць промні,—

Падхоплены сяброўскімі, рабочымі
Рукамі моцнымі, я гляну ўперад
І прашапчу: «На родны бераг, хлопчыкі,
Хоць жменяй попелу — на родны бераг!..»

* * *

І нашы песні даўнія і скокі
Стваралі продкі для сябе саміх.
Яны ж нясуць і сёння ў свет шырокі
Імя зямлі, што акрыліла іх.

Калі табе, пясняр, патрэбны ўрокі —
Дык вось адзін: старайся гэтак пець,
Каб дом свой родны песнямі сагрэць —
Тады пачуе іх і свет шырокі!

## ЛЁС І ПЕСНЯ

Я аглядаў чужыя гарады,
Не нашы помнікі не нашай славы —
І быў ад крыўды зрок слязой засланы,
І біў у скроні думкі ток круты:

Нелітасцівы быў наш лёс, браты:
Красу, што продкі з любасцю стваралі,
Чужынцы з лютасцю агнём сціралі,
Каб не ўцалелі нават і сляды.

Але сціхаў няўчуты крык бяды —
І паўставала з небыцця нанова
Краса ў абліччы каменя і слова,
Каб зноў зрабіцца прахам праз гады.

І зноў кляліся прадзеды-дзяды:
«Сто раз памром, а не пакінем верыць
У нашу заўтрашнюю славу-веліч,
У нашы заўтрашнія гарады!..»

Даўно нам свеціць дзень наш малады,
Свой новы лёс народ спакойна творыць.
Адкуль жа ў песні праступае горыч?
З глыбінь вякоў... Там — бездань гаркаты.

## ЛІРЫЧНЫ КАМЕНТАРЫЙ ДА НАШАГА РАДАСЛОЎЯ

Мы ўзышлі не з насення, што ветрам занесена,—
Мы не дзікай травы самарослыя парасткі.
У глыбінях зямлі, гераічнай і песеннай,
Нашых душ карані — з вузлякамі упартасці.

Сокам вотчынных гоняў адроду мы ўспоены,
Сонцам родных нябёс мы з маленства аблашчаны,
Як асілкі-дубы над дняпроўскімі поймамі —
Паяднаныя часам нашчадкі і прашчуры.

Мы на золку далёкім ардзе не скарыліся,
Славай Грунвальда выйшлі ў вялікія ратнікі.
Нас будзіў да святла стук друкарань скарынінскіх.
Да братоў мы гарнуліся сэрцамі братнімі.

Каліноўскі дарэшты пазбавіў нас кволасці —
Веру-мужнасць сваю завяшчаў нам з-пад віселыні.
З гнеўнай лірай Купалы і з эпасам Коласа
Мы спазналі сябе і свой голас узвысілі.

Мы ўздужэлі пад сцягам Кастрычніка полымным,
У працоўных атаках на моц старасветчыны,
У грымотах-пажарах у дні векапомныя,
Калі кожным чацвёртым свой выбар засведчылі.

Гэтай повязі кроўнай, якой мы прывязаны
Да бацькоўскай зямлі, не парвуць, не растурзаюць
Аніякія буры-вятры непрыязныя —
Нашы сэрцы ад іх толькі больш загартуюцца!

І як вечна вясне святкаваць тут агледзіны,
Мовай радасці з долам і небам гамонячы,—
Так і нам у вяках тут, з братамі-суседзямі,
Жыць і верыць у лёс незахмарана-сонечны.

## МОЙ ПАРЫЖ

*З дарожнага цыкла, якога не будзе*

Парыж? А як жа! О, канешне!
Уразіў моцна — што й казаць.
Пасля такой паездкі — грэшна
Хоць колькі рыфмаў не звязаць.

Таму й пішу — у лад з натурай:
«Штоноч у сне, браткі, штоноч
Гляджу на... Полацк і на Тураў —
І не магу адвесці воч!..»

* * *

Толькі б ведаць, а шчаслівы быў бы,
Што мой сціплы плён не прападзе
І на роднай матчынай сялібе
Хоць камусьці ў сэрца западзе.

Хоць адзіным парасткам узыдзе,
Прарасце, праб'ецца да святла...
Толькі б ведаць, а не быў бы ў крыўдзе,
Што нямнога доля мне дала.

**ЗМЕСТ**

Гілевіч Н.

Як дрэва карэннем: Вершы і паэмы.: Для ст. шк. узросту.— Мн.: Юнацтва, 1986,— 238 с.

Зборнік “Як дрэва карэннем” лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР Ніла Гілевіча складаецца з чатырох раздзелаў: у першым — вершы пра радасць жыцця, працы і творчасці, пра дружбу і каханне, пра высокі абавязак і адказнасць быць чалавекам на зямлі; другі — прысвечаны памяці вайны; у трэці раздзел увайшлі вершы пра вялікае пачуццё брацтва, што аб’ядноўвае суайчыннікаў нашай шматнацыянальнай краіны і ўсіх людзей добрай волі на планеце; у чацвёртым раздзеле — вершы і паэмы аб роднай Беларусі, аб прыгажосці яе прыроды і велічнасці яе духоўнага багацця.